# ЗАПІСЫ

## БЕЛАРУСКАГА НАВУКОВАГА ТАВАРЫСТВА

Выданьне непэрыядычнае.

СШЫТОК 1.

Вільня — 1938 г.

# ЗАПІСЫ
## Беларускага Навуковага Т-ва

1938 г. Вільня. Сшыток 1.

**Мікалай Шкялёнак**



## Падзел гісторыі Беларусі на пэрыёды.

Патрэба дзяленьня гісторыі на пэрыёды адчуваецца ня толькі ў сусьветнай, але і ў спэцыяльнай гісторыі аднаго народу, калі толькі разглядаецца даўжэйшы час яго жыцьця. Пэрыёды ў гісторыі — гэта хронолёгічныя пласты, выдзеленыя з агульнае масы фактаў, ілюструючыя асобныя этапы эвалюцыі жыцьця народу. Яны зьяўляюцца якбы касьцяком, на якім узьнімаецца ўвесь гістарычны будынак. Калі падзел гісторыі на пэрыёды будзе мецьзаганы, тады ўвесь будынак гісторыі народу будзе абапёрты на кволым або фальшывым фундамэнце.

Дзеля падзелу гісторыі на пэрыёды трэба перш-на-перш устанавіць, якія перамены ў жыцьці народу павінны лічыцца найглыбейшымі. Гэтыя перамены абазначаюць дату ў эвалюцыі гістарычнага жыцьця народу. Здарэньне, каторае выклікала перамены, прыймаецца за пачатак або канец пэрыёду. Гэтыя рашаючыя здарэньні бываюць часта аднароднымі з тымі, эвалюцыя каторых дасьледуецца, але дужа часта яны бываюць накшага роду і бяруцца з чужое гісторыі.

Пэрыёды павінны будавацца адпаведна да эвалюцыі шматлікіх родаў фактаў. З гэтай мэтай трэба шукаць здарэньняў, каторыя абазначаюць пэрыёд адначасна ў найважнейшых галінах жыцьця народу. Згэтуль вывад, што падзел на пэрыёды будзе залежны ад зьместу й шырыні дасьледаў гісторыка. Калі, прыкладам, абмежавацца толькі палітычным жыцьцём народу, дык падзел на пэрыёды можа быць іншым, чымся тады, калі даць адначасна абраз эвалюцыі духовае й матэрыяльнае культуры народу. У вапошнім прыпадку за аснову падзелу на пэрыёды трэба выбіраць здарэньні каторыя выклікалі зьмены ўва ўсіх дасьледаваных галінах жыцьця.

Дагэтуль у беларускай гісторыі трымаецца падзел яе на чатыры пэрыёды: 1) *полацкі* (ад IX да паловы XIII ст.), 2) *літоўска-беларускі* (ад паловы XIII да паловы XVI ст.), 3) *польскі* (ад паловы XVI да канца XVIII ст.) і 4) *расейскі* (ад канца XVIII ст. да вялікай рэвалюцыі на Усходзе Эўропы). Гэткага падзелу трымаецца ведамы беларускі гісторык праф. Ігнатоўскі і ў сваім „Кароткім нарысе гісторыі Беларусі“ дае абаснаваньне яго.

Ня трэба доўга спыняцца, каб паказаць, што гэты падзел ня выдзержавае крытыкі.

Наўперад, што азначае *полацкі* пэрыёд у гісторыі Беларусі? Праф. Ігнатоўскі бачыць тут пару цалком незалежнага існаваньня беларускага народу. Гэтая азнака, спатканая ім у даўнейшай Полаччыне, трэба думаць, здэцыдавала аб назове ўсяго пэрыёду. Дае гэта, аднак, няправільны пагляд на істоту гэтае пары.

Полаччына ніколі не абыймала ўсіх беларускіх земляў, усяго беларускага народу. Гэта была адна з наймагутнейшых беларускіх валасьцяў (княстваў), побач з каторай існавала *смаленская* валасьць, што абыймала мала меншую за Полаччыну частку беларускіх земляў. Роля Смаленшчыны ў гэтую пару беларускай гісторыі была ані ня меншай, як роля Полаччыны. Гэтыя два незалежныя княствы згулялі ў найдаўнейшай беларускай гісторыі аднолькава важную ролю і аднолькава заслугуюць на ўвагу.

Аднак, апрача Полаччыны й Смаленшчыны беларускімі валасьцямі былі *турава-пінская* й *северская*. Праўда, ня мелі яны гэткага значэньня, як Смаленшчына й Полаччына, аднак гісторыі іх павінна быць прысьвячана належная ўвага. Ня можа быць тут перашкодай тое, што северская валасьць была ўвесь час, а турава-пінская — ў некаторых мамэнтах у залежнасьці ад небеларускіх палітычных і культурных цэнтраў.

Таму азначэньне гэтага пэрыёду адно толькі як *полацкага* не дае правільнага аб ім паняцьця, хоцьбы й гаварылася тут з большага і аб іншых валасьцёх. Прынцып pars pro toto ня можа быць ужываны ў гісторыі.

Няправільным ёсьць такжа азначэньне другога пэрыёду ў беларускай гісторыі, *як літоўска-беларускага*. Пэрыёд гэты, паводле праф. Ігнатоўскага, паўтараючага тут вывады чужых гісторыкаў, пачаўся злучэньнем у палове XIII ст. літоўскімі плямёнамі ў адно гаспадарства расьцярушаных і падупалых беларускіх земляў. Гэтае новае гаспадарства дастала назоў *Вялікага Княства Літоўскага*. У ім, кажа Ігнатоўскі, кіруе гаспадар ліцьвін, а пануе культура й мова заняпалае палітычна Полаччыны.

Калі назваць гэты пэрыёд *літоўска-беларускім*, дык трэба высьніць, у чым выявілася роля літоўскага складовага элемэнту ў жыцьці беларускага народу ў разгляданым пэрыёдзе. Праф. Ігнатоўскі не выясьняе, у чым трэба шукаць глыбейшае ролі гэтага літоўскага элемэнту. Астаецца толькі, як адзіны аргумэнт, тое, што ў гэтым пэрыёдзе ліцьвіны й беларусы жылі ў супольным гаспадарстве і супольна ім кіравілі. Але ў Вялікім Княстве жылі і ўкраінцы, дык чаму не назваць яго літоўска-беларуска-украінскім? Значыць, толькі што разгледжаны аргумэнт праф. Ігнатоўскага, як пабачым і

ніжэй, ёсьць няістотны, нехарактэрны дзеля азначэньня гэтага пэрыёду і не выяўляе ягонае істоты. Апрача таго, Ігнатоўскі лішне скарачае гэты пэрыёд да паловы XVI ст. (Люблінскае вуніі 1569 г.). Люблінская вунія ня можа быць канчальнай датай гэтага пэрыёду, бо яшчэ пасьля гэтай вуніі фактычная незалежнасьць Вялікага Княства Літоўскага існавала прынамся да сьмерці вялікага канцлера Льва Сапегі († 1633 г.). Пара дзейнасьці Л. Сапегі, каторая прыпадае пасьля люблінскае вуніі, у гісторыі беларускае пісьменнасьці й культуры завецца нават „залатой“. Трудна аднесьці яе да *польскага* пэрыёду ў гісторыі Беларусі. Люблінская вунія, хоць фармальна падкапала асновы самастойнасьці Вялікага Княства, але прынамся да паловы XVII ст. ня мела вялікшага практычнага значэньня, чымся ўсе папярэднія вуніі, каторыя на дзеле ні ў чым не парушалі фактычнае самастойнасьці Вялікага Княства Лістоўскага. З гледзішча тагачасных беларускіх інтарэсаў усе вуніі з Польшчай разглядаліся як нявыгадныя ўмовы з чужым гаспадарствам, выкліканыя вонкавымі абставінамі. Канцом гэтага пэрыёду трэба было-б лічыць прынамся другую палову XVII ст., калі незалежнасьць Вялікага Княства перастала існаваць фактычна.

Напасьледак, няправільным ёсьць азначэньне і двух апошніх пэрыёдаў у беларускай гісторыі, як *польскага* й *расейскага*, каторыя разьдзяляюцца падзеламі Польшчы (канец XVIII стаг.). Гэтыя назовы можна было-б пакінуць, каб пісаць гісторыю беларускае тэрыторыі. Тады магчыма была-б канцэпцыя, што пэрыёды павінны азначацца назовам гаспадарства, да якога беларуская тэрыторыя адыйшла. Але калі пісаць гісторыю беларускага народу, гэткі падзел ня можа ўтрымацца. Дый калі пагадзіцца з канцэпцыяй Ігнатоўскага, *польскі* пэрыёд будзе мець тыя-ж заганы, што і полацкі, бо ад пачатку яго ладная частка Беларусі была ўжо пад Масквой. Ня можна апіраць гэтага падзелу і на польскіх або маскоўскіх уплывах у разгляданых пэрыёдах на беларускае жыцьцё. Ад пачатку польскага пэрыёду беларускі народ складаўся ўжо толькі з сялянства і мяшчанства ды часткова шляхты, панства-ж было ўжо ў масе спольшчана. Польскія-ж уплывы на беларускае сялянства й мяшчанства ў г. зв. *польскім* пэрыёдзе былі амаль ніякія. Калі-б апіраць пачатак польскага пэрыёду на польскіх уплывах на беларускае панства, дык яго трэба было-б шукаць значна раней — перад Люблінскай вуніяй. Але ня можна дзяліць гісторыі народу на пэрыёды, кіруючыся эвалюцыяй аднае клясы насяленьня. Гэтае самае можна сказаць і аб расейскіх уплывах. Апрача таго, мяжой гэтых двух пэрыёдаў ня могуць быць падзелы Польшчы. Значэньне апошніх у беларускай гісторыі ёсьць амаль ніякае. Падзелы Польшчы выклікалі адзіна толькі зьмену валадара ды невялічкія перамены ў адміністрацыі, істота-ж жыцьця беларускага народу асталася тая самая, што і да падзелаў. Прынамся да 1830 г. і навет да 1863 г. быў загварантаваны расейскімі ўладамі далейшы ўплыў польскае культуры на беларускую шляхту і часткова мяшчанства. Гэты ўплыў асабліва даўся ў знакі за часоў дзейнасьці віленскага ўнівэрсытэту. Роля апошняга ў сэнсе пашырэньня польшчыны ў Беларусі ёсьць агульна ведамай. Толькі пасьля 1863 г. Расея зьвярнула вялікшую ўвагу на Беларусь і паступова

пачала правадзіць свае ўплывы і змагацца з польскімі. Таму, калі-б і трымацца гэтых пэрыёдаў, як *польскага* і *расейскага*, дык мяжу між імі трэба было-б перасунуць на 1863 год.

Як бачым, калі-б навет пакінуць разгледжаны падзел беларускай гісторыі на пэрыёды, дык ён вымагае шмат паправак. Але гэты падзел ня можа астацца з *прынцыповага* пункту гледжаньня, бо ягоная канцэпцыя, абапёртая ці то на сужыцьці беларусаў з ліцьвінамі, ці на прыналежнасьці Беларусі да Польшчы або Расеі, ёсьць абмыльная. Як сказана на пачатку, ў васнову падзелу гісторыі на пэрыёды павінны быць пакладзены *тыя факты*, каторыя выклікалі перамены ў *суцэльнасьці* палітычнага й культурнага жыцьця народу. У гісторыі Беларусі гэтыя зваротныя пункты ня лучыліся з голымі фактамі пераходу яе ў склад Польшчы або Расеі. Зразумелая рэч, што сам факт пераходу ў склад чужога гаспадарства выклікаў некаторыя перамены, і ў гэтым яго значэньне, але адсюль яшчэ далёка да таго, каб прыпісваць яму рашаючую ролю ў падзеле гісторыі Беларусі на пэрыёды. Канцэпцыя падзелу гісторыі Беларусі на пэрыёды павінна ў прынцыпе апірацца на тых пераменах, каторыя прадстаўляюць пераломныя мамэнты ў эвалюцыі *цэласьці* яе арганічнага жыцьця.

Прыняўшы гэтую апошнюю канцэпцыю і шукаючы *пераломных* пунктаў у жыцьці беларускага народу, каторыя маглі б быць пакладзены ў васнову падзелу яго гісторыі на парыёды, трэба перш-наперш сканстатаваць наступную бясспрэчную агульную тэзу. *Паасобныя этапы эвалюцыі розных галін жыцьця беларускага народу былі ў цеснай сувязі з эвалюцыяй беларускай гаспадарсьцьвенасьці.* Сілы народу найболей выяўляліся тады, калі гаспадарсьцьвенасьць яго была наймагутнейшая, заняпадалі, калі заняпадала апошняя. Можна, ясна, разглядаць гаспадарсьцьвенасьць, як функцыю *шматлікага* роду дзейнікаў, але трэба адкінуць лічэньне яе вылучнай функцыяй сацыяльных адносінаў. Апошнія згулялі вялікую ролю ў фармаваньні беларускае гаспадарсьцьвенасьці, але роля гэтая была далёка ня вылучнай прычынай. Таму трэба адкінуць шуканьне галоўных прычынаў эвалюцыі і пераломных у ёй пунктаў толькі ў сацыяльных адносінах.

Разглядаючы беларускую гаспадарсьцьвенасьць, як функцыю шматлікіх дзейнікаў, і падчыркнуўшы сувязь эвалюцыі палітычнага, сацыяльнага й культурнага жыцьця беларускага народу з эвалюцыяй яго гаспадарсьцьвенасьці, у *гэтай апотняй* трэба шукаць асноваў дзеля падзелу беларускае гісторыі на пэрыёды.

На гэтым падрубе гісторыю беларускага народу трэба было-б падзяліць на наступныя *тры* пэрыёды:

1) *пэрыёд асобных гаспадарстваў* ад IX да паловы XIII ст.

2) *пэрыёд суцэльнае гаспадарсьцьвенасьці* ад паловы XIII да канца XVII стагодзьдзя.

3) *пэрыёд упадку беларускае гаспадарсьцьвенасьці* ад канца XVII ст. і да апошняга часу.

Першыя два пэрыёды абыймаюць Беларусь *незалежную* з тэй розьніцай, што ў першым пэрыёдзе незалежнасьць беларускага народу існавала пры нястачы суцэльнага гаспадарства.

Спынімся падрабязьней над гэтым падзелам.

1) Гісторыя засьпяе беларускія плямёны на даволі высокай ступені арганізацыйнага й культурнага жыцьця. Хоць пачуцьцё радні між беларускімі плямёнамі было вялікае, аднак, у першым пэрыёдзе, падобна да іншых народаў, беларусы ня мелі аднаго суцэльнага гаспадарства. Існавала некалькі апрычоных палітычных арганізмаў. У гэтых апрычоных арганізмах, *валасьцёх*, пануе ў кожным свая асобная гаспадарсьцьвеная ўлада, каторая імкнецца да незалежнасьці ад іншай. З гэтых валасьцяў наймагутнейшымі былі: *полацкая*, *смаленская* й *турава-пінская*. Іншыя былі ў залежнасьці ад іх, або ад зусім чужое гаспадарсьцьвенасьці. Кажная з пералічаных валасьцяў мела даўжэйшы або карацейшы пэрыёд незалежнага існаваньня, а калі губляла незалежнасьць, дык імкнулася яе вярнуць. У кожнай валасьці палітычным жыцьцём кіравала свае собскае веча, якое запрашала князя; яно-ж выганяла яго, калі не падабаўся. Затым, характэрнай азнакай гэтага пэрыёду быў падзел Беларусі на незалежныя валасьці, нястача адзінай гаспадарсьцьвенасьці. У кожнай валасьці складаліся йнакш сацыяльныя й культурныя адносіны. Гэтай азнакі не патрапілі зьнівэляваць тыя дзейнікі, каторыя ўжо ў гэтым пэрыёдзе пхалі валасьці да агульнай салідарнасьці. Галоўнымі з гэтых дзейнікаў былі наступныя.

а) *Небясьпека ад вонкавых варагоў.* Тры наймагутнейшыя беларускія валасьці Полаччына, Смаленшчына й Турава-Піншчына мелі сваіх асобных варагоў. Змаганьне з імі было натолькі цяжкое, што валасьці стараніліся ад барацьбы між сабой. Таму мы ня бачым колькі-небудзь вялікшых закалотаў між гэтымі валасьцямі.

в) *Хрысьцянства.* У першым прыёдзе хрысьцянства ўсходняга абраду мірна заваёўвала беларускія плямёны і паступова выціскала паганскую рэлігію. У пашыраньні хрысьцянства, якое і перамагло, былі зацікаўлены беларусы-хрысьцяне незалежна ад прыналежнасьці да тэй або іншай валасьці. Адзінства рэлігіі ўзмацоўвала пачуцьцё салідарнасьці ды супольнага паходжаньня. Хрысьцянская культура ў гэтым пэрыёдзе аднолькава высака стаяла ў Полаччыне, Смаленшчыне й Турава-Піншчыне, пералівалася з валасьці ў валасьць і як бы зацірала між імі межы.

с) *Гандлёвыя зносіны* з *замежнымі краямі*, асабліва з Рыгай і Немцамі, прымушалі Полаччыну і Смаленшчыну выступаць сумесна і рабіць супольныя гандлёвыя ўмовы. Прыймаючы пад увагу, што замежны гандаль у першым пэрыёдзе быў надта ажыўлены, дзейнік гэты меў важнае значэньне ў фармаваньні агульнай салідарнасьці між валасьцямі.

Вынікі дзеяньня гэтых фактараў выявіліся станаўчэй у другім пэрыёдзе гісторыі Беларусі. У першым яны ня здолелі зьністожыць характэрнай яго азнакі—падзелу Беларусі на незалежныя валасьці з апрычонымі сацыяльнымі й культурнымі адносінамі.

2) У палове XIII. ст. ў заходнім куце беларускіх земляў—Наваградчыне, Слонімшчыне, Ваўкавышчыне й Горадзеншчыне паўстае новы гаспадарсьцьвены беларускі цэнтр, пайменна гаспадарства Міндаўгава. Гісторыя засьпяе гаспадарства Міндаўгава якраз на гэтых беларускіх землях. *Адсюль* Міндаўг, забясьпечыўшыся ўмовамі з крыжакамі і Галіцкай Русьсю ў 60-тых гадох XIII ст., стоячы на чале бела-

рускай дружыны, што рэкрутавалася галоўна з пералічаных земляў ды ў якой было шмат зьбеларушчаных, або не, аўкштоццаў і яцьвягаў, рушыў на заваяваньне Аўкштоты і пасьля Жамойці (ў якіх жылі тады цяперашнія ліцьвіны)[1]. Упорыстая гэта была барацьба і, як падае летапісец, Міндаўг пасьля заваяваньня Аўкштоты й Жамойці быў там забіты. Сын яго Войшалак, у хрышчэньні Лаўрыш, зусім ужо зьбеларушчаны, сядзеў тады ў Пінску. Па сьмерці бацькі з беларускай сваей дружынай і пры памозе Галіцкай Русі (з князем каторай ён быў у сваяцтве), вырушыў ён на пакараньне і новае заваяваньне Аўкштоты й Жамойці, і гэта, як падаюць летапісцы, яму ўдалося. Аднак, ён зрокся гаспадарсьцьвенай улады і пайшоў у манастыр. Паводле тагачаснага звычаю, які прыняўся ў новым гаспадарстве, на княжы пасад быў пакліканы сваяк Войшалкаў із Галіцкай Русі—Шварна. Толькі што падбітыя Аўкштота й Жамойць (апошняя цярпела шмат ад крыжакоў) даўжэйшы час былі надта слаба зьвязаны з новым гаспадарствам, і там усьцяж адбываліся забурэньні. Прыходзілася трымаць там навет асобнага князя, залежнага ад князя беларускага. Астачай гэтага ёсьць спатыканы пазьней факт *дуалізму* ў кіраваньні новым гаспадарствам (на Аўкштоце й Жамойці сядзеў асобны князь), які існаваў у поўнай меры яшчэ за Альгэрда (тады ў Жамойці і Аўкштоце князем быў Кейстут). На пасад вялікага князя трапляў часам і гэты малодшы жамойцкі князь.

Усе беларускія землі, як Полаччына, Піншчына, Меншчына, Віцебшчына і іншыя самахоць прылучаліся да новага гаспадарсьцьвенага цэнтру.

Немагчыма навет устанавіць точных датаў, калі асобныя беларускія землі ўвайшлі ў склад новага гаспадарства. Толькі Смаленшчына, найбольш аддаленая, дзе валасная традыцыя наймацней утрымалася, прабавала апірацца, аднак ужо за Вітаўта і яна прылучылася да Вялікага Княства.

Наступныя прычыны здэцыдавалі аб хуткім задзіночаньні ўсіх беларускіх земляў у новым гаспадарсьцьве:

1) Гаспадарства Міндаўгава ад свайго паўстаньня было *беларускае*.

2) У новым гаспадарсьцьве была заснавана праваслаўная мітраполія ў Наваградку (1291), і гэты факт меў тады колёсальнае значэньне, адрываючы беларусаў у рэлігійным адношаньні ад Кіева.

3) Новае гаспадарства будавалася на аснове шырокае фэдэрацыі, ні ў чым не парушаючы старых парадкаў у валасьцёх, і давала ім моцнае падтрыманьне і абарону ад вонкавых варагоў.

[1]) Трэба адкінуць раздзьмуханую польскімі гісторыкамі і прыйманую бяскрытычна расейскімі г. зв. тэорыю *„літоўскай экспансіі“* на беларускія землі. Прыняць гэтай тэорыі немагчыма, бо ёй пярэчаць гістарычныя факты. Міндаўг не із Жамойці або Аўкштоты заваёўваў беларускія землі, а наадварот, як прызнае нават Г. Лаўмянскі („Studia nad początkami społeczeństwa i państwa litewskiego“), з *беларускіх* земляў Наваградчыны, Слонімшчыны, Ваўкавышчыны ды Горадзеншчыны, *дзе паўстала яго гаспадарства*, рушыў на заваяваньне Аўкштоты й Жамойці. Факт што на тэрыторыі Беларусі зьяўляліся літоўскія разбойніцкія банды з мэтамі грабежы, зусім ня ёсьць доказам „літоўскай экспансіі“. Магутныя беларускія гарады часта запрашалі на княжы пасад ліцьвяка, аднак гэта ня сьведчыла аб „падбою“ гораду, воласьці, бо гэткі князь залежыў такжа ад веча (земства). Квэстыя гэта патрабуе распрацоўкі, і мы не аднойчы яшчэ да яе вернемся.

Апрача Жамойці і Аўкштоты ў новым гаспадарсьцьве апынулася і частка ўкраінскіх земляў. Аднак, ня трэба прадстаўляць гэтага факту, як нейкай магутнай экспансіі новага гаспадарства. Украінскія землі былі надта лёгка далучаны таму, што яны канчаткова былі зруйнаваны татарамі.

Гэткім парадкам другі пэрыёд гісторыі Беларусі пачынаецца задзіночаньнем усіх беларускіх земляў даўнейшых воласьцяў *у вадно гаспадарства.* Існаваньне гэтай адзінай беларускай гаспадарсьцьвенасьці ёсьць характэрнай азнакай усяго пэрыёду. Новая форма гаспадарсьцьвенага жыцьця выклікала перамены ў сацыяльных і культурных адносінах беларускага народу, раўняючы іх паступова ўва ўсім гаспадарстве. Праз увесь час другога пэрыёду Вялікае Княства астаецца беларускім. Беларускія землі твораць вялізарную большасьць яго тэрыторыі і ў ім пануе беларуская культура й язык. Існаваньне ў новым гаспадарсьцьве жамойцінаў, аўкштоццаў, украінцаў, каторыя мелі ўсе магчымасьці апрычонага разьвіцьця, не пазбаўляе яе беларускага характару.

Частыя войны з Масквой, татарамі ды крыжакамі прымушалі Вялікае Княства шукаць саюзьнікаў. Найбольш натуральным саюзьнікам здавалася Польшча, каторай такжа пагражалі вонкавыя варагі, дый яна такжа шукала саюзьнікаў. Між гэтымі гаспадарствамі паўстаюць умовы, званыя „вуніямі“. Умовы гэтыя, часта нявыгодныя, не адбіралі Вялікаму Княству характару незалежнага гаспадарства. З польскага боку аднак можна зацеміць спробы падпарадкаваньня Вялікага Княства Польшчы. У гэтым сэнсе польскія ймкненьні знаходзяць унутры гаспадарства саюзьніка ў васобе нова-паўсталай шматлікай шляхты — беларускай, жмудзкай, украінскай, каторая, імкнучыся да здабыцьця сабе якнайшыршых прывілеяў, якія ўжо мела польская шляхта, адчыняла польскім уплывам дзьверы і першая паддавалася гэтым уплывам. Абароньнікамі самастойнасьці Вялікага Княства былі магнаты, што трымалі шляхту ў паслухмянасьці. Беларускія магнацкія роды таго часу — Сапегі, Хадкевічы, Астроскія, Валовічы, Агінскія, Радзівіллы і інш. выдалі многа шчырых патрыётаў і абароньнікаў беларускага гаспадарства і добра яму заслужыліся.

У другой палове XVI ст. сталіся факты, каторыя ўскалыхнулі фундамэнтамі гаспадарства. Накіненая прымусам Люблінская вунія 1569 г. зьяўляецца адным із гэтых важкіх фактаў. Другім гэткім фактам была берасьцейская рэлігійная вунія 1596 г., каторая мела значна вялікшае значэньне ў падарваньні беларускай гаспадарсьцьвенасьці. Берасьцейская вунія распаліла агонь унутранай рэлігійнай барацьбы ў беларускім народзе. У той час, калі ў суседзяў палякоў разьвівалася прыгожае пісьменства, найлепшыя беларусы аддавалі свае сілы на рэлігійную барацьбу. Ад даты берасьцейскай вуніі ў даволі шыбкім тэмпе заняпадае ў Беларусі сьвецкая літаратура і ў хваравітым тэмпе расьце схалястычная, рэлігійная. Чэзьне такжа ранейшая рэлігійная толеранцыя. Барацьба між праваслаўем з аднаго, а каталіцтвам і вуніяй з другога боку дае повад Маскве й Польшчы ўмешвацца ў беларускія справы. Зьяўляюцца законы, скіраваныя супраць праваслаўных. Шляхта, здабыўшы сабе роўныя з польскай прывілеі, пераймае польскую культуру, якая тады стаяла

вышэй за беларускую. Паступова зыходзяць з гістарычнае арэны магнацкія роды, колішнія верныя абароньнікі незалежнасьці гаспарства. Беларуская мова памалу выходзіць з ужытку ў вышэйшых сфэрах і ў 1697 г. афіцыяльна перастае быць мовай урадавай. Беларускімі астаюцца толькі *сялянства* й *мяшчанства* ды часткова шляхта (дробная), але гэтыя клясы ня мелі тады значэньня.

З адыходам з беларускай гістарычнай арэны буйнай шляхты й магнатаў у канцы XVII ст. беларуская незалежная гаспадарсьцьвенасьць і культура абрываецца. Сымбалічным канцом гэтага пэрыёду можна лічыць год 1697.

3) У трэйцім пэрыёдзе беларускі народ ня мае собскае гаспадарсьцьвенасьці і ня мае сваіх культурных вярхоў—панства й магнатаў, якіх утраціў. У гэтым пэрыёдзе Беларусь тэрытарыяльна—яшчэ і да падзелаў Польшчы—належыць такжа часткова і да Маскоўскага гаспадарства. Пасьля падзелу Польшчы ўся тэрыторыя Беларусі адыйшла да Масквы. Можна сказаць, што амаль да паўстаньня 1863 г. польскія ўплывы на беларускую шляхту і мяшчанства паглыбляліся. Толькі пасьля паўстаньня 1863 г. расейская ўлада пачынае ходацца з польскімі ўплывамі і ўвадзіць расейскія. Апошнія былі найвялікшыя ў тэй частцы Беларусі, каторая найраней адыйшла да Масквы. Расейскія ўплывы не здабылі спольшчанай беларускай шляхты, мала адбіліся на беларускім сялянстве (пераважна праваслаўным), але мелі некаторы посьпех у праваслаўным беларускім мяшчанстве.

У трэйцім пэрыёдзе беларускімі асталіся ўжо толькі *сялянства* і *мяшчанства*. Прыгонная гаспадарка і жорсткі сацыяльны ўціск перашкаджалі даўжэйшы час гэтым клясам выявіць сваю здольнасьць да жыцьця. Толькі пасьля скасаваньня прыгону ў 1861 г. адчынілася для беларускага сялянстве й мяшчанства магчымасьць паляпшэньня матэрыяльных умоваў жыцьця, здабываньня асьветы. Выраслыя пасьля скасаваньня прыгону пакаленьні сялянства й мяшчанства пачынаюць выдаваць із свайго асяродзьдзя прадстаўнікоў культурнага, палітычнага й сацыяльнага вызваленьня народу.

У першай палове XIX стаг. пачынаецца адраджэньне беларускай пісьменнасьці. Прынесеныя і ў Беларусь з Заходняй Эўропы новыя кірункі ў літаратуры (рамантызм і інш.) прымушалі некаторыя адзінкі із спольшчанай беларускай шляхты цікавіцца мовай, звычаямі, легендамі, паглядамі беларускага сялянства. У беларускай мове зьяўляюцца першыя новыя сьвецкія творы. Лічба шляхоцкіх пісьменьнікаў, што пісалі і пабеларуску, узрастае. У творах гэтых пісьменьнікаў пачынае выяўляцца і думка *палітычнага* адраджэньня беларускага народу. Гэтае адраждэньне не ахапіла аднак спольшчанай шляхоцкай масы, каторая ў першых пачатках беларускага адраджэньня аднасілася да яго спагадліва, але ў меру яго ўзросту заняла варожую пазыцыю.

Ідэя палітычнага й сацыяльнага адраджэньня беларускага народу ў XIX ст. паступова разьвівалася і знайшла свае поўнае адбіцьцё ў акце 25. III. 1918 г., абвешчаным Радай Бел. Нар. Рэспублікі. Гэты акт ёсьць довадам адраджэньня незалежніцкай думкі ў беларускіх масах і ў гісторыі Беларусі мае бясспрэчна вялізарнае

значэньне. Найнавейшы беларускі рух разьвіваецца пад сьцягам акту 25. III. 1918 г.

Пэрыёды могуць дзяліцца на *поры.* Абодвы падзелы — падзел на пэрыёды і падзел пэрыёдаў на поры — гэта пытаньні ў першую чаргу характару мэтодолёгічнага. Аднак, калі падзел на пэрыёды мае вельмі важнае прынцыповае значэньне і ад трапнасьці яго залежыць вартасьць гістарычнае працы, дык падзел пэрыёдаў на поры мае значэньне другараднае. Пры гэтым трэба зацеміць, што падзел пэрыёдаў на поры можа апірацца на іншых крытэрыях, чымся падзел на пэрыёды. Кожны з разгледжаных трох пэрыёдаў у гісторыі Беларусі можа быць падзелены на колькі пораў [1]).

---

**Хведар Ільяшэвіч.**

# Канец існаваньня друкарні дому Мамонічаў [2]).

Як ведама, калыскай друкарства на ўсходзе Эўропы была Вільня, дзе ў 1525 г. доктар Францішк Скарына выдаў „Апостолъ . Пасьля заняпаду Скарынаўскае друкарні (ужо ў 1526 г.) аж да 1575 г., г. зн. у працягу блізу паўвеку, ня выйшла ў Вільні ніводная друкаваная кніжка. Але праца нашага слаўнага першага друкара ня гіне бясплодна. Найпраўдападобней, Пётра Мсьціславец, каторы навучыў друкаваць Івана Фёдарава і залажыў разам з ім у Маскве друкарню (у 1553 г.), быў вучнем Скарыны. Пасьля зьнішчэньня маскоўскай друкарні натоўпам, падбураным перапішчыкамі кнігаў, Іван Фёдараў і Пётра Мсьціславец каля пачатку 1566 г. уцякаюць з Масквы на Беларусь. Тут, дзякуючы апецы гэтмана Грыгора Хадкевіча, закладаюць яны друкарню ў Заблудаве. Гэтман Хадкевіч быў стары, і друкары хутка пакідаюць Заблудаў. Фёдараў кіруецца ў Львоў, дзе працуе для украінскага друкарства; Мсьціславец у 1569 г. едзе ў Вільню. Тут, пры матэрыяльнай успамозе Мамонічаў, выдатных віленскіх мяшчан, закладае друкарню. Аднача сна вядзецца праца пры будове паперні ў Павільні (на Паплавах). У 1575 г. з друкарні выходзіць „Четвероевангеліе“. Мамонічы, аднак, хутка адсоўваюць Мсьціслаўца ад друкарні. Ужо ў 1576 г. ён судзіцца з Кузьмой Мамонічам, які, навучыўшыся друкаваць, сам становіцца на яго месца. Пасьля 1577 г. мы ўжо ня маем вестак аб Мсьціслаўцу. Трэба думаць, што хутка ён і памёр.

---

[1]) Гэтае пытаньне аўтар абмінае дзеля малога яго значэньня.
[2]) Разьдзел з працы „Друкарня дому Мамонічаў“ (1575-1622).

Пасьля адыходу Мсьціслаўца працуе друкарня з меншымі ці большымі перапынкамі аж да 1622 г.

У 1606 г. памёр Лукаш Мамоніч, скарбны беларуска-літоўскага гаспадарства, а хутка пасьля яго зыйшоў з гэтага сьвету і брат ягоны Кузьма. Друкарню пераймае сын Кузьмы Мамоніча, Лявон.

Друкарня Мамонічаў існавала ў самым разгары рэлігійнае й палітычнае барацьбы на беларускіх землях і ў гэтай барацьбе згуляла не апошнюю ролю. Выдрукаваны ў ёй больш за 53 друкі, сярод каторых мы знаходзім такую пэрлу, як «Літоўскі Статут». Мамонічаўская друкарня лучавала сваёй выдавецкай дзейнасьцю і на Маскоўшчыну, і на паўдзённую Славяншчыну. Мамонічы гандлявалі — побач з іншымі таварамі — такжа і кніжкамі, абслугоўваючы ня *толькі краёвыя, беларускія, але зарубежныя кніжныя рынкі.*

Ніжэй мы асьвятляем справу канца існаваньня гэтае друкарні, якая становіць адну з слаўных старонак у нашай *культурнай гісторыі.*

Невядома, дзеля якіх беспасярэдніх прычын спыніла сваю выдавецкую дзеяльнасьць слаўная друкарня дому Мамонічаў, якая адыграла немалую ролю ў культурным жыцьці ня толькі Вільні й Беларусі, але і іншых славянскіх краёў. Пасьля 1622 г. мы не знаходзім якіх-небудзь вестак аб Лявону Мамонічу. Маем пэўную вестку ў актах аб Кацярыне Мамонічавай, дочцы Барбары Кушэлевічавай [1], якая, як можна думаць, была жонкай Лявона Мамоніча. Сам ён аднак у гэтым акце ня ўспомнены.

Трэба думаць, што прычын заняпаду друкарні было некалькі. Перадусім, мусіла ад'емна ўплысьці на яе функцыянаваньне размнажэньне ад канца XVI в. друкарняў як у самой Вільні, так і ў іншых мясцовасьцях Беларусі дый суседніх краін. На працягу часу ад 1580 да 1650 г., як падае Е. Лелевэль, „больш пятнаццацёх іх паўстала, каб да люду Рускага прамаўляць" [2]).

Ад 1596 г. пачынае працаваць у Вільні брацкая друкарня пры манастыры Сьв. Духа, якой яшчэ ў 1588 г. патрыярх Ерамія ў часе свайго пабыту ў Вільні надаў правы стаўрапігіяльнай. [3]) Зьяўляецца яна паважнай канкурэнткай Мамонічаўскай друкарні. Выдае, апрача друкаў палемічнага зьместу, шмат кніг, прызначаных на патрэбы царквы. *А гэтыя выданьні ў вялікай меры* былі падставай існаваньня Мамонічаўскай друкарні. Манаполь на друкаваньне й продаж гэтых кніжак паволі выбіваўся з рук Мамонічаў.

---

[1]) Акты Издаваемые Виленской Археографической Комиссией" т. IX, стр. 447 „Barbara Kuszelewiczowa, matka, Katarzyna Mamoniczowa, Anastazja Dzianelewiczowa Kuszelewiczówny, córki, połowę kamienicy swojej, w mieście Wilnie w rybnym końcu położonej, klasztorowi xięży bazylianom za sumę sześćset czterdzieści kop. groszy litewskich, prawem wieczystem, w roku tysiąc sześćset trzydziestym piątym, dnia 13 oktobra wyprzedali".

Цікава, што праданы дом базыльянам; можна дадумывацца, што ў гэтым *часе ўжо Лявон Мамоніч ня жыў.*

[2]) J. Lelewel „Bibliograficznych ksiąg dwoje", т. I, Вільня, 1823, стр. 206.

[3]) M. Wiszniewski „Historja literatury polskiej" т. VIII, Кракаў, 1851, стр. 74. Стаўрапігіяльная, г. зн. вылучаная із юрысдыкцыі мясцовых духоўных уладаў і ўзалежненая безпасярэдня ад патрыярха.

На працягу існаваньня Мамонічаўскай друкарні можна бачыць, як імкнуліся Мамонічы да гэтай манапалізацыі. Ад другой паловы семдзесятых гадоў XVI в. на іх выданьнях быў друкаваны ў скарочаньні каралеўскі правілей, каторы даваў толькі Мамонічам права на друкаваньне і продаж кніжак „рускіх і славянскіх“. Тым, хто-б „явне або потаемне“ прывозіў або прадаваў кніжкі, пагражала цяжкая грашовая кара і канфіската кніг. [1]) Калі рэлігійна-асьветны рух беларускага праваслаўнага мяшчанства прыняў новыя арганізацыйныя формы брацтваў, Лукаш Мамоніч імкнецца да зманапалізаваньня друкарства ўсяго Вял. Кн. Літоўскага ў руках брацтва.

Паважнай канкурэтнай Мамонічаўскай друкарні, асабліва ад XVII ст., зьяўляецца Родзівілаўская (да 1586 г.) друкарня, перанятая пасьля езуітамі і друкуючая пад фірмай „Societatis Jesu“[2]).

„Яе ўласьнікі, піша І. Лаппо, патрапілі здабыць успамогу і шляхты, і дастойнікаў В. Кн. Літоўскага. Лацінскія кніжкі друкавалі цяпер у ёй.[3])

Канкурэнцыя была ня толькі ў Вільні. Пранікала яна зусюль, бо друкарства шырокай хваляй пашырылася ў гэным часе ўва ўсей усходняй Славяншчыне. Перад гэтым Мамонічаўскія друкі йшлі ў розныя староны, чаканыя як літаратурная ласотка, цэнныя з увагі на іх мастацкае выкананьне. Цяпер-жа царкоўныя, культурныя і асьветныя патрэбы былі заспакайваны ў значнай меры мясцовымі друкарнямі. Друкарні гэтыя пранікалі таксама й на кніжны рынак Вільні.

Пакуль яшчэ жыў Лукаш Мамоніч, гэты спрытны купец, друкарня мела моцныя фінансавыя падставы. Меў ён запэўненую ўспамогу ўрадавых дзейнікаў, як скарбны Вял. Кн. Літоўскага. Гэтае становішча дало яму магчымасьць здабыць пацьвярджэньне прывілею з 1576 г. зробленае Сьцяпанам Батурай у 1586 г. Мог ён вясьці ажыўлены гандаль дзякуючы купецкай рутыне, прадпрыемлівасьці, размаху ў вядзеньні інтарэсаў, урэшце дзякуючы абшырным знаёмствам. Мог ён на выпадак пэўных выдавецкіх няўдач пакрыць выдаткі з уласнае кішані. Хоць... ужо пад канец XVI в. яго фінансавыя справы значна пагоршыліся. Пасьля-ж ягонае сьмерці, дзякуючы раздрабненьню маемасьці, друкарня губляе ўсё больш сваю падставу існаваньня.

За жыцьця Лукаша Мамоніча, скарбнага В. Кн. Літ., друкарня была магутнай зброяй у барацьбе праваслаўнага мяшчанства за веру, бо-ж і вырасла яна з рэлігійна-асьветных і палітычных інтарэсаў гэтага мяшчанства.

Як-жа выглядае роля друкарні пасьля сьмерці Лукаша Мамоніча?

Лявон, сын Кузьмы, Мамоніч, калі й меў нешта, то ў кожным выпадку маёнтак яго не пазваляў яму назвацца земскім панам. Гэта можна сказаць напэўна. Бацька-ж яго, бурмістр места Вільні, быў тыповым мешчанінам без зямлі. Быў гэта чалавек іншага пакрою,

[1]) Скарочаны прывілей, гл. І. Сьвенціцкі „Початки книгопечатаня на землях України“, Жоўква, 1924, III ч., XVII, табл. 40; І. Лаппо, „К исторіи русской старопечати. Виленская типографія Мамоничей“ („Сборникъ Русского Института въ Прагѣ“, I, 1929), дадатак да працы.

[2]) L. Abramowicz „Cztery wieki drukarstwa w Wilnie“ (1525-1925), Вільня, 1925, стр. 33, 60.

[3]) І. Лаппо, op. cit., стр. 180.

чым Лукаш Мамоніч. Той злучаў у сабе рысы земскага пана й купца. Кузьма быў чалавекам прадпрыемлівым і энэргічным, ня меў, аднак, як відаць, маемасьці, як Лукаш. Вынікала гэта можа з пэўных праўных выгад, якія зьвязаны былі з урадам скарбнага і старасты, дзякуючы чаму толькі Лукаш быў буйным уласьнікам. Дзеля гэтага Кузьма бачыў і будучыню свайго сына ў кіраваньні друкарняй, да чаго прывучаў яго ўжо з маладых лет. Здабытая навука—вось маёнтак Лявона. Быў ён асьвечаным чалавекам таго часу. Ня меў, аднак, тых арганізатарскіх здольнасьцяў і спрыту, якія зьвязаны з жыцьцём і заняткамі купца. Пасьля сьмерці дзядзькі ў 1606 г. і бацькі, які памёр, як здаецца, каля гэтага часу, Лявон Мамоніч апынуўся ў надзвычайна цяжкім палажэньні: ня меў ён тых уплываў, што дзядзька, быў менш спрытны, а ў дадатку ня меў вялікае маемасьці. Калі жылі свае, было неяк лепш. Цяпер-жа й грамадзкае, і рэлігійнае, і эканамічнае жыцьцё было, здавалася, больш бурліаае й заблутанае. Лявон Мамоніч, належачы да брацтва Сьв. Тройцы, трапіў у вагонь рэлігійнага змаганьня ў сувязі з апанаваньнем царквы Сьв. Тройцы вуніятамі.

Друкуе ён кірыліцкім і лацінска-польскім шрыфтам. Гэта знаходзіцца часткова ў сувязі з яго вуніяцкімі перакананьнямі, а часткова—з грашовымі труднасьцямі. Рынак збыту становіцца ўсё больш цесным, і гэта наносіць удар за ўдарам друкарні.

У 1622 г., як можна думаць, Лявон яшчэ ня быў стары. Мог друкаваць. Ня бачыў аднак падставы для самастойнага існаваньня друкарні. Ужо ў першай палове XVII в. пачынае зьмяншацца запатрабаваньне на кірыліцкія друкі на Беларусі. З аднаго боку—рэлігійная вунія, у значнай меры праведзеная ў жыцьцё, мела ў выніку павольную палянізацыю яе прыхільнікаў; з другога боку адбываецца павольны заняпад праваслаўнай царквы. За палітычнай вуніяй 1569 г. наступіла вунія рэлігійная ў 1596 г. На ўсёй лініі перамагала яна цяпер, нясучы з сабой палянізацыю. Мяшчанства, адпіханае на далейшы плян спольшчанай часткай шляхты, ня можа далей з няслабнучай энэргіяй узнавіць барацьбу ў вабороне праваславія. Цэнтр рэлігійнага жыцьця перасоўваецца на паўднёвы ўсход — у Кіеў. Ён у першай чверці XVII в. пераймае віленскае кірыліцкае друкарства.

Ня маем пакуль што ніякіх пэўных вестак аб лёсе Мамонічаўскай друкарні. Крашэўскі падае, што друкарня перайшла „да брацтва Сьв. Духа, пры Стаўрапігіяльнай царкве таго-ж імя, з якой зараз у 1623 г. выйшаў першы друк Новы Тэстамэнт“[1]). Балінскі падае, што друкарня перайшла, здаецца, да а.а. Базыльянаў[2]). Гэтыя супярэчныя весткі сталіся крыніцай пазьнейшых супярэчных паглядаў розных гісторыкаў і дасьледчыкаў віленскага друкарства.[3])

Разважма гэтыя супярэчнасьці.[4]) Цікава, што ані Крашэўскі, ані

[1]) J. Kraszewski „Wilno“, IV, стр 63.

[2]) M. Baliński „Historja miasta Wilna“, т. II, стр. 122.

[3]) Напр. Міловідов паўтарае за Балінскім („Судьба русской книги въ Сѣверо-Западномъ Краѣ“), І. Огіенко („Історія українского друкарстаа“, т. I, Львоў, 1925, стр. 20) паўтарае вестку Крашэўскага (кажа ён, што Мамонічаўскую друкарню Сьв Духаўскае брацтва купіла).

[4]) пар. Л. Абрамовіч, op. cit. стр. 30, 32 і Ул. Пічэта „Друк на Беларусі ў XVI XVII сталецьцях“ („400-лецьце друку на Беларусі“ Менск, 1926, стр. 251); І. Лаппо (op. cit.) зусім не закранае гэтай справы.

Балінскі ня кажуць напэўна: ёсьць сьляды—піша Крашэўскі,-здаецца-кажа Балінскі. Такім чынам, ня мелі яны пэўных дадзеных, датычачых лёсу Мамонічаўскай друкарні. Крашэўскі не паказвае, якія гэта „сьляды" прамаўляюць за пераходам друкарні Мамонічаў у рукі Сьв. Духаўскага брацтва. Мо' ўважае ён за „сьляды" Новы Тэстамэнт, які выйшаў „зараз у 1623 г." з брацкай друкарні? Ведаем аднак, што ня быў гэта першы друк гэтай друкарні. Друкарня брацкая, як ужо сказана, існавала ад 1586 г., а чыннай была ад 1596 г. Таму факт выхаду ў 1623 г. з гэтай друкарні Новага Тэстамэнту ня можа лічыцца зьвязаным з фактам ліквідацыі Мамонічаўскай друкарні.

Наадварот, на карысьць пагляду Балінскага прамаўляе значна больш об'ектыўных даных і мамэнтаў псыхолёгічнага і лёгічнага характару.

Брацтва Сьв. Духа было праваслаўнае, а базыльяне былі вуніятамі. Паміж імі існавалі ўсьцяж напружаныя адносіны. Урад, каб аслабіць пазыцыі праваслаўнага мяшчанства, 8. III. 1609 г. увёў у валаданьне й кіраваньне манастыром Сьв. Тройцы архімандрыта Язэпа Вэльяміна Рутскага, перад тым праваслаўнага, базыльяніна [1]).

Лявон Мамоніч адразу стануў на старане базыльянаў, бо ўжо ў 1610 г. ён робіць перад каралём захады, каб дабіцца забароны прадажы й куплі выданьняў Сьв. - Духаўскай друкарні. У маі 1610 г. такую забарону кароль выдаў. У ліпні таго-ж году выданы быў загад караля зрабіць рэвізію ў друкарні Сьв. Духа, забраць і спаліць кніжкі, друкароў, карэктароў і аўтараў пасадзіць у турму, а шрыфт забраць [2]). У ліпні 1610 г. шрыфт, як падаюць М. Пашкевіч і Ф. Сьмірноў [3]), быў забраны. Сьмірноў кажа далей, што шрыфт быў забраны галоўна дзякуючы захадам Лявона Мамоніча, які прыстаў да вуніі.

У актах маем вестку, што Лявон Мамоніч, як сябра брацтва Сьв. Тройцы (вуніяцкага [4]), 18 ліпня 1614 году разам з Пётрай Капцевічам і Ігнатам Дубовічам ад свайго імя і ад імя „становъ велярозных и мѣщанъ мѣста Виленскаго, народа русского закону греческаго, братьи уписанае до помененого братства Виленского, святое Троицы" заскаржыў брацтва Сьв. Духа. Апошняму закідалася, што пад аховай прывілеяў з 1589 і 1592 г. г. і веры грэцкай „старожитное" учыніла шмат шкоды брацтву Сьв. Тройцы, што выдае гэрэтыцкія творы з друкарні, якая належыць папраўдзе брацтву Сьв. Тройцы. Друкарня гэтая належыць праўна брацтву Сьв. Тройцы на моцы каралеўскіх прывілеяў. Сьвятадухаўцы прысабечылі яе „ку великой кривдѣ" брацтва Сьв. Тройцы.

Прыхіляючыся да скаргі „братчыкаў" Сьв. Тройцы на чале

---

[1]) Акты И. В. А. К. т. VIII, стр. 80 і наст.; пар. Ул. Пічэта „Друк на Беларусі"..(цыт. выд. стр. 257-258); адзінай, здаецца, працай аб базыльянах у Вял. Кн. Літоўскім зьяўляецца нарыс Петрова „Очеркъ исторіи базиліанскага ордена въ бывшей Польшѣ" („Труды Кіевской Духовной Академіи", 1870, май-жнівень).

[2]) М. П-чъ (Пашкевіч) „Виленское Свято-Троицкое впослѣдствіи Свято-Духовское братство", Вільня, 1891, стр. 58.

[3]) М. П-чъ; op. cit, стр. 58-59. Ф. Смирновъ „Виленскій Свято-Духовъ Монастырь", Вільня, 1888, стр. 25. Паклікаюцца яны на „Археографическій Сборникъ" (т. X. стр 233), з зьмешчанага, аднак, там дакумэнту (з 1614 г.) не вынікае тое што яны пішуць.

[4]) Акты И. В. А. К. т. VIII, стр. 97-99.

з Лявонам Мамонічам, Пётрай Капцевічам і Ігнатам Дубовічам, Жыгімонт III паклікаў усіх паноў і „старшых" брацтва Сьв. Духа, а таксама 23 мяшчанаў [1]) на суд [2]).

Сказанае абвінавачаньне выклікала пратэст з боку заскаржаных праваслаўных віленсхіх мяшчан, які быў пададзены імі ад свайго імя і ад імя іншых людзей „набожэнства греческаго" 26 верасьня 1614 г. у гродзкі ўрад у польскай мове. У пададзенай заяве яны заяўляюць пратэст на „pana Piotra Kopciewicza y pana Lewona Mamonicza — raycow y na pana Ignata Dubowicza—mieszczanina wileńskiego" [3]).

Бачым з гэтага выразна, што Лявон Мамоніч прыймаў актыўны ўдзел у спрэчках брацтва Сьв. Тройцы (ўжо ўніяцкага) з брацтвам Сьв.Духа. Гэтыя два брацтвы задавалі тон рэлігійнай барацьбе віленскага мяшчанства.

Каля 1614 г. якраз атрымлівае Лявон Мамоніч тытул каралеўскага друкара [4]).

Паміж удзелам Лявона Мамоніча ў змаганьні супраць брацтва Сьв. Духа і здабыцьцём гэтага тытулу можна ўгледзець пэўную сувязь.У гэтым ужо часе друкарня Лявона Мамоніча стаецца запраўды друкарняй базыльянаў, хоць друкі выдаюцца пад фірмай Лявона Мамоніча. У 1608 г. друкуе Л. Мамоніч „Harmonię albo wykład", твор Пацея. У 1612 г. выдаюць віленскія вуніяты ў друкарні Л. Мамоніча „Paregoria albo utulenie uszczypliwego lamentu mniemanej cerkwie Wschodniey zmyslonego Theophila Orthologa", як адказ на „Өрынос" (Лямэнт) Мялеція Сматрыцкага, які выдала брацтва Сьв. Духа [5]). Служэбнікі і Трэбнікі друку Л. Мамоніча „пацьвярджаліся да ўжытку вуніятам, як гэта відаць з Сыноду ў 1647 г." [6]).

Гэтыя вось мамэнты прамаўляюць за тым, што Лявон Мамоніч перадаў або й прадаў сваю друкарню базыльянам, дзеючы паводле прынцыпу: „свой да свайго". Друкарня Мамонічаў як ня можна лепей надавалася базыльянам, бо былі ў ёй шрыфты лацінскі й кірыліцкі.

Пацьверджаньнем весткі М. Балінскага ёсьць „Записка" літоўскага ваеннага губэрнатара Л. Бэннігсэна [7]) з 1804 г., пададзеная міністру асьветы, аб друкарнях у літоўскіх губэрскіх гарадох, Вільні і Горадні, з паказаньнем, калі і кім яны заснаваны дый хто іх кіраўнік [8]). Падае ў гэтай „Запісцы" Бэннігсэн, што духоўная друкарня а. а. Базыльянаў заснава на віленскім мешчанінам Лявонам Мамонічам „по данной отъ короля Зигмунта III привилегіи 1603 г.,

---

[1]) прозьвішчы іх успомнены ў акце.

[2]) Пакліканьне на каралеўскі суд возны Віленскага Павету Мікалай Іванавіч Міклашэвіч прыбіў 8. VIII 1614 г. „до воротъ великихъ монастыря и церкви" у прысутнасьці двух шляхцічаў.

[3]) Акты И. В. А. К. т. VIII, стр. 100-101.

[4]) L. Abramowicz, l. c., стр. 32.

[5]) М. П-чъ, op. cit., стр. 58.

[6]) M. Wiszniewski, op. cit, т. VIII, стр. 32.

[7]) шэфа расейскіх войскаў у часе кампаніі 1806-7 г.

[8]) „Сборник матеріаловъ для исторіи просвещенія въ Россіи", т. II. („Учебныя заведенія въ зап. губерніямъ"), С. Пецярбург, 1897, стр. 76-77.

а отъ него ксендзамъ Базиліанамъ уступленная и ныне на иждевении ихъ содержимая" [1]).

Заданьнем губэрнатара, як бачым з паясьненьня „Запіскі", між іншым, было паінфармаваньне міністра асьветы і аб паходжаньні друкарняў. Бэннігсэн, як ваенны губэрнатар, мог атрымаць інфармацыі бязумоўна з крыніц пэўных! На падставе гэтых разважаньняў можам лічыць вестку аб пераходзе Мамонічаўскай друкарні да базыльянаў пэўнай [2]).

Справу канца існаваньня Мамонічаўскай друкарні блутала да гэтага часу вестка аб друку „Молитвы повседневные", які быццам выйшаў аж у 1630 г. пад фірмай „друкарні дому Мамонічаў".

Бібліяграфам ведамы быў гэты друк пераважна з Каратаева [3]), Каратаеў-жа даведаўся аб ім з працы Бадянскага [4]), які бачыў гэты друк у Гімназіяльнай Бібліятэцы Марыі Магдалены ў Брэславе. Тая акалічнасьць, што Бадянскі шукаў іншых рэчаў у гэтай бібліятэцы (што відаць хоць-бы з назову ягонае працы) і толькі прыпадкова наткнуўся на гэты друк, магла выклікаць сумлівы адносна дакладнасьці яго інфармацыі. Бо інакш трудна было-б выясьніць такі даўгі перапынак у дзейнасьці друкарні ад 1622 да 1630. І зусім слушна, напр., Л. Абрамовіч недавяраў вестцы Каратаева аб „Молитвословѣ" з 1630 г. [5]).

З увагі на важнасьць гэтага друку для справы выясьненьня лёсу Мамонічаўскае друкарні аўтар праз пасрэдніцтва Беларускага Навуковага Т-ва скамунікаваўся з Брэслаўскім унівэрсытэтам і атрымаў стуль фатаграфію загаловачнае карты гэтае кніжкі [6]).

На загаловачнай карце напісана, што кніжка надрукавана „в Вилни в друкарни в дому Мамоничов року АХА". Апошнюю літару, якая адбіта ня зусім выразна, Бадянскі прыняў абмылкова за

---

1) У „Археографическом Сборникѣ" т. Х., стр. 216, маем вестку аб актыкаваным каралеўскім прывілеі на друкарню Мамонічаўскую 1603 году. Магчыма, што ёсьць ён у Архіве Царквы Сьв. Троицы (у Бібліятэцы Праваслаўнай Духоўнай Сэмінарыі ў Вільні), дакумэнты, аднак, там раскінуты й нескаталёгаваны.

2) Дзе была друкарня пасьля пераходу яе да Базыльянаў? У бібліятэцы Беларускага Навуковага Гва (аддзел рукапісаў) знаходзіцца „Inwentarz Klasztoru Wileńskiego X. X. Bazyljanow ze wszystkiemi Jego przynadleżnościami".. зроблены па загаду Літоўскай Кансісторыі дня 5 чэрвеня 1837 г. Маем там і апісаньне друкарні ў 1837 г.: „zajmuje (друкарня) w linii zachodniej salę pod Refektarzem przeznaczoną do prac Drukarskich, za nią w samym rogu trzy niewielkie z sobą połączone stancje, na skład xiążek drukowanych, nieoprawnych (in crudo) tudzież papieru, tektury i t. d. Za temi w linii południowej, dwie stancye z sobą takoż połączone, z których pierwsza służy na rezydencję Prefekta Drukarni, druga na skład xiążek drukowanych oprawnych. *Cały ten lokal zawsze był zamieszczany w Punktarzach podawanych klasztoru*, przy opisaniu dolnych mieszkań Tego czyli suterenow." (рукапіс № 19 стр. 359). (Падкрэсьл. маё).

3) У 1514 г. кн. К. Астрожскі збудаваў мураваны манастыр і царкву Сьв. Тройцы, каля 1670 г. за Льва Краузы былі яны адноўлены, у 1848 пажар амаль зусім зьнішчыў царкву й манастыр, але ў хуткім часе яны былі адбудаваны („Przechadzki po Wilnie i jego okolicach" Jana ze Sliwna (Adama Kirkora), Вільня, 1859, стр, 63).

4) І. Каратаев, Описаніе славяно-русскихъ книгъ напечатанныхъ кирилловскими буквами", С. Пецярбург, 1883, № 354.

5) Бодянскій „О деревнейшемъ свидѣтельствѣ, что церковно-книжный языкъ есть славяно-булгарскій" („Журналъ Министерства Народнаго Просвѣщенія", С.-Пецярбург, 1843, II аддз. 38 часткі, стр. 132).

6) L. Abramowicz, l. c., стр, 30.

падобную да яе літару Л і прачытаў год выданьня няправільна: 1630 (бо Л абазначае 30) замест 1601 (А значыць і). Гэтак „Малитвы" выйшлі ў 1601 годзе, а не ў 1630.

Такім чынам, 1622 год трэба лічыць за апошні год існаваньня друкарні дому Мамонічаў: у гэтым годзе выйшаў апошні друк пад фірмай гэтага дому.

---

**Антон Луцкевіч.**

# Жыцьцё і творчасьць Фр. Багушэвіча ў успамінах ягоных сучасьнікаў.

Няма ніякага сумлеву, што Францішак Багушэвіч, гэтак популярны сярод беларусаў пад мянюшкай Мацея Бурачка, адыграў надта важную ролю ў беларускім адраджэнскім руху: гэта ж на ягонай творчасьці ідэйна вырастала тое пакаленьне беларускіх адраджэнцаў, якое выкавала для беларускага руху арганізацыйныя формы ды зрабіла яго цяглым і масавым.

Ужо дзеля аднаго гэтага асоба Багушэвіча заслугуе на асаблівую ўвагу гісторыкаў беларускае літаратуры. Але й паміма гэтага, знаёмства з асобай паэты, з ягоным жыцьцём і з ягонай ідэолёгіяй прадстаўляе нязвычайна ўдзячнае заданьне для кожнага дасьледчыка жыцьця Беларусі ў канцы XIX стагодзьдзя: і дэйная звалюцыя Багушэвіча, які ад паўстанчых настрояў 1863 году дайшоў да беларускае нацыянальнае ідэалёгіі, гэтак ярка выказанае ў ведамай перадмове да ягонае „Дудкі Беларускае", вельмі характэрна для ідэолёгічных плыняў, што панавалі сярод грамадзянства нашага краю ў вапошняй чэцьверці мінулага стагодзьдзя.

На вялікі жаль, біаграфія Багушэвіча страшэнна бедная і — не заўсёды згодная з праўдай. Усё, што аб ягоным жыцьці было дагэтуль ведама, сабраў Максім Гарэцкі („Гісторыя беларускае літаратуры", Масква-Ленінград, 1924) — літаральна на палове старонкі [2]).

Гарэцкі на самым пачатку кажа, што Фр. Багушэвіч „паходзіў із дробнае шляхты Ашмянскага павету, са спольшчанай сям'і". Але ўжо ў гэтым ёсьць няточнасьць, выкліканая праўдападобна жаданьнем „савецкае грамадзкасьці" зрабіць популярнага паэту, каторы выйшаў із буржуазнага асяродзьдзя, магчыма больш блізкім сьвету фізычнае працы (—тое-ж робяць некаторыя гісторыкі беларускае літаратуры і ў адносінах да „Цёткі"!). Дробная шляхта, як ведама, прадстаўляе ў нас элемэнт працоўны, бо ўласнымі рукамі ўрабляе

---

[1]) Знаходзіцца яна у Гарадзкой Брэслаўскай Бібліятэцы (Stadtbibliothek—Breslau)

[2]) Дзеля точнасьці адзначаю, што тыя-ж інфармацыі з біаграфіі Багушэвіча падае *Е. Карскі*, „Беларусы, т. III, вып. 3, стр. 194-195, а за ім і за Гарэцкім паўтарае *М. Піотуховіч*, „Нарысы гісторыі беларускай літаратуры", частка першая, Менск, 1928, стр. 86-87.

зямлю, — тым часам сям'я Багушэвічаў была сярэдняе заможнасьці, мела добры кусок зямлі і сама фізычна не працавала.

Далейшыя інфармацыі Гарэцкага здаюцца больш блізкімі да праўды і паважнейшых засьцярог не выклікаюць. Нарадзіўся Францішак Багушэвіч, як паказана і на крыжу над ягонай магілай, 9 сакавіка 1840 году, памер 15 красавіка 1900 году (ст. ст.). Сярэднюю школу скончыў у Вільні і нейкі час вучыўся на фізыка-матэматычным факультэце пецярбурскага ўнівэрсытэту. Навука ў Пецярбурзе трывала, мусіць, вельмі нядоўга, бо, паводле Гарэцкага, перад паўстаньнем 1863 году Багушэвіч вярнуўся дамоў і быў нейкі час народным вучыцелем у Доцішках, а ў мамэнт выбуху паўстаньня меў няпоўныя 23 гады і, значыць, на пецярбурскім груньце пасьля сканчэньня гімназіі доўга жыць ня мог. У паўстаньні прыймаў дзейнае ўчасьце. У нейкай бітве (дзе — няма ведама) быў ранены ў нагу і пэўне ня мінуў-бы сьмерці, калі-б яго не ператаваў нейкі беларускі селянін. Факт гэты сам па сабе паказвае на асаблівую прыхільнасьць сялян да Багушэвіча, што ў тыя часы ў адносінах да паноў здаралася ня часта. Пасьля Багушэвіч пакінуў свой край і апынуўся на Украіне. Вучыўся ў Нежыне — у юрыдычным ліцэі, які скончыў у 1868 годзе. „Посьле -- інфармуе далей Гарэцкі — жыў ён у розных месцах Расеі ( — якіх?), ажно дзесяць год пражыў на Украіне, быў сьледчым судзьдзёю ў Канатопскім павеце, навучыўся ўкраінскае мовы і пазнаў украінскае народнае жыцьцё. Пазьней быў адвакатам пры акружным судзе ў Вільні, пад старасьць жыў у хвальварку Кушлянах Ашмянскага павету. Перад сьмерцю загадаў ня ставіць над яго магілай ніякіх помнікаў. Пахавалі яго ў м. Жупранах Ашмянскага пав. на агульным магільніку".

Аб адносінах польскага абшарніцтва да Багушэвіча даведаваемся ад Гарэцкага, што паны называлі яго „здрайцам і рэнэгатам". Мамэнт гэты нязвычайна важны: ён сцьвярджае, што паэта ў старэйшым веку запраўды далёка адыйшоўся ад юнацкіх ідэалаў 1863 году, ды што пазьнейшая беларуская праца Багушэвіча была ў супярэчнасьці з гэнымі ідэаламі. Але аб гэтым будзем гутарыць далей.

Гаворачы аб паэтыцкай спадчыне Багушэвіча, Гарэцкі называе толькі *два* друкаваныя зборнічкі вершаў паэты: „Дудку беларускую" ды „Смык беларускі" — і адзін ненадрукаваны п. н. „Беларуская скрыпачка"; апрача гэтага адзначае „розныя творы, як ананімныя рэвалюцыйныя апавяданьні й вершы". якіх ані называе канкрэтна, ані паказвае, скуль мае весткі аб іх, [1])—ды прозаічныя апрацаваньні жартлівых народных сюжэтаў („Палясоўшчык", „Сьведка", „Дзядзіна"), друкаваныя, як ведама, ў „Нашай Ніве" і беларускіх календарох.

Вось і ўсё, што падаў Гарэцкі. Ня шмат гэта дый не дае магчымасьці адтварыць больш-менш поўна аблічча паэты і ягонае жыцьцё. Некаторыя-ж мамэнты вымагаюць крытычнае праверкі й карэктуры.

На вялікі жаль, за жыцьця Багушэвіча ніхто не парупіўся зда-

[1]) Карскі („Беларусы" т. III. вып. 3), а за ім Піотуховіч („Нарысы гіст. бел. Літ.", ч. I) прыпісаваюць Багушэвічу напісанае ў форме праклямацыі апавяданьне аб зачыненьні касьцёлу ў Крожах у 1893 г., але пэўнасьці адносна аўтарства ягона ня маюць.

быць ад яго біаграфічныя даныя, а сам ён, відаць, і найбліжэйшым прыяцелям неахвотна апавядаў аб сваім жыцьці. Сям'я-ж Фр. Багушэвіча, якая варожа адносілася да ўсяе беларускае і „хлопоманскае" працы паэты ( — аб гэтым апавядалі акалічныя сяляне спад Кушлян дырэктару Беларускае Вучыцельскае Сэмінарыі ў Барунах, Сымону Раку-Міхайлоўскаму, падчас экскурсіі вучняў Сэмінарыі на магілу Багушэвічаву ў 1921 годзе), глыбака хавае ягоны архіў і ня хоча нікога дапусьціць да азнаямленьня з ім. Зробленая праз пляменьніцу Фр. Багушэвіча, Родзевічыху, мая спроба дабіцца перадачы гэтага архіву — калі ўжо не Беларускаму Навуковаму Таварыству, дык хоць-бы адпаведнай польскай установе (Biblioteka Wróblewskich, T-wo Przyjaciół Nauk), не дала позытаўных вынікаў. Сын паэты, Тамаш, якога я знаў добра асабіста (памер ён у канцы дваццатых гадоў), ненавідзіў усё беларускае і аб бацьку гаварыць не хацеў; дачка, каторая памерла ўжо пасьля напісаньня гэтага артыкулу, адмаўлялася даць якія-колечы інфармацыі аб бацьку, навет — аб учасьці яго ў паўстаньні....

У гэтым пункце ўласныя мае інфармацыі зыходзяцца з інфармацыямі, паданымі кс. Ад. Станкевічам у ягонай популярнай брашуры п. н. „Francis Bahuševič. Jaho życcio i tworčaść", выданай у Вільні к трыццатым угодкам сьмерці паэты (1930 г.). Кс. Станкевіч паўтарыў тое, што мы ўжо даведаліся ад Гарэцкага, з усімі абмылкамі апошняга, дадаўшы ад сябе два ўласныя, на об'ектыўных даных не абапертыя, дапушчэньні: адносна матываў учасьця Багушэвіча ў паўстаньні 1863 году і адносна ўплыву на паэту — падчас жыцьця на Украіне — твораў „сьвежа памершага (1861) вялікага ўкраінскага адраджэнца песьняра Т. Шэвчэнкі". Апошняе — як пабачым далей — зусім трапнае. Але першае здаецца плодам чыстае фантазіі аўтара, каторы ўва ўсіх сваіх досьледах аб беларускіх дзеячох XIX ст. грашыць імкненьнем прадставіць іх, як беларускіх незалежнікаў у цяперашнім разуменьні гэтага слова, што колідуе з тагачаснымі паглядамі, настроямі і адносінамі. Кс. Станкевіч піша гэтак: „Калі возьмем пад развагу беларускі народніцка-сацыяльны дух ягонай (Багушэвічавай) творчасьці, а такжа магчымасьці знаёмства з равесьнікам сваім, паўстанцам Кастусём Каліноўскім, лятуцеўшым аб палітычнай незалежнасьці нашага краю, — не без падставы можам думаць, што Фр. Багушэвіч, ідучы проці царскае няволі, сьніў салодкія сны, між іншым, і аб палітычнай незалежнасьці беларускага народу і з гэтай мэтай далучыўся да паўстаньня".—Беспадстаўнасьць гэтае дагадкі кс. Станкевіча выясьніцца зусім чыста з далейшага.

---

Шукаючы матырыялаў да біаграфіі Фр. Багушэвіча, я зьвярнуўся пару гадоў таму назад паўперад да найбліжэйшага прыяцеля паэты з віленскага пэрыёду, Зыгмунта Нагродзкага (памёр у 1937 г. ў Вільні), і — за парадай апошняга — да пляменьніцы Багушэвіча, Родзевічыхі. Ад Нагродзкага атрымаў нязвычайна цэнныя інфармацыі, некалькі фатаграфіяў і цэлую жменю нідзе не друкаваных вершыкаў — бела-

рускіх і польскіх [1]). Пляменьніца паэтава, Родзевічыха, дала некалькі дробных вестак, якія памогуць нам разабрацца ў некаторых датах, і дарэмна пробавала атрымаць ад дачкі Багушэвічавай адказ на рад пастаўленых мной пытаньняў. Урэшце, праф. Дмітро Дорошэнко, выдатны ўкраінскі палітычны дзеяч і навуковец, крэпка зьвязаны з Вільняй у маладыя гады свае, прыслаў прыгожа апрацаваны ўспамін аб сваіх сутыках з Фр. Багушэвічам на віленскім грунце. Успамін гэты, як асобная закончаная цэласьць, друкуецца далей in extenso.

Інфармацыяў Гарэцкага аб жыцьці Багушэвіча да паўстаньня 1863 году мне не ўдалося нічым узбагаціць. Адносна-ж жыцьця на Украіне Родзевічыха паінфармавала мяне, што Багушэвіч жыў не ў Канатопскім павеце, а ў самым Канатопе, — прынамся там яна, яшчэ малая дзяўчына, першы раз пабачыла свайго дзядзьку. Было гэта ў 1875 ці 1876 годзе. Тады Багушэвіч здаўся ёй вельмі панурым, і дзеці баяліся яго. У Канатопе Багушэвіч ажаніўся ў 1874 годзе з цёткай Родзевічыхі — Габрыэляй Шкленьнічанкай, родам з Менску. Знаёмства між імі завязалаcа ў Канатопе, куды суджаная паэты прыехала да сваёй сваячкі Міцкевічыхі. У канцы 80-ых гадоў Багушэвіч жыў ужо ў Вільні, і тут Родзевічыха йзноў з ім сустрэлася, прыехаўшы з Пецярбурга, дзе жыла з мужам. Паводле яе слоў, Багушэвіч тады, відаць, яшчэ ня зусім наладзіў свае жыцьцё ў Вільні, бо да яго хадзілі й гасьцініцу. Тады зрабіў на яе зусім іншае ўражаньне: быў больш ветлівы, больш вясёлы. Пазьней, калі Родзевічыха сама асела ў Вільні (ад 1890 году), яна спатыкалася з Багушэвічам часьцей. Характар паэта меў быццам наагул цяжкі, і гэтым Родзевічыха выясьняе факт, што настрой дома быў благі, не ўспамінаючы зусім аб магчымасьці існаваньня іншае прычыны: канфлікту ідэйна-нацыянальнага. Багушэвіч меў братоў і сястру. Адзін брат быў зусім хворы ( — спаралiжаваны) і жыў пры Францішку. Другі быў Апалінары; сын апошняга цяпер натарыюсам у Вільні.

Інфармацыі Нагродзкага адносяцца наўперад да віленскага пэрыёду жыцьця Багушэвіча, часткова такжа да апошніх гадоў жыцьця паэты ў родных Кушлянах. Інфармацыі гэтыя—даволі багатыя і зьмяшчаюць мамэнты проста рэвэляцыйныя, нязвычайна цэнныя дзеля выясьненьня пытаньня аб псыхіцы паэты і аб нацыянальным абліччы яго. Падаю іх памагчымасьці поўна — разам з тымі вывадамі, якія з іх беспасярэдна выплываюць.

---

Нагродзкі пазнаёміўся з Фр. Багушэвічам у Вільні ў 1893 ці 1894 годзе.

Жыў тады Нагродзкі на Бэльмонце. Непадалёк ад Бэльмонту, на ўзьбярэжжы Вялейкі, было месца канспіразыйных спатканьняў Нагродзкага з рэвалюцыйнымі дзеячамі, у — тым ліку — з Язэпам („Зюкам") Пілсудскім. Раз падчас такога спатканьня Пілсудскі сказаў

[1]) Інфармацыі, даваныя Нагродзкім падчас гутарак з ім 3. IX. 35 і 10. X. 35, я запісаваў, пасьля дома апрацоўваў і ў рукапісе даваў Нагродзкаму дзеля праверкі. У запісе першае гутаркі інфарматар мой зрабіў сваей рукой некалькі паправак —*А. Л.*

Нагродзкаму, які здаўна цікавіўся беларушчынай, што мае для яго навінку, і дастаў з кішані толькі што прывезеную із заграніцы „Дудку беларускую". Нагродзкі з вялікім зацікаўленьнем кінуўся на беларускія вершы і папытаўся ў Пілсудскага, хто іх аўтар? — „Ot, taki sobie adwokacik, nazywa się Bohuszewicz," — адказаў „Зюк". — Нагродзкі папрасіў Пілсудскага, каб пазнаёміў яго з Багушэвічам, і „Зюк" абяцаў яму зрабіць гэта. Але знаёмства завязалася іначай.

Групка дэмакратычнае інтэлігенцыі, да якое належыў і Нагродзкі, зьбіралася сыстэматычна ў розных мясцох на вечары літаратурна-музыкальна-дыскусыйныя. На гэтых вечарох мела месца і беларушчына: адна паня вельмі хораша пяяла беларускія народныя песьні, дэклямаваліся адрыўкі з беларускіх вершаў Дунін-Марцінкевіча. На адным із такіх вечароў у кватэры Дмахоўшчыхі выступіў неўспадзеўкі нейкі няведамы датуль Нагродзкаму грамадзянін і прадэклямаваў беларускі верш, каторы пачынаўся словамі: „Хмаркі цёмныя, мае братанькі..." Нагродзкі быў вельмі захоплены дэклямацыяй. — „Хто гэта?" — пачаў ён выпытавацца. Гэта быў Багушэвіч, і Нагродзкі тут-жа з ім пазнаёміўся.

Яны вельмі здружыліся. Спатыкаліся прынамся раз у тыдзень — у нядзелю, калі Нагродзкі быў вольны ад працы. Калі-ж здаралася, што Нагродзкі ў нядзелю ня мог заглянуць да Багушэвіча, дык той сам да ято даведаваўся ў месцы працы Нагродзкага.

Ужо з гэтае жмені інфармацыяў Нагродзкага відаць, што Багушэвіч у Вільні контактаваў з элемэнтамі радыкальнымі: калі Пілсудскі прывозіў „Дудку беларускую" із заграніцы, дык трэба думаць, што і друк яе заграніцай быў наладжаны тым жа шляхам. У выбары-ж знаёмстваў Багушэвіч быў вельмі пераборлівы. Паводле слоў Нагродзкага, Багушэвіч, займаючыся адвакацкай практыкай, ані з адвакатамі, ані наагул з грамадзянствам асабіста бліжэй ня зыходзіўся. Апрача Нагродзкага, адваката Адама Карповіча ды сваяка свайго Родзевіча больш ні з кім блізка ня жыў. Стараўся браць справы вылучна сялянскія, бо *крэпка быў зьвязаны з беларускім народам.*

Як вытварылася ў Багушэвіча ягоная *беларуская ідэалёгія?*

Паводле Нагродзкага, яна мела дзьве падставы. Перадусім ужо падчас паўстаньня (а мо' і раней, калі быў вясковым вучыцелем!) Багушэвіч меў ідэалёгію радыкальную [1], і ягоны сацыяльны радыкалізм, ягонае „хлопоманьства", як тады называлі, ужывалася згодна з польскай палітычнай незалежніцкай ідэалёгіяй. Багушэвіч належыў да тыпу Каліноўскага і наагул „чырвоных". Ці пад час паўстаньня спатыкаўся беспасярэдна з Каліноўскім, няма ведама: сам Багушэвіч ніколі аб гэтым Нагродзкаму не ўспамінаў. І гэта йзноў, на мой пагляд, даволі паказальная акалічнасьць: калі-б ужо ў 1863 годзе Багушэвіч меў беларускую ідэалёгію і супрацоўнічаў з Каліноўскім, дык паміж тагачаснай ідэалёгіяй Багушэвіча і ідэалёгіяй з часу пісаньня „Дудкі" была-бы арганічная сувязь, і ў гутарках з Нагродзкім Багушэвіч *мусіў-бы* гэту сувязь неяк адзначыць хоць-бы міма-

[1]) М. Піотуховіч („Нарысы гіст. белар. літар". ч. I, стр. 94) бачыць пачатак радыкалізму Багушэвіча ў часе ўнівэрсытэцкае навукі ў Пецярбурзе, дзе сярод студэнцтва панавалі ідэі Гэрцэна і Бакуніка ды „моцна гучэў „Колокол" Гэрцэна".

вольна. Відаць, аднак, у 90-ых гадох Багушэвіч вельмі далёка адыйшоўся ад старое ідэалёгіі, каторая мусіла быць у супярэчнасьці з новай — ведама, у галіне *нацыянальнай.*

Другой падставай, на якой вырастала беларуская ідэалёгія Багушэвіча, былі *украінскія ўплывы.* Мае, здаецца, поўную рацыю і Гарэцкі, і Карскі, і Піотуховіч, і ўрэшце кс. Станкевіч, зварачаючы на гэты мамэнт асаблівую ўвагу. Бо-ж, паводле Нагродзкага, *Багушэвіч пачаў пісаць вершы, як жыў на Украіне, і пісаў іх спачатку паўкраінску.* Калі-ж вярнуўся да краю, дык тады ўжо аставалася яму зрабіць толькі адзін крок, каб перайсьці да беларускага самаўсьведамленьня. І *Багушэвіч гэты крок учыніў. Тут, у краю, Багушэвіч пачаў пісаць вершы пабеларуску,* а старыя ўкраінскія пісаньні свае спаліў, як нічога ня вартыя. Тут, у краю, — кажа з глыбокім перакана1ньнем Нагродзкі, — *у гэткай працы Багушэвіч „знайшоў сябе“ і — „unarodowił się“,* што аднак — засьцярог мой інфарматар — не зьмяншала яго польскіх гаспадарсьцьвеных сымпатыяў.

Аднак, судзячы з далейшых слоў Нагродзкага, гэтыя сымпатыі выплывалі ў Багушэвіча з *антыпатыі да Расеі і ўсякае маскоўшчыны.* Апошняе, памім іншымі, пацьвярджае адзін характэрны факт з жыцьця Багушэвічавага, аб якім будзе гутарка далей.—Паводле Нагродзкага, Багушэвіч быў гарачым прыхільнікам адбудовы Польшчы—у шырокіх межах, лятуцеў аб тым, каб і Беларусь была з Захадам (у яго польскім аспэкце!) і „дрыжэў на думку, што яна магла-б астацца пад Расеяй, калі-б ад апошняе адарвалася Польшча“. — Відаць, Багушэвіч, як і шмат хто з беларускіх адраджэнцаў ажно да сусьветнае вайны, не ўяўляў сабе поўнага ад'асабненьня Беларусі, як асобнага, ні з кім гаспадарсьцьвенымі сувязямі ня зьвязанага, незалежнага гаспадарства....

Наагул, паводле Нагродзкага, *палітычная* дзеяльнасьць Багушэвіча закончылася ў 1863 годзе і пасьля ўжо ні ў чым не выяўлялася. На віленскім грунце ён узыйшоў на шлях вылучна культурна-нацыянальнае беларускае працы. На маё пытаньне, ці ня было ў Багушэвіча нейкае лучнасьці з народавольцамі, Нагродзкі адказаў нэгатыўна. Дый здаецца, што пацьвярджэньне гэтага дае заўсёдная варожасьць Багушэвіча да ўсяго расейскага, якую Нагродзкі асабліва падчыркавае.

Чураючыся расейшчыны й расейцаў, ня ўходзячы ў бліжэйшае асабістае сужыцьцё і з палякамі, Багушэвіч, аднак, цікавіўся ўсімі справамі польскага культурна-грамадзкага жыцьця. І гэта рэч зусім зразумелая: беларускага грамадзянства, беларускага культурнага жыцьця тады йшчэ ня было, і Багушэвіч, як чалавек культурны, мусіў шукаць сабе „аддушыны“ ў польскім культурным асяродзьдзі, але заўсёды на грунце *краёвым.* Багушэвіч карэспандаваў з блізкой яму, відаць, духова Элізай Ожэшковай (Арэшчыхай), якая ў свой чарод вельмі цікавілася паэтам і ягонымі творамі (асабліва беларускімі, бо, як мне ведама з іншае крыніцы, польскія вершы Багушэвічавы лічыла слабымі). У 1896 ці 1897 годзе Арэшчыха папрасіла Багушэвіча ў Горадню, дзе ён і правёў некалькі дзён ды блізу ўвесь час праседжваў у Арэшчыхі, якой чытаў свае творы. Паміж іншымі — адумысны верш да Арэшчыхі, каторы канчаўся словамі: „Прыймі,

як адзнаку тваёй чэсьці ў вёсцы!" ( — верш гэты быў першы раз надрукаваны ў „Варце", Менск, 1918, № 1, і паўтораны ў „Часопісі", Коўна, 1920, № 2).

---

У 1897 годзе — у ліпні месяцы (пасьля арганізацыі ў Вільні выстаўкі абразоў, абслужанае польскімі малярамі — пераважна з Варшавы) — была наладжана экскурсія лодкамі ў Коўну, каб даведацца да *„ліцьвіноў"*. Ведама (— і гэта асабліва характэрна для нацыянальнае тэрміналёгіі гэных часоў наагул!), справа йшла аб ковенскае *польскае* грамадзянства, якое толькі тэрыторыяльна называлася літоўскім, бо-ж этнаграфічна літоўскае, як і этнаграфічна беларускае, тады яшчэ не існавала, і толькі лічаныя адзінкі спасярод нацыянальна сьведамых ліцьвіноў у Вільні процістаўляліся і нацыянальна, і палітычна паляком (д-р Дамашэвіч і інш.). — На лодках паплылі: Фр. Багушэвіч, ягоны сваяк Габрыэль Родзевіч, Зыгмунт Нагродзкі, Алясандра Давідоўскі (мянюшка „Ротмістр"), Станіслаў Булгароўскі, Наполеон Роўба, Зыгмунт Пацкевіч, урэшце — два матурысты: Балеслаў Швэнгрубэн і Вацлаў Макоўскі. Едучы спыніліся ў Кернове ў арт.-маляра Русецкага, дзе прылучыўся да экскурсіі вучыцель Сьлівінскі з Пецярбурга. Адначасна з экскурсіяй на лодках, прыехала ў Коўну цягніком каля 20-ёх віленскіх польскіх дзеячоў. Ковенскае грамадзянства вельмі горача прыняло гасьцей. На гары Наполеона (непадалёк ад места) быў зладжаны пікнік, на якім прывітаў прыезных гарачай прамовай ковенскі адвакат Міхал Юновіч. Адказаў яму вельмі прыгожа Наполеон Роўба. Тады шмат хто прамаўляў на бягучыя нацыянальна-палітычныя тэмы, а калі за нейкі час ковенцы рэвізытавалі сваіх гасьцей у Вільні, дык ім зладзілі выезд у Трокі і там—на востраве, у замку—зрабілі пачастунак, гэтак сама з палітычнымі прамовамі. — Ясна-ж, усе гэтыя прамовы мелі чыста польскі нацыянальны характар, і ўчасьце ў гэных прадпрыемствах Багушэвіча паказвае, што пры ўсёй сваёй беларускасьці ён лічыў блізкімі сабе і справы польскія.

Прабыўшы ў Коўне 2-3 дні, экскурсія лодкамі паплыла далей—у Юрбург, але Багушэвіч туды не паехаў.

Экскурсія пакінула свой сьлед у творчасьці Багушэвіча. Вярнуўшыся з Коўны, — кажа Нагродзкі, [1] — ён напісаў тры вершыкі беларускія і адзін польскі, апісваючы ў іх сваё падарожжа і гасьцціннасьць „ліцьвіноў", ды ўпісаў у альбомы сёстраў Пятровічанак, бацькі каторых асабліва гасьцінна прыймалі віленцаў. Всєь гэтыя вершыкі — з захаваньнем Багушэвічавае лацініцы і ўсіх асаблівасьцяў ягонага правапісу:

*Koŭna (r. 1897, d. 20. lipca).*

Sabraŭszysia na try czoŭna
Wiasławali my da Koŭna.
Praz try dni i praz try noczy
Doszcz maczyŭ, a wiecier ŭ woczy!
Usie naszy paniczyki
Zrabilisia jak biczyki:
Na dałońkach mazoliki
Czyrwanieli jak woliki,
Zabalelisia żywociki,
Pramaczylisia ich bociki,
Rża pabiła szkarpetaczki....
Och! biednyja-ż wy dzietaczki!

[1]) З формы напісаньня і датаваньня выглядае, што вершы пісаны ў Коўне.

Nocz zimnaja. dzień żarki:
Papaliła czysta twarki!
Paczarnieli, zmarkatnieli:
Praz try dni miascá nia jeli!...
Pieśni hudzieć pierastali.
Usie czysta ŭžo prystali!
Ale, u Koŭnie, pamalenku,
Jak chto hlanuŭ na panienku,
— Aczuniaŭ i bol zabyŭsia,
Kožnyb z kožnaj ažaniŭsia:
Kožna miła i wasoła!
Prapaŭ smutak wieś ukoła!
Jak chto chocze być ŭ haścinie,
To jedź ŭ Koŭna na wicinie,
Ci na płycię, ci na czoŭnie;
Dapytajsia tolki ŭ Koŭnie,
Hdzie Piatrowiczawa chata:
Tam siamja usia bahata
U haścinnaść, u szczyrotu,
Ludzku miłaść i dabrotu.
Tam nakormiać, razwaselać
I twoj smutak tut razdzielać.

*Franciś Bohuszewicz.*

(З альбому Алёны Пятровічанкі, пасьля па мужу — Нагродзкае).

*18 20. VII. 97.*

Chto nad żaleznaj strunoj zapanuje,
Aż jana płacze, to hrymić hromam,
to stohnie,
To tak śmiajetca, rahocze, tancuje,
Szto dusza ćwiordaja zdrohnie,
Toj i nad sercam panawać može,
Bo dar muzyki, to Twoj dar, Bože!
Ihraj że świetu, a chto ŭczuje tony,
Toj nie prapaszczy, toj budzie zba-
wiony.

*Fr. Bohuszewicz.*

Kamu dudka pasłuszna
dy ihraje śpieŭnie,
Toj dusza dabraduszna
I szczyraja peŭnie.

*Fr. Bohuszewicz.*

*R. 1897, dnia 20 lipca, Kowno, dom P. p. Piotrowiczów.*

Życie zwą podróżą na wątłej łodzi,
A śmierć zwą przystanią po ciężkim trudzie:
Ludziom o rozkosze bez trudu chodzi,
Więc sobie i marzą o niej ci ludzie;
Dziś tylko marzą, jutro wierzą święcie,
Że i u *Piotra* znajdą to przyjęcie,
Co u Piotrowiczów, nawet bez zasługi!..
O, gdybyż tak było! — wnet by wszystkie strugi
Ludzkiego padołu pokryłyby łodzie. —
Jabym wichrem leciał i pędził na przodzie,
Bo tu mię przyjęto, to już tak serdecznie,
Że lepszej przystani nie chciałbym i wiecznie.

*Franciszek Bohuszewicz.*

(З альбому Марыі Пятровічанкі).

Вярнуўшыся з Юрбурга, экскурсія яшчэ пару дзён забавілася ў гасьцінных „ліцьвіноў“ і ўрэшце паехала назад у Вільню. Паехаў і Багушэвіч.

Экскурсія гэтая мела для здароўя Багушэвіча фатальныя вынікі. Едучы ў Коўну, учасьнікі яе перажылі цяжкі мамэнт: матурыста Швэнгрубэн чуць не ўтануў. Гэты выпадак страшэньне падзеяў на Багушэвіча, у якога зрабіўся як-быццам нэрвовы „шок“. А ўсьлед за гэтым, у той жа дзень, сталася такая рэч. Прыстаўшы да берагу на начлег, усе пайшлі спаць у нейкую пуньку. Але Багушэвіч не

хацеў спаць у душнай пуні і пастанавіў легчы пад голым небам — на лужку. Хаця пакрапываў дожджык, і Багушэвіча адгаварывалі ад гэтага, ён сказаў: „У 1863 годзе мы спалі і ў горшых варунках“. Закруціўся ў бурку ды праспаў ноч на траве. Ад гэтага застудзіўся, і ў яго зрабілася хвароба нырак, да якое пасьля прылучыўся тубэркулёз. У рэзультаце здароўе яго было зламана, і гэта давяло да перадчаснае сьмерці.

---

Ня гледзячы на блізкасьць духовых заінтарасаваньняў з польскім грамадзянствам, Багушэвіч адносіўся да апошняга наагул вельмі крытычна і вострай сатырай кляйміў яго за нястачу дэмакратызму ды іншыя агульна ведамыя заганы. Гэтыя сатыры, пісаныя папольску і пабеларуску, выклікалі абурэньне сярод палякоў, і адносіны іх з Багушэвічам псаваліся з кожным годам, а ў канцы зусім парваліся. Да гэтага, паводле Нагродзкага, спрычынілася некалькі акалічнасьцяў.

Пад той час старшынёй адвакацкае рады ў Вільні быў адвакат Тадэуш Буйка. Якраз насьпела 25-леццьце ягонае адвакацкае працы. Адвакатура сабралася віншаваць Буйку — ў яго на прыватнай кватэры. Пераважалі палякі, але было й некалькі жыдоў дый адзін расеец, Белы, каторы пачуваў сябе ў душы паляком (—мо' гэта быў, судзячы па прозьвішчу, беларус?). Быў і Багушэвіч. Ад імя адвакатуры пачаў гаварыць прывітаньне адв. Шастакоўскі (— быў ён сасланы ў Сібір разам з Врублеўскім), але—у расейскай мове. Гэта страшэнна абурыла ўсіх палякоў, але ніхто з іх на гэта не рэагаваў. За тое зарэагаваў Багушэвіч: ён дэманстрацыйна выйшаў із пакою, бразнуўшы дзьвярыма. Гэты пастулак ужо настроіў варожа да яго „угодовых“ палякоў. Але на гэтым справа ня скончылася. У кракаўскім журнале „Przegląd Wszechpolski“ зьявілася грамавая стацьця, скіраваная проці пастулку Шастакоўскага. Апошні абвінавáціў у аўтарстве стацьці Багушэвіча і публічна назваў яго грэблівым у вачох паноў імем „хлопа“: „Czego można było od tego chłopa się spodziewać?!“ У гэтым сказе Шастакоўскага вылілася ўся варожасьць віленскага грамадзянства да „chłopomaństwa“ Багушэвічавага. Багушэвіч пусьціў тады сярод адвакттуры востры вершык — штось на тэму аб гэрбах сваім і Шастакоўскага.

За Шастакоўскага заступіўся адвакат Т. Врублеўскі, у квартэры каторага зьбіралася група віленскіх „Шубраўцаў“, узноўленых Врублеўскім. Врублеўскі ў вельмі ядавітай форме кпіў на адным сходзе „Шубраўцаў“ з Багушэвіча. Той даў адказ Врублеўскаму ізноў-жа вершам — пабеларуску. Пачатак гэтага вершу, страшэнна напастлівага й запраўды вельмі крыўднага для Врублеўскага. Нагродзкі пераказаў мне з памяці:

Малімончык наш Тадэўка
Гад, на пацеры місьцюк:
Як пачуе, дзе ёсьць дзеўка,
Дык улезе, як пацук.
А махлюе, а прыкіда!
Мысьлі яго — не паняць!
Жыдоў гане, а за жыда
Такіх дзесяць можна-б даць.
Як ён моліцца, то грэша;
Як сьмяецца — плачуць людзі.
Як пабожыцца, то брэша;
Як салодкі — кепска будзе!...
. . . . . . . . . . . . . .

У адвакатуры пачаліся вострыя сваркі. Шмат хто з Багушэвічам і шмат з кім Багушэвіч ня вітаўся. Жыцьцё ў Вільні рабілася для паэты ўсё цяжэйшым.

А тут здарыўся яшчэ адзін выпадак.

Надыходзіў 1898 год — сотыя ўгодкі нарадзінаў Адама Міцкевіча. У Вільні паўстала думка наладзіць грамадзкае сьвяткаваньне. Сабралася нарада ў кватэры Багушэвіча, злажыўся камітэт, які пастанавіў зрабіць табліцу з адпаведным надпісам і зьмясьціць яе ў касьцеле сьв. Яна. У склад камітэту, побач з іншымі, ўходзіў Багушэвіч і граф Антон Тышкевіч. Гэны Тышкевіч меў у Вільні млын і пякарню. Дзеля прадажы сваіх вырабаў ён пазакладаў у розных пунктах места крамкі і абвясьціў, што кожын сталы купец хлеба й булак у гэных крамках дастане адумысловую кніжачку дзеля запісу кожнае куплі і пасьля будзе дставаць нейкі процант ад закупленае колькасьці тавару. — Шмат хто абураўся на гэты спосаб прываблюваньня клiентаў, кажучы, што гэта дэмаралізуе хатнюю службу. Абураўся і Багушэвіч і, як звычайна, сваё абурэньне выліў у вершу — бальлядзе „аб замучаным дукаце“. Вось гэты верш, польскі загаловак каторага быў: „O dukacie umęczonym historja najprawdziwsza“.

Szlachcic, co się nazywa,
Ile pomnę, Leliwa,
Po rodzicu, po dziadku
Dostał dukata w spadku.
Ważny czerwony złoty
Miał stemplowej roboty
Wierch — Obraz Matki Boskiej,
Spód — ludzki znój i troski.
Dobro, słusznie nabyte,
Szlachcic schował w kalitę,
Rozumując, że zda się
Kiedyś, w potrzebnym czasie,
Nie dopuść Boże kary.
Rozmienion na talary
Oprze sią mocno biedzie,
Dobrze się z nim powiedzie.
Dukat leżał w kalicie,
Nie dbając o wikt, picie,
Myślał: z pełnej kieszeni
Szlachcic mię wnet nie zmieni.
Ale dukat, choć stary,
Nie znał pańskiej przywary:
Szlachcic ów nie miał wstrętu
Do zysków i procentu.
Wyjął dukat z kality
I rzekł: Daj mi profity!
Dukat w głowę się skrobie,
Myśli: Jak że to zrobię?
Chcesz profitów, moj panku,
To mnie zanieś do banku.

Szlachcic się mocno burzy:
Co też o banku bzdurzy
Ta głupia dukacina?
Rzucił dukat do młyna.
W dzień powszedni, w niedzielę
Dukat w młynie się miele,
A choć pot go zalewa,
Zysków nie wydobywa.
Na to szlachcic jak wrzaśnie:
A niech cię piorun trzaśnie!
Przydał nowych męczarni —
Szle dukat do piekarni.
Przypatrz się wszelki człecze:
Już trzeci rok się piecze,
O wytchnienie wciąż prosi,
A zysku nie przynosi!
Szlachcic gniewem się pieni,
Sypnął grosza z kieszeni,
Do mąk nowych się zbiera.
Zawołał inżyniera —
Zrobili kuźnię znaczną,
Tam dukata tłuc zaczną.
Jęczy dukat w ucisku,
Ale nie daje zysku.
Znów zwiększyli męczarnie:
Urządzili tokarnie, —
Okrutnie dukat toczą,
Tylko zysków nie zoczą.
Inżynier krzyknął gniewnie
I urządził odlewnię;

Lejąc żelazne kraty,
Nie dał dukat intraty.
Szlachcic uparty srodze
Popuścił myślom wodze,
Pragnąc dukata zażyć,
Każe do w cukrze smażyć.
Dukat w cukrze się smaży,
Zyskiem jednak nie darzy.
Inżynier wąsy kręci:
Czyż garnki lepią święci?
Wrzucił dukat sterany
Do blachy cynkowanej.
Gdy go blachą obili,
To się wszyscy zdziwili:
Już nie widać dukata,
A gdzież z niego intrata?
Oj, dukacie ubogi,
Nie koniec męki srogiej:
Nowe katusze robią,
Jużci tartak sposobią.
Idź że już, nieboraku,
Pod piły do tartaku!
Bóg się mąk twych użala:
Na większe nie zezwala.
Zginął dutak w boleści,—
Weksel po nim szeleści.
Gniew szlachcica porywa
(I mama się też gniewa).
Zwykłą rzeczy koleją
Jeszcze ludzie się śmieją.
Gdyby ludzie — pół biédy:
Ale smieją się żydy.
Taka to była strata
Męczonego dukata.

*Fr. Bohuszewicz.*

Хаця нічога крыўднага для Тышкевіча ў гэтым вершу няма, аднак ён выклікаў неспадзяваны эфэкт. Тышкевіч страшэнна быў абурыўшыся на паэту і адмовіўся бываць на паседжаньнях камітэту міцкевічаўскага сьвяткаваньня, бо камітэт зьбіраўся ў кватэры Багушэвічавай...

Багушэвіч усё гэта вельмі балюча адчуваў, і гэта-ж — побач з хваробай, каторая разьвівалася ў яго, — прымусіла яго ўканцы пакінуць Вільню ды перабрацца на вёску—у Кушляны.

---

Нагродзкі ад часу да часу заглядаў у Кушляны, каб даведацца да прыяцеля, якому шчыра спагадаў ува ўсіх ягоных віленскіх прыкрасьцях. Знаў усю ягоную сям'ю: жонку, дачку, сына. Дачку Канстанцыю („Туню") Багушэвіч, дастаўшы спадчыну па браце, вучыў на сьпявачку, бо яна мела вельмі добры, багаты й моцны голас — альт. Вучылася яна заграніцай і мелася выступіць у знамянітым мілянскім тэатры La Scala. Але з ёй сталася бяда: перад самым выступленьнем яна захварэла на горла, а ў выніку хваробы зусім страціла голас. — Ведама, бацька вельмі балюча перажыў гэтае здарэньне.

На вёсцы ў Багушэвіча Нагродзкі спатыкаўся з тымі людзьмі, з якімі паэта жыў бліжэй, а наўперад з ЛявонамВаўчацкім (двор Тэнчына), каторы любіў дэклямаваць пабеларусну, Карловічам Янам, выдатным філёлёгам (бацькам кампазытара Мечыслава Карловіча), ды йшчэ з нейкім суседам з двара Каменкі, прозьвішча якога Нагродзкі не запамятаваў. Бывалі і два вучыцялі—расейцы (адзін з іх называўся Панамароў), але Нагродзкаму здавалася, што Багушэвіч дружыў з імі больш з увагі на сына, каторы вучыўся тады ў школе, дзе Панамароў выкладаў.

Наагул-жа Багушэвіч быў у забыцьці: з віленскіх знаёмых рэдка хто да яго даведаваўся. У лістох да Нагродзкага паэта жаліўся, што аб ім усе забываюцца, і ўплятаў на гэту тэму вершыкі — пабеларуску і папольску. Два з іх з памяці падаў мне Нагродзкі:

Вецер дзьме і вые,
што аж мысьлі рвуцца.
Змоўклі песьні тые,
Што іграў на дудцы.

Раз яшчэ зайграю
у астатняй хвілі
для тых, што жаль маю,
што мяне забылі...

---

Kupka drewek dogorywa
Na kominku w chacie,
A coś w sercu się odzywa:
Tak i z tobą, bracie.
Inny ogień tutaj buchał,
Ogrzewał i świecił;

Każdy patrzył weń i słuchał
I swój płomyk niecił.
Nie zapłonie on tu więcej
Nie rozbłyśnie łuną,
Zamrze, jak głos twej dziecięcej
Liry z jedną struną....

Такія сумныя настроі перажываў наш паэта ў вапошнія перад сьмерцяй гады....

Яшчэ ў Вільні — перад выездам на вёску — Багушэвічу часта нехапала тэмаў да вершаў і апавяданьняў, а патрэбу пісаць ён меў. Дык ня раз прасіў Нагродзкага даваць яму тэмы. Гэтак паўсталі два маленькія апавяданьні прозай: „Сьведка" і „Дзядзіна". З ініцыятывы Нагродзкага Багушэвіч пераклаў на беларускую мову ведамы й некалі вельмі популярны сатырычны вершык Бартэльса п. з. „Сьвіньні і бараны" (ён быў надрукаваны падчас нямецкае акупацыі ў віленскай газэце „Гоман", № 54, 18. VIII, 1916).

Дзеля таго, што віленская дэмакратычная моладзь, ладзячы часта экскурсіі на ўлоньне прыроды, ня мела што пяяць, Нагродзкі абвясьціў конкурс на песьню, словы каторае адпавядалі-бы тагачасным настроям моладзі. У конкурсе прыняў учасьце Багушэвіч і — выйшаў пераможцай: конкурсны суд выбраў ягоны верш, каторы сваім зьместам ёсьць антытэзай ведамае песьні з часоў Міцкевіча: „Precz, precz smutek wszelki, zapal fajki, staw butelki!"... „Piosnkę tę — кажа Нагродзкі — umiłowaliśmy nad wszelkie inne; stała się ona jakby naszym sztandarem, i ją właśnie najczęściej i najchętniej śpiewaliśmy. Zresztą, śpiewaną ona była nie tylko przez nas i nie tylko w Wilnie. Była ona również popularną wśród młodzieży polskiej w Kownie, której przewodził niedawno zmarły w Wilnie Zygmunt Rewkowski". — Падаю поўны тэкст песьні Багушэвіча (падпісаўся аўтар пад ёй псэўданімам „F. Bur." і датаваў 20. VII. 97.), бо-ж вельмі цікаўная тая эвалюцыя настрояў моладзі, якая ў ёй адбілася, раўнуючы з застольнай песьняй шляхоцкае моладзі дваццатых гадоў мінулага стагодзьдзя:

Precz butelki, precz fajczarnie!
Dosyć tracić czas ten marnie.
Niech, kto żyje, bierze kije, (
Dalej rusza w świat! ( bis.

Nie idziemy w obce kraje
Badać cudze obyczaje,
Gdyż nie znamy, co tu mamy, ( bis.
Co robi nasz brat. (

Idźmy poznać nasze pole,
Odczuć braci naszych dolę,
Co w ciemnocie, czoła pocie ( bis.
Żywią wszystkich nas. (

Nieśmy promień pod ich strzechy,
Promień światła i pociechy,
Wskrześmy ducha spod kożucha, ( bis.
Póki jeszcze czas! (

Tam powiemy o Czeczocie
I o Zana wielkiej cnocie,
O Kościuszce, o Moniuszce ( bis.
I o wieszczach też. (

Im podając nasze ręce,
Uczynimy w kraju więcej,
Niż na wojnie, dzieląc hojnie ( bis.
Rany wzdłuż i wszerz. (

A więc, bracia, niech kto żyje
Bierze wnet pielgrzymie kije,
Niech poznaje własne kraje ( bis.
I swój biedny lud. (

Niech nas grzeje słonko swoje,
Niech nas chłodzą własne zdroje,
W obce kraje, za Dunaje ( bis.
Wyrzucajmy brud! (

Паміж іншым, Нагродзкі прасіў Багушэвіча напісаць якую беларускую п'еску дзеля народнага тэатру. Багушэвіч ахвотна абяцаў папрацаваць над п'есай, але ізноў-жа ня мог знайсьці адпаведнае тэмы. Нагродзкі абяцаў абдумаць тэму і даць Багушэвічу, але, пакуль абдумаваў, паэта памер у Кушлянах.

З недрукаваных вершаў Багушэвічавых, напісаных у 90-ых гадох, Нагродзкі даў мне копію яшчэ аднаго, напісанага з прычыны чутак аб блізкім канцы сьвету, каторыя тады шырака хадзілі ў народзе. Вось гэты верш:

Otoż, bracie, dawiadzietsa
Nam z taboj waczmi swaimi
Baczyć, jak świet zapadzietsa
Sa ŭsim czysta i sa ŭsimi.
Kazaŭ Szmujła: nie pamoże
Żadna siła — ŭsio prapała!
Astanutsa, każe, może
Żydkoŭ kolki — i to mała—
Kab było kamu astatki
Hroszy, wodku, rożne zboże,
Paźbirać usie manatki,
Ci nia kupić ich chto może?
A szto reszta ŭsio zahinie:
I kabyły, i karowy,
I awieczki, i ŭsie świnie.
A tam kaliś może nowy
Świet paŭstanie; — każe Szmujła,
Szto żydoŭski świet to budzie.
Zhinieć pan, prapaŭ chamuła,
A z żydoŭ nastanuć ludzie.

Wilno. *F. Bahuszewicz.*

Калі з Кушлянаў прыйшла ў Вільню сумная веста аб сьмерці Фр. Багушэвіча, Нагродзкі ня меў магчымасьці паехаць на пахавіны свайго прыяцеля. За тое ён з'арганізаваў дэлегацыю з чатырох асобаў—пераважна із сфэры працоўнае—з краўцом Закрэўскім на чале. Дэлегацыя павезла з сабой вялікі вянок з яліны; замест істужкі быў тонкі белы сялянскі ручнік з беларускім надпісам: „Змоўклі песьні тыя, што іграў на дудцы..." (словы ўзятыя з перадсьмертнага вершыку паэты). Вянок быў узложаны на магілу і нейкі час ляжаў тамака, — але пазьней, калі Нагродзкі туды прыехаў, дык беларускага надпісу ўжо не знайшоў: ён—„шчэз"...

Нагродзкі характарызуе Багушэвіча гэтак:

„Jako człowiek — wcielona szlachetność, niezmiernej moralnej wartości, strasznie wrażliwy na wszelkie zło. Oburzała go do głębi duszy każda nieprawość, na którą inni nie zwracali nawet uwagi".

Ці ня з гэтага вырас і ўвесь сацыяльны й палітычны радыкалізм Багушэвіча? Зьмест цэлага раду вершаў паэты як-быццам пацьвярджае гэту дагадку.

Паводле Нагродзкага, беларуская праца Багушэвічава не абмежавалася пісаньнем вершаў: з даручэньня Яна Карловіча ён паважна заняўся працай над укладаньнем *беларускага слоўніка* ( — адзначым мімаходам, што ў гэным часе ўжо існаваў адзін беларускі слоўнік Насовіча). У Багушэвіча былі спэцыяльныя скрыначкі, куды ён складаў картачкі з асобнымі словамі. Бывала, што падчас гутаркі ён пачуў нейкае новае ці прыпомніў старое слова, даўно чутае, дык зараз-жа яго запісаваў на картачцы і клаў у скрыначку. Ці сям'я захавала гэты цэнны з навуковага гледзішча матэрыял, няма ведама.

На канчатак Нагродзкі паінфармаваў мяне аб гісторыі друку і пашыраньня „Беларускае дудкі" і іншых твораў Багушэвічавых. „Дудка" была вельмі ходкая. 3.000 надрукаваных у першым выданьні экзэмпляраў хутка разышліся. У шырэньні іх Нагродзкі прыймаў вельмі дзейнае ўчасьце. Нагродзкі працаваў тады ў каапер态ратыве (на Татарскай вуліцы), і да яго часта прыходзілі людзі з вёскі, каторых ён надзяляў Багушэвічавымі творамі. Апрача «Дудкі» і «Смыка» была йшчэ трэйцяя кніжачка: зборнічак вершаў (паводле Нагродзка—слабейшых) «*Тралялёначка*», аб існаваньні якое цяпер ужо мала хто ведае, дый яна нідзе не захавалася.[1]). Ня ведалі аб ёй ані М. Гарэцкі, пішучы сваю «Гісторыю Беларускае Літаратуры», ані кс. Станкевіч, калі апрацоўваў успомненую ўжо свою папулярную брашурку аб Багушэвічу.

Калі «Дудка» вычарпалася, Нагродзкі надумаў перавыдаць яе сваім коштам. Якраз меўся ехаць у Кракаў — адвезьці сваю дачку і наладзіць друк кніжкі аб ведамым працэсе за «бунт у Крожах» — Аляксандра Лапінскі, каторы і згадзіўся адвезьці ў Кракаў 100 руб. ад Нагродзкага, каб Анчыц перадрукаваў «Дудку», — што і было акуратна выпаўнена. Але цяжка было кольпортаваць яе да краю—праз «зялёную граніцу». Спачатку—з памогай Яз. Пілсудскага—пры-

[1]) *Карскі* („Беларусы" т. III, вып. 3) а за ім і *Піотуховіч* („Нарысы гіст. белар. літар.) называе „Тралялёначку" „апавяданьнем у прозе", чаму *Нагродзкі* пярэчыць, кажучы, што гэта быў зборнічак вершаў.

везьлі да краю 200 экз. «Дудкі». Далейшыя транспорты меліся ісьці кантрабандай—з аплатай па 40 руб. за пуд. Увесь наклад быў з гэтай мэтай узяты ад Анчыца, але чамусьці прывоз на доўгі час спыніўся. Толькі шмат пазьней Іван Луцкевіч, як быў у Кракаве, вышукаў гэты наклад, і кніжкі былі часткамі перасыланы да краю, дзе вельмі хутка разыйшліся. Пасьля «Дудку» перадрукавала Суполка «Загляне Сонца і ў наша ваконца» ў Пецярбурзе, закупіўшы ад сям'і Багушэвічавай права на выданьне ўсіх твораў паэты, у тым ліку і пакіненае да сягоньняшняга дня ў рукапісе «Беларускае скрыпачкі». Апошняя перахоўвалася ў архіве Бранiслава Эпімаха-Шыпілы і разам з усім архівам перайшла да Беларускае Акадэміі Навук у Менску.

---

**Дмітро Дарашэнка.**

# Старонка з маіх успамінаў.

*(Сьветлай памяці Францiша Багушэвіча).*

Я вучыўся ў 1890-ых гадох у Віленскай І-ай Гімназіі; «зубрыў» лаціну й грэку, пацеў над альгебрычнымі задачамі, але думка мая была далёка ад гэнае навукі: яна ляцела на Украіну, на ціхі хутар майго дзеда ў Чарнігаўшчыне, дзе я звычайна праводзіў летнія вакацыі і пасьля цэлы год жыў уражэньнямі і ўспамінамі ад тых двух летніх месяцаў. Мой бацка быў «украінафіл». Ён выпісаваў сабе ўкраінскія кніжкі, любіў пяяць песьні ўкраінскія, хадзіў на прадстаўленьні ўкраінскіх тэатральных трупаў, якія часта заглядалі ў Вільню. Ён прышчапіў мне рамантычную любоў да ўсяго ўкраінскага, і гэтая любоў, праз фактычную адарванасьць ад роднага краю, прыймала характар ідэалізацыі Украіны, яе народу, гісторыі, мовы, літаратуры. Любячы свае ўкраінскае, бацька з пашанаю ды спагадам адносіўся да польскага элемэнту: прыехаўшы на службу ў Вільню (—ён быў вайсковым вэтэрынарным лекарам), ён зразу пачаў вучыцца польскае мовы і мяне малога прымушаў навучацца напамяць адрыўкі з «Magji» або з Сыракомлеўскага перакладу «Кобзара» Шэвчэнкі (—к слову, выданага ў Вільні ў 1863 годзе). Гэтая пашана да польскае нацыянальнасьці, якую тады перасьледавалі (—памятую, як на пошце і ў іншых урадовых установах у Вільні віселі ў тыя часы таблічкі з надпісам: «Строго воспрещается говоритъ попольски»!), прыдбала бацьцы шчырых прыяцеляў сярод мясцовых палякоў, каторыя вельмі цанілі, што расейскі ўраднік гаворыць папольску, цікавіцца польскай літаратурай і з шчырым спачуваньнем адносіцца да польшчыны. Ведаючы, што бацька — украінец, яны стараліся зрабіць яму нешта прыемнае,—прыкладам, дарылі яму рэдкія кніжкі пра Украіну (—адзін знаёмы падараваў нам экзэмпляр «Kozaczyzny w Turcji» Садыка-Пашы-Чайкоўскага), або малюнкі: раз на мяніны

бацькі адзін знаёмы паляк падараваў яму копію абраза Ю. Коссака «Багдан Хмельніцкі й Тугай-Бэй пад Жоўтымі Водамі», у прыгожай залатой раме. Пазьней адзін малады пан, што вучыўся ў Львове ў політэхніцы, кожын раз, як варочаўся на фэрыі ў Вільню, прывозіў нам у кішані забароненыя тады ўкраінскія выданьні: Эвангельле паўкраінску, ўкраінскія пераклады з Шэкспіра, «Фаўста» Гетэ ды іншыя кніжкі. — Адносячыся з сымпатыяй да польскага элемэнту, бацька гэтак сама адносіўся й да беларусаў дый ліцьвіноў, але ня меў з імі бліжэйшых адносінаў, апрача адносінаў падчас сваей службы, дый то з людзьмі простымі, найбольш — з салдатамі.

Вось у гэтай атмасфэры, я-б сказаў, толеранцыі й пашаны да кожнае нацыянальнасьці, сярод апавяданьняў аб польскім паўстаньні 1863 году, аб Сымону Канарскім ды Ромуальду Траўгуту ( — мой бацька дружыў з Ляндсбэргам, з сям'ёй Пілсудскіх, з Касмоўскім ды іншымі людзьмі, у якіх сьвежыя былі традыцыі паўстаньня 1863 г.), складаўся мой нацыянальны сьветапагляд. Ужо ў 3-4 клясе гімназіі я сьведама пачуваў сябе ўкраінцам. Я адкладаў грошы, што даваў мне бацька на дробныя выдаткі, і выпісаваў сабе новыя ўкраінскія кніжкі з Кіева, або вышукаваў старыя ў віленскіх букіністых. Бышы ў 5-ай клясе, я падпісаўся на «Зорю», із Львова; яна прыходзіла ў заклееных канвэртах, бо ў Расеі была забаронена. Але я ня меў з кім дзяліцца сваімі інтарэсамі, сваімі лятуценьнямі сярод маіх таварышоў: са мною ў клясе вучыліся вылучна расейцы, палякі й жыды. Некаторыя з іх, асабліва спасярод жыдоў ( — маім таварышам і даволі блізкім прыяцелем у малодшых клясах быў Міх. Гольдман, ведамы пазьней пад імем «М. Лібэр» дзеяч Бунду), цікавіліся ўжо нелегальнай рэвалюцыйнай літаратурай і давалі мне чытаць, прыкладам, «Рабочее Знамя»; але маіх украінскіх інтарэсаў не разумеў і не падзяляў са мной ніхто, а былі й такія, што сьмяяліся з майго ўкраінства і дражнілі мяне, паўтараючы розныя дурныя выдумкі, што пускала расейская прэса аб украінскай мове й літаратуры. Гэта былі мае таварышы-расейцы.

У 6-ай клясе гурток маіх калегаў надумаў выдаваць рукапісны, а пасьля й гэктаграфаваны журнальчык «Гимназистъ». Я прыняў блізкае ўчасьце ў гэтым часопісе і даваў «стацьці» аб украінскай літаратуры ды пераклады з украінскіх аўтараў. І вось у вадным з нумароў вучань 5-ае клясы Сямашка зьмясьціў маленькае апавяданьне ў беларускай мове. Гэта мяне вельмі зацікавіла. Трэба адзначыць, што дагэтуль мне не даводзілася спатыкацца ні з кім, хто-б сьведама цікавіўся беларушчынай,—дый аб існаваньні нейкае літаратуры ў беларускай мове я блізу нічога ня ведаў. Памятую,—неяк у 1895 ці 1896 годзе,—што, як быў улетку колькі дзён у хвальварку гр. Тышкевічаў пад самым Маладэчнам, дык пабачыў у ваднаго з тамашніх служачых ( — называўся ён Антон Буйла і служыў раней у бацькі, як унтэр-ахвіцэр,) кніжачку „Дудка", надрукаваную пабеларуску лацінскімі літарамі ў Кракаве. Буйла хаваў яе, як нешта сьвятое, і ня кожнаму паказаваў; але да мяне меў давер і даў прачытаць. Кніжка зрабіла на мяне вялікае ўражэньне, але хто быў аўтарам яе, я тады йшчэ ня мог даведацца. Крыху пазьней я купіў у кнігарні Стракуна ў Вільні паэму «Сынок» (Ельскага). Вось і ўсё,

што бачыў дагэтуль з беларускае літаратуры, і вось цяпер у васобе Сямашкі я ўпяршыню сустрэў, як мне здавалася, «сьведамага» беларуса. Аднак аказалася, што аб якім колечы беларускім руху Сямашка ведаў ня болей за мяне і напісаў свае апавяданьне пабеларуску проста дзеля таго, каб даць нешта такое, што мела бы «мясцовы» характар. Ня болей мог мне сказаць аб беларускай літаратуры і мой таварыш Вацлаў Ластоўскі [1]), які—пад уплывам зьяўленьня ў журнале «Гимназистъ» украінскага й беларускага элемэнту—прызнаў сябе беларусам ды пачаў перакладаць на беларускую мову Шэўчэнку ( — памятую, ён пераклаў даволі ня блага «Русалку» і «Утопленую»).

Ажно вось вясною 1898 году даялося мне пазнаёміцца з самым Францішом Багушэвічам Сталася гэта вось якім спосабам. Раз. вярнуўшыся з свайго службовага падарожжа некуды ў бок Менску, бацька з захапленьнем расказаў мне аб дужа цікаўным знаёмстве з адным панам, якое завязалася ў яго ў вагоне на чыгунцы: ён пазнаёміўся з панам, каторы некалькі гадоў служыў на Украіне, як судовы сьледавацель ( — у Канатопскім павеце ў Чарнігаўшчыне), вельмі добра навучыўся паўкраінску і вось цяпер у дарозе ўвесь час гаманіў з бацькам у гэтай мове, апавядаючы шмат цікаўнага з сваіх успамінаў пра Украіну. Гэта быў Багушэвіч. У нас у Вільні ня было йшчэ тады нікога з знаёмых украінцаў ( — былі толькі «малороссы»), і новае знаёмства вельмі зацікавіла бацьку. Ён пайшоў да Багушэвіча з візытай дый папрасіў яго да нас. І вось за колькі дзён прыйшоў да нас увечары пан сярэдняга росту, з падстрыжанай барадой і даўгімі вусамі, з добрымі, крыху сумнымі вачыма, які гутарыў ціхою, роўнаю моваю. Разгутарыліся. Я паказаў госьцю «Зорю»; відаць, яна была яму ведама, і ён зразумеў, што значыць факт выпісаваньня забароненага часопісу малым гімназістым дзесьці ў Вільні. Ён пацалаваў мяне ў галаву і сказаў, што кожын чалавек павінен любіць свой народ, шанаваць сваю мову і працаваць дзеля свайго краю. Гэта былі першыя словы, пачутыя мной у жыцьці (апрача слоў майго бацькі) ад выраслага, «соліднага» чалавека аб нацыянальным абавязку, і гэтыя словы навекі ўрэзаліся ў маю памяць, як свайго роду багаслаўленьне ці запавет. Наш госьць пачаў гутарыць аб беларускім народзе ( — і тут мы даведаліся, што ён прызнае сябе беларусам), аб цяжкім жыцьці гэтага народу, аб занядзе ў яго асьветы й культуры. Ён прачытаў нам адзін верш—гэта была ведамая яго «Праўда». Чытаў ціхім голасам, памалу, але ў ягоным чытаньні было гэтулькі пачуцьця, гэтулькі глыбокае любові, гэтулькі непадробленае шчырасьці, што чытаньне зрабіла на нас вялізарнае ўражэньне. Мы з бацькам былі глыбака ўзварушаны і некалькі часін сядзелі моўчкі. Толькі цяпер зразумелі мы красу беларускага слова. Мы спыталіся: хто-ж аўтар гэтых цудоўных вершаў? Але Багушэвіч ня прызнаўся, што гэта ён напісаў іх Ён прачытаў нам яшчэ некалькі паэзіяў,—мабыць усё гэта былі ягоныя творы. Яны гэтак сама нам спадабаліся, як і «Праўда».

[1]) Асоба Вацлава Ластоўскага, з якім вучыўся аўтар „Успаміну", ня мае нічога супольнага з ведамым беларускім дзеячом — таксама Вацлавам Ластоўскім родам з Дзісьненшчыны.—*Рэд.*

Ад гэтага часу пачалося нашае знаёмства. Багушэвіч яшчэ некалькі разоў даведаваўся да нас, і мы дзяліліся з ім навінамі з украінскага літаратурнага жыцьця, каторыя я вычытаваў із „Зорі“. Было відаць, што гэта яго цікавіла. Ён - жа, калі бываў у адпаведным настроі, чытаў нам свае вершы, прызнаўшыся ўканцы, што аўтар іх — ён сам. Апавядаў такжа сёе-тое із свайго жыцьця, і гэтак мы даведаліся, што Багушэвіч быў учасьнікам паўстаньня 1863 году. Раз я быў у ягонай гасподзе. Меў ён невялікі дварок у Ашмянскім павеце, — калі не памыляюся, непадалёк ад Барун. Увосені 1898 году Багушэвіч перастаў да нас даведавацца, — здаецца, быў хворы; дый ужо тады, як мы з ім пазнаёміліся, быў ён ня зусім здаровы. І толькі шмат пазьней я даведаўся, што ён памер у 1900 годзе і быў пахаваны ў Жупранах.

Пазнаёміўшыся з Багушэвічам, пачаў я больш пільна шукаць нейкіх сувязяў з беларускім рухам. Але ня шмат давялося мне аб ім даведацца. Ад некаторых з маіх знаёмых із судовае сфэры чуў я аб Аляксандру Пшчолцы, як аб аўтары беларускіх апавяданьняў. Але мае знаёмыя казалі, што Пшчолка — гэта чалавек вельмі правага кірунку і што свае беларускія апавяданьні піша дзеля таго, каб пасьмяшыць публіку дый пазьдзекавацца над „дурнотай“ беларускага мужыка (гэтак сама, як у ўкраінскай літаратуры зьдзекаваўся над тэй-жа „дурнотай“ Раеўскі). Гэта адбіла ў мяне ахвоту пазнаёміцца з Пшчолкай. Адзін вэтэрынарны лекар, Турцэвіч (— брат колішняга вучыцеля гісторыі ў віленскіх сярэдніх школах А. О. Турцэвіча), каторы ў сярэдзіне 90-ых гадоў скончыў харкаўскі вэтэрынарны інстытут, дзе вучыўся некалі й мой бацька, апавядаў мне, што, як быў студэнтам у Харкаве, дык належыў да „беларускага зямляцтва“. Здаецца, аднак, што гэнае зямляцтва мела чыста тэрыторыяльны характар, і нічога нацыянальна - беларускага ў ім ня было. Гэтак, пакуль я вучыўся ў віленскай 1-ай гімназіі (я скончыў яе ў 1901 годзе), мне й не давялося бліжэй зьвязацца з беларускім рухам, катораму я ўсей душой сваей спагадаў. Пазняёміўся з дзеячамі беларускага нацыянальнага адраджэньня ўжо пазьней — у 1906 - 1907 гадох. Але сьветлы абраз Францішка Багушэвіча я хаваю ў душы, як адзін з найдаражэйшых успамінаў: я ўдзячны Багушэвічу за тое, што ён падтрымаў у маей дзіцячай душы парываньне да працы на карысьць майго роднага ўкраінскага народу, і з гэнага часу доля беларускага нацыянальнага адраджэньня зрабілася для мяне ня менш дарагой, як і доля адраджэньня ўкраінскага.

Прага, 10.IX.1933.

---

**Улад. Талочка.**

# Фр. Багушэвіч і Э. Арэшчыха.

У ўспамінах З. Нагродзкага аб Багушэвічу было адзначана, што беларускі паэта быў знаёмы з польскай пісьменьніцай Э. Арэшчыхай, да якой даведаваўся ў Горадню. Зацемку гэную дапаўняем выбаркай

з нядаўна выданае карэспандэнцыі Арэшчыхі („Listy Elizy Orzeszkowej", t. II, cz. 1) тых месцаў, дзе гаворыцца аб Багушэвічу, — у беларускім перакладзе.

Наўперад у пісьме да іх супольнага знаёмага Яна Карловіча піша Арэшчыха з Горадна 2.II.1887 г.: „Тры тыдні таму назад быў у мяне добры Ваш знаёмы з Вільні п. *Багушэвіч*. Вельмі прыемна правяла я з ім некалькі гадзін. Ён мне чытаў свае беларускія паэзіі дый навет даў мне адпісы з іх з асобным вершыкам, гэтак сама пабеларуску, да мяне ці для мяне. Ці-ж ня праўда, што гэта рэчы вельмі харошыя, маюць нейкае асаблівае хараство, і мяне вельмі цікавіць, ці здолеюць іх зразумець дый засмакаваць у іх нашыя сяляне? Будучым летам папрабую чытаць іх маім міневіцкім знаёмым. Прывёз мне такжа п. *Багушэвіч* 25 рублёў, сабраныя для *Ежа* *). Усяго разам маю 90 рублёў, каторыя — згодна з Вашым наказам — вышлю гэтымі днямі пані Мілкоўскай" (стар. 77).

У ваб'ясьненьнях і допісах да гэтага пісьма чытаем: „Францішак Багушэвіч (1840 — 1900) — адвакат з Вільні, беларускі паэта, два томікі вершаў каторага: *Дудка беларуская* (Кракаў 1891) і *Смык беларускі* (Пазнань 1894) — мелі вялізарнае значэньне дзеля разьвіцьця беларускае літаратуры. *Багушэвіч* у сваіх творах падыймаў сацыяльнае пытаньне Беларусі, кладучы нацiск на нядолю й цемнату народную. *Арэшчыха* належала да паклоньніц ягоных паэзіяў. У вадным з ненадрукаваных тут пісем да Карловіча (з 22.II.1888) яна гэтак піша аб іх: „Быў у мяне нядаўна п. Багушэвіч і чытаў мне казку—даўгую, поўную фантазіі, вельмі харошую, каторую напісаў пабеларуску.. Гэта прыгожы талент. Польскія паэзіі яго слабыя, але беларускія, прынамся на мой пагляд, знамянітыя. Трэба было-б усімі сіламі захвочваць яго да працы ў гэтым кірунку" (302).

Багушэвіч даведаўся да Арэшчыхі яшчэ раз у 1893 годзе; гэта відаць із таго, што 23.II.1893 Карловіч пісаў да яе: „Спадзяваўся я, што напішу да Вас праз *п. Багушэвіча*, каторы гэтымі днямі ехаў у Вільню; ён ашукаў мае спадзяваньні, бо паехаў неразьвітаўшыся. Дык пішу праз пошту, шкадуючы, што з гэтае прычыны мушу быць дыскрэтнейшым. Падробнасьці й прозьвішчы адкладаю да пэўнейшае аказіі". (310).

Гэтым канчаюцца зацемкі аб Багушэвічу ў карэспандэнцыі Арэшчыхі.

---

*) Еж - Мілкоўскі — ведамы польскі эміграт і выдатны пісьменьнік шчыра дэмакратычнага кірунку. — *Рэд.*

**Баляслаў Брэжга.**

# Жалаба рыскае рады канца XIII стаг.

Паводле ўмовы Полацку з Рыгай 1210 году немцам было дадзена права свабодна таргаваць уверх па Дзьвіне. У гэнай умове, трэба думаць, прыймалі ўчасьце і Віцебск, які заўсёды быў у цеснай сувязі з Полацкам, і Смаленск [1]). Апошні ў 1229 годзе зрабіў з Рыгай і Готляндам умову, ведамую пад назовам „Смаленскае Торговае Праўды.“ З гэнага часу торговыя зносіны Смаленску з Захадам дастаюць азначаны характар, уладжваюцца, уходзяць у выразныя юрыдычныя рамкі [2]). На шляху паміж Полацкам і Смаленскам, на Дзьвіне, стаяў Віцебск. Дзякуючы гэткаму свайму палажэньню, і ён стаўся важным пунктам у таргоўлі з немцамі. Трэба думаць, што ў гэным-жа часе і ў торговых зносінах Рыгі з Віцебскам былі ўстаноўленыя пэўныя ўзаемныя адносіны, нарушэньне каторых выклікала жалабы.

Такой жалабай і ёсьць грамата рыскае рады канца XIII ст., пасланая віцебскаму князю Міхаілу Канстанцінавічу. Рыская рада жаліцца ў ёй на дазнаныя ад яго немцамі крыўды. Гэтая жалаба, напісаная на падставе слоў самых пакрыўджаных купцоў, ёсьць цікаўная памятка дзеля гісторыі торговых зносінаў крывіцкіх местаў з немцамі.

З гэтае прычыны тэкст жалабы рыскае рады князю Міхаілу Канстанцінавічу быў неаднойчы публікаваны ці то цэлы [3]), ці то ў пераказах яго зьместу [4]). На-жаль, факсіміле граматы дагэтуль нідзе ня было надрукавана. Зьмяшчаючы яго тут цяпер, даем і транскрыпцыю тэксту граматы, паправіўшы ў некаторых мясцох раней апублікаваныя тэксты і дапоўніўшы іх прапушчанымі словамі [5]).

„1 Поклонъ. о*т* ратмановъ ризкихъ. и о*т* всехъ горожянъ. ко князю витебьскому. ми 2 хаилу. и ныне пришли предъ насъ наши горожяне. и то намъ поведали со велико 3 ю жалоубою. котории были зимусь с тобою оу витебьще. както еси товаръ оу нихъ. 4 о*т*ялъ силою. и неправдою. то было и первое. былъ оу тебе одинъ дѣтина. нашь го 5 рожянинъ. а иногды не бывалъ оу васъ. тогды рать была литовьская подъ горо 6 домь. онъ же хотелъ оу рать ити дѣвкы. ку-

---

[1]) *М. Бережковъ,* О торговлѣ русскихъ съ Ригою въ XIII-мъ и XIV-мъ вѣкахъ —Журналъ Министерства Народнаго Просвѣщенія, С.-Петербургъ, 1877, февраль.

[2]) *Н. Голубовскій,* Исторія Смоленской Земли, — Кіевъ, 1895, стр. 110.

[3]) *К. Напьерскій,* Русско-Ливонскіе акты. — С. Петербургъ 1868, № XLIX. — *F. G. Bunge,* Liv—, Est— und Kurländisches Urkundenbuch, VI, № 3059. — *А. Сапуновъ,* Витебская старина, — Витебскъ 1883, I, № 7. — *В. Ластоўскі,* Гісторыя беларускае (крыўскае) кнігі, — Коўна, 1926, стар. 89.

[4]) *А. Сапуновъ,* Рѣка Западная Двина, — Витебскъ, 1893, стр. 292—293.

[5]) Дзеля нястачы знакоў царкоўна-славянскіх у транскрыпцыі тэксту знак-лігатура „*от*“ (з *т* на версе) заменены двума знакамі: „от“ з курсыўным „*т*“; праетованае „а“—знакам „я“, малы юс — курсыўным „*я*“. У словах скарочаных, пад цітламі, прапушчаныя літары пастаўлены ў дужках. Лічбы славянскія заменены арабскімі і пастаўлены лічбы, адпавядаючыя радком орыгіналу.

пити. и взялъ мець со собою по нашеи 7 пошлине. тогды идя путемъ заблудилъ. к манастыреви. и выскочивше 3 чернь 8 чи. жо четвертыи. ч(е)л(о)в(ѣ)къ. иныи с ними. ту его емъшо. били и рвали. и мець вызетя 9 ли силою оу него. и потомь княжо ты. на другыи д(е)нь. емъ его оковалъ еси. и дѣржялъ 10 его еси до того же дне. а товара еси отялъ. на 3 берковьскы воску. княжо [1]). то еси не11правду дѣялъ. забылъ еси княжо своего кр(е)стнаго челования. занеже самъ ведаешь 12 княжо. како не тако есть миръ доконцанъ. миръ доконцанъ на старыи миръ: и на то 13 мъ кр(ес)тъ человянъ. както намъ вашеи братьи правда дати. а обиды не створити ни 14 малу ни велику. тако было и вамъ. по кр(е)стному челованию. обиды не створити. ни 15 малу ни велику. нашеи братии. правда дати. товара силою не грабити ч(е)л(о)в(ѣ)ка не му 16 чити безъ вины. княжо слышышь самъ от своие братье. както мы вашее братие. не 17 обидѣли. ни грабили товара силою безъ правды. както ты княжо дѣешь. а се тобе по 18 ведываемъ. другую обиду. за грѣхы пригодилося такъ. както седѣла дружина оу пи 19 ру пиюче другъ друга заразилъ до см(е)рти. и както тыи бои оудѣялъ ся тогды о 20 нъ убоявъ ся см(е)рти живота. оутеклъ к тобе княжо. немчи жо то оуведавше ажо 21 к тобе оутеклъ розбоиникъ. и пришли предъ княжо. немчи и молися тобе выдаи 22 намъ розбоиника. и ты имъ выдавъ розбоиника потомь княжо шолъ еси оу 23 розбоиникову клеть. товаръ еси розбоиниковъ взялъ. и иныхъ людии товаръ 24 былъ ту. тоть и то поималъ еси. княжо тоть еси неправду дѣялъ. ты самъ ведаешь ка 25 кто не тако есть миръ доконцанъ межи земле. аже другъ друга оубиеть до см(е)рти. а имоу 26 ть ть того ч(е)л(о)в(ѣ)ка кто розбои оучинилъ. тому дати вина. по его дѣлу. а товаръ его свобо 27 дѣнъ своему племении. и ныне мы молимъ ся тобе. абы тыи товаръ отдалъ его племении. 28 а се тобе 3 юю обиду поведываемъ. про тую дѣтину. что товаръ его былъ со розбоиниковы 29 мъ товаромъ оу клети. както поехалъ изъ витебьска оу смольнескъ. попустилъ [2]) жо оу розбоини 30 кове клети. волкы. жо овчины. на 5 серебра. онъ же оу смоленьще оуслышавъ. аже ты его 31 товаръ. со розбоиниковымъ товаръмъ оузялъ. и онъ оуборзѣ на конь въсѣдъ поехалъ оу ви 32 тьбескъ. и молилъ ся тобе княжо абы ты его товаръ отдалъ что еси взялъ с розбоиниковымъ това 33 ромъ. изъ клети. то ты ему не далъ. то еси княжо неправду дѣялъ. и ныне княжо мы ся тобе 34 молимъ. както тыи товаръ. отдаи что еси взялъ безъвиньное вины. сеи еще княжо мы тобе по 35 ведываемъ 4-ю обиду. оу чомь то еси неправду дѣялъ. както ныне новую правду ставишь. ка 36 кто есме не чювалі. от отчовъ. ни от дѣдовъ. ни от прадѣдовъ нашихъ. аже ты велишь. клика 37 ти. сквозѣ торгъ. гость. со гостемь не торгуи. княжо оу томь еси неправду дѣялъ. княжо 38 аже еси тако оу своемь с(е)рдчи. тоть то еси неправою думою думалъ. будуть тобе княжо лишии людье тую 39 думу подъдали [3]). тоть не оу честь тобе дали. тую думу то есть тобе княжо достоино. аже бы тые люди 40 казнилъ. както бышь инии людие бояли ся. кто лихую думу подъдаваеть. княжо нашъ горо 41 жанинъ фредрикъ. продалъ ч(е)л(о)в(ѣ)ку. мехъ соли. и онъ оуслышалъ. ажо ты. не велелъ. 42 гостеви. со гостемь торговати. и обестилъ ся

тобе княжо. и ты ему велелъ продати. и онъ шолъ 43 с темь ч(е)л(о)в(ѣ)комъ соли весить. както еще соли не весили. твои дворяне стояли ту оу дворе. оу фредри 44 ка. ключь взяли силою клеть-



**Жалаба рыскае рады віцебскаму князю Міхаілу**
(фотографія зьменшана).

ныи и пошли прочь. потомь твои дѣтьскыи плосъ. пришо 45 дъ реклъ фредрику. поиди ко князю. и онъ пошолъ к тобе по твоему слову. и както пришо 46 лъ к мостови. реклъ плосъ поиди семо здѣ князь. не ведя его к тобе княжо. жо к собе в ы [4] 47 стобъку. и ту порты с него снемъ. за шию оковалъ и рукы и ногы и мучилъ его такъ както 48 буди б(о)гу жяль. и потомь ты дѣтьскые свое пославъ на его подворие. и велелъ еси товаръ его розгра 49 бити. на 4 капи воску. и ныне мы ся тобе молимъ. абы ты тыи товаръ отдалъ. княжо и самъ 50 ведаешь. ажо неправдою еси свое кр(е)стное челование забылъ. и се ныне 5-ю обиду поведываемъ. както 51 немчи послали свое коне изъ смоленьска. оу витебескъ. то ты княжо тые коне обизрелъ. и оулю 52 билъ еси одиного коня. тъи конь былъ. герлаховъ. тоть ты его хотелъ безъ измены. тии лю 53 дье рекли. княжо мы коня не дамы. ни продамы его. не смеемъ конь герлаковъ. и ты княжо 54 давалъ еси. на кони 10 изроевъ. и они не взяли. тоть ты реклъ княжо. даите вы мне конь я ва 55 съ провожю изъ смоленьска. и сквозѣ касплю [5] а оучаны хочю проводити. с коньми. и до поло 56 тьска. тоть дали тобе конь по твоему слову. княжо далъ жо еси приставъ своего ч(е)л(о)в(ѣ)ка прокопи 57 ю. и приехалъ прокопии къ смоленьску. то и первое. и дали ему скорлата портъ. жо чаторъ. проко 58 пьево слово такъ. у которыи д(е)нь вы будѣте готови. я с вами готовъ буду. въ тыи жо д(е)нь по 59 его слову приготовили ся есме были. и рекли есме прокопии се мы готови поедим. про 60 копиево такъ. не могу я изъ свѣта во тму ехати. прокопии на конь свои оуседъ поехалъ оу 61 витьбескъ. а нашю братью попустилъ. княжо тимь словомь не дослужилъ ся еси того коня. 62 аже бы ты оу своемь слове стоялъ а нашю братию проводилъ бы. мы быхомъ не поминали 63 того коня. и ныне мы ся тобе молимъ както отдаи герлаху конь. а любо 10 изроевъ что еси са 64 мъ первое давалъ на кони. или того не даси. ни коня ни серебра. герлахъ хочеть своего коня 65 искати. како мога. а се еще 6 обиду поведываемъ. про ильбранта. что твои братъ торго 66 валъ с нимь. на 30 изроевъ. 17 изроевъ заплатилъ. а тринадьсять изроевъ не заплати 67 лъ. и ныне княжо мы ся тобе молимъ. отдаи ильбранту товаръ. своего брата д(у)ше по 68 стерега. и ныне 7-ю обиду поведываемъ както было нашеи братии поехати. изъ ви 69 тобеска оу смолнескъ. тогды литва изъимали ихъ на пути. оу твоемь городѣ княжо вя 70 зяли ихъ. и мучили. и товаръ отимали в нихъ. а оу твоеи волости ся то дѣяло. товара взя 71 ли. ту. на 70-ть гривенъ серебра. корного. и на 3 серебра. княжо тобе было тое обиды по 72 стеречи. аже бы ся то дѣяло при твоемь отчи твоемь костянтине. тая бы обида. ни 73 коли же была нашеи братьи какъ ся тогды оудѣяло. и ныне княжо мы ся тобе моли 74 мъ. както темъ людемъ отплати. тыи товаръ. которымъ то дѣяло ся оу твоеи воло 75 сти. и оу. твоемъ городѣ. и ныне княжо пришолъ предъ насъ. шахматъ жо фредрикъ и 76 то намъ поведала со [6] жялобою. както еси торговалъ с нима. и не заплатилъ. княжо [7] 77 то было тобе достоино. оу кого купишь тому. заплати. то они бышь на тя не жяло 78 вали. и ныне 8-ю обиду поведываемъ про весы. както слышимъ. от своие братие. а 79 же

ты кнежо лишнее. емлешь. какакто есме не чювали. ни изъ отчины. ни *от* дѣдо 80 въ. ни *от* прадѣдовъ. и ныне мы ся вамъ молимъ всемъ с(е)рдч(е)мь. кн›жо както есть ми 81 ръ доконцанъ. и кр(е)стъ челованъ. на старыи миръ. тако и ныне княжо. *от*ложи лишнее 82 и всяку неправду. ать стоить старыи миръ твердо како доконцано. и ныне кня 83 жо то буди тобе ведомо. аже не *от*ложишь лишнего дѣла. и всякое неправды. мы хо 84 чомъ. б(ог)у жяловати ся. и темъ. кто правду любить. а кривду ненавидить. мы свое о 85 биды не положимъ. а боле не можемъ терпети.“

**У Срезьневскій, Древнія пам. рус п. и яз абмыльна:** [1]) **кн***яже,* [2]) п.-*тустилъ* [3]) **подѣдали,** [4]) **істобъку,** [5]) **Касплю Лоучаны,** [6]) *се* [7]) **кн***яже.*

І К. Нап'ерскі, і Ф. Бунге, і А. Сапуноў, зьмяшчаючы ў сваіх працах гэту жалабу, адносілі яе к канцу XIII ст. У ёй рыская рада называе віцебскага князя Міхаілам, а бацьку ягонага — Канстанцінам. Зьвернемся да падзеяў гэных часоў. Ведамы нам „rex Constantinus", які аддаў Лівонскаму ордэну Латгальскую зямлю, і гэты дар быў зацьверджаны папежам Інацэнтам IV у 1254 годзе [1]) і папежам Урбанам IV у 1264 годзе [2]). У канцы таго-ж 1264 году князь Гердзень завaладаў Полацкай і Віцебскай воласьцю і, як князь полацкі й віцебскі, зрабіў міравую ўмову з Лівонскім гэррмэйстрам ды гэтай умовай зрокся земляў, что былі ўс·уплены князем Канстанцінам [3]). З гэтага відаць, што Канстанцін княжыў у Полацку раней за Гердзеня, да 1264 году. З апісаньня полацкіх падзеяў 1266 году відаць, што землі свае Гердзень падзяліў між чысьленымі князямі, каторыя сталіся залежнымі ад яго. Вельмі магчыма, што Канстанцін, каторы княжыў раней у Полацку, перайшоў разам з другімі князьмі на бок Гердзеня і дастаў ад яго Віцебск, як удзел. З жалабы рыскае рады князю віцебскаму Міхаілу відаць, што адносіны ягонага бацькі Канстанціна да немцаў былі вельмі добрыя. Гэта таксама можа быць пацьверджаньнем таго, што Канстанцін Полацкі і Канстанцін Віцебскі — адна асоба. Першы, як ведама, быў гэтак сама ў добрых адносінах з немцамі ды навет аддаў ім Латгальскую зямлю. Вясной 1267 году пскавіцяне з князем Доўмантам пайшлі паходам супраць полацкага князя Гердзеня. Палачане былі разьбіты, а князь іх — забіты [4]). Як можна судзіць, Полацак пасьля сьмерці Гердзеня перайшоў у рукі Канстанціна. У вадным адрыўку летапісу, пададзеным Н. Карамзінам [5]), уваповесьці аб падзеях, каторыя маглі адбыцца толькі ў пэрыёдзе ад 1271 да 1289 году, успамінаецца князь Конъстянтинъ Полотскій. Але князяваньне яго ў Полацку было праўдападобна ня вельмі даўгое, — хаця вельмі магчыма, што ён гаспадараваў у Полацку яшчэ пасьля 1278 году. Цяжка сказаць, ці, стаўшыся йзноў князем полацкім, ён аддаў Віцебск сыну свайму Міхаілу, ці пакінуў сабе. Так ці сяк, але жалаба рыскае

[1]) *К. Напьерскій,* **Русско-ливонскіе акты, № VIII.**

[2]) Ibidem, № XXIV.

[3]) *К. Напьерскій,* **Граматы касающіяся до сношенія Сѣверо-Западной Россіи съ Ригою и Ганзейскими городами. — С.-Петербургъ, 1857, № II-а.**

[4]) *В. Даниловичъ,* **Очеркъ исторіи Полоцкой землі, — Кіевъ, 1896, стр. 135, 142—144, 146—147, 151, 171—172.**

[5]) *Н. Карамзинъ,* **Исторія Государства Россійскаго, IV, примѣчаніе 178.**

рады засьпяе ў Віцебску Міхаіла, да каторага рыжане зварачаюцца, як да самастойнага князя. Тым часам ведама, што ў 80-ых гадох XIII ст. Віцебск быў ужо ў залежнасьці ад смаленскага князя Хведара, каторы гаспадараваў у Віцебску праз сваіх намесьнікаў. [1]) Гэтак грамата рыскае рады ня можа быць аднесена да часоў пазьней 80-ых гадоў XIII ст., бо тады Віцебск быў ужо пад уладай Смаленску і ня мог мець самастойных зносінаў з Рыгаю. Не магла яна быць напісана і перад 1267 годам, бо да гэнага году ў Полацку князяваў Гердзень, а ў Віцебску — Канстанцін. А як можна дапусьціць, што ў Полацку, пасьля сьмерці Гердзеня, быў князем Яраслаў Ізяславіч [2]), дык дату заняцьця Канстанцінам полацкага пасаду трэба перасунуць на 1271 год, - на час тых падзеяў, аб якіх кажацца ў Карамзіна. У сувязі з гэтым перасоўваецца на 1271 год і пачатак князяваньня ў Віцебску Міхаіла, а также й рубеж, раней каторага жалаба рыскае рады не магла быць напісана.

Арыгінал граматы рыскае рады князю віцебскаму Міхаілу Канстанцінавічу напісаны на вялікім аркушу пэргаміну, толькі на адным баку яго. Пачынаецца яна вялікай залатой літарай, абведзенай чырвонай і сіняй хварбай. Хаця пячаці грамата ня мае, але гэта запраўды арыгінал. На другім баку граматы надпіс: „Это о жалобѣ королю Витебскому".

Грамата пераховаваецца ў Рыскім Мястовым Гістарычным Архіве (Rîgas Pilsêtas Vêsturiskais Archîvs) у ваддзеле Ruthenica - Moscovitica.

---

**Др. Ян Станкевіч.**

# Мова дыплёматычнага лісту Рыскае рады 1271—1280 г.

Надрукаваны вышэй дыплёматычны ліст Рыскае рады да Віцебскага князя друкаваўся ў працах, паказаных вышэй Б. Брэжгам, ды яшчэ ў І. Срэзьнеўскага: а) Древніе памятники русскаго письма и языка (X — XIV в.) Спб. 1863 г. (З прыдаткам палеографічных здымкаў); б) Славянорусская палеографія XI — XIV в. Спб. 1885 г. (229-230). А. Сабалеўскі ў сваім арт. „Смоленско-полоцкій говоръ въ XIII—XV в. в." гэтае памяткі не разгледзіў. Мянуе яго ў бібліографіі Яўх. Карскі ў „Бѣлоруссы" І. Закрануў гэты ліст адноўчы П. Бузук дзеля ягонага *ць* ў слове *мець*. Але, па колькі мне ведама, ніхто мовы гэтага лісту драбязна не дасьледаваў. А дасьледаваньня ён заслугуе. Дык, праверыўшы зробленую Б. Брэжгам копію яго з фотографіяй орыгіналу, я наважыў дасьледаваць.

*Няма ў лісьце царкоўна-славянскіх асаблівасьцеў.* Гэта адразу кідаецца ў вочы. На'т нямаш тутка такіх царкоўна-славянізмаў, што най-

---

[1]) *В. Данилевичъ,* Очеркъ исторіи Полоцкой земли, стр. 151, 172—173.
[2]) Ibidem, 151.

лягчэй пісару можна было запамятаваць. Замест іх маем рысы беларускія. Прыкладам: горожяне 2 *), городомь 5, серебра 30, розбоиникъ 22, межи 25 і да г. п. Царкоўна-славянізмам ё толькі прыймя *предъ* 2, але гэтая хорма магла быць жывой у мове тагачасных кніжнікаў, прыраўнуй цяперашняе беларускае *прад* замест і побач із *перад*.

## ФОНЭТЫКА.

*Гукі й літары* **ѣ** і **е.** На месцу спачатнага **) *ѣ* ё ў лісьце 12 разоў літара *ѣ* у палажэньню пад націскам і 8 разоў не пад націскам, а *е* ё 75 разоў пад націскам (*к собе* 46, *поехати* 68, *смеемъ* 53 і г. д.) і 25 не пад націскам (*ныне* 63, *челования* 11 і інш.). З гэтага відаць, што гук *ѣ*, як ненацісьнены, так і націсьнены перайшоў у *е*. Пераход ненацісьненага *ѣ* у *е* асаблівасьць агульна-беларуская, а пераход націсьненага *ѣ* у *е* — усходне-полацка-смаленская ці накш крывіцкая ***). У ўсім паўдзённа-заходнім нарэччу беларускага языка даўней націсьненае *ѣ* вымаўлялася як дыфтонг (двугук), а цяпер дыфтонгі асталіся адно ў паўдзённа-заходніх гутарках нарэчча таго-ж назову ****).

Такая вялікая колькасьць літары *е* замест *ѣ* адначасна паказуе, што ў дадзеным прыпадку пад націскам вымовы і правапіс пачаў мяняцца.

### **о** *на месцу спачатнага* **е**

a) У сярэдзіне слова на месцу націсьненага *е* па шыпячых перад цьвярдымі сугукамі заўсёды ёсьць *о*: шолъ 22, 42, пришодъ 44, пошолъ 45, пришолъ 46, 75 і оу чомь 35. Значыцца па мяккіх сугуках перад цьвярдымі націсьненае *е* перайшло ў *о*, пры чым *о* ў *чомь* паўстала па аналёгіі (падобнасьці) з *томь*. Пераход гэты настаў, ведама, ня толькі просьле шыпячых, але й па іншых мяккіх перад цьвярдымі, але па іншых ён не абазначаецца, прыкл. *оутеклъ* 20, 21, *путемъ* 7 (калі па аналёгіі паўстала *оу чомь*, дык мусіла паўстаць *путём* і пад.), бо ня было значка да абазначэньня *о* па мяккіх не шыпячых сугуках, ня было цяперашняга *ё*. Каб у такіх прыпадках пісалі *о*, дык мусілі-б цьвёрда вымаўляць папярэдні мяккі сугук; гэтак, напісаўшы *оутоклъ* мусілі-б вымаўляць *т* цьвёрда, што пярэчыла-б вымове *т* як мяккога *ц*. З гэтага адначасна відаць, што шыпячыя перад *о* ацьвярдзелі.

b) У сярэдзіне слова не пад націскам адзін раз лучыла *о* (*хочомъ* 84) і двойчы *е* (*можемъ* 85, *четвертыи* 8).

Вельмі цікава *о* па шыпячых на канцы слова. Тут маем гэткія прыпадкі:

---

*) Лічбы паказуюць радкі орыгіналу лісту.

**) *Спачатнымі* (= пол. pierwotny, рас. первоначальный) гукамі завём такія, якія былі ў дадзеным месцу ў мове праславянскай.

***) Тачней: крыв'цка-пляменная (крывіцкая ў значэньню пляменным гэтага слова, а не ў значэньню агульна-нацыянальным).

****) Глянь у Balticoslavica II, 395 маю рэцэнзію працы Chr. Stanga „Die westrussische Kancleisprache des Grossfürstentums Litauen".

1. У participium ё: a) *e*: пиюче 19, выскочивше 7, оуведавше 20; b) *o*: емъшо. 8;

2. Частка *же*: a) з *e*: онъ же хотелъ оу рать ити 6, до того же дне 10, онъ же оу смоленьще 30, обида николи же была 72, — усяго з *e* 4 разы; b) з *o*: черньчи жо четвертыи ч(е)л(о)в(ѣ)къ иныи 8, немчи жо то оуведавше 20, попустилъ жо оу розбоиникове клети. волкы. жо овчины. 29—30, не ведя его к тобе княжо. жо к собе 46, далъ жо еси приставъ 56, дали ему скорлата портъ. жо чаторъ 57, въ тыи жо д(е)нь 58, пришолъ предъ насъ. шахматъ жо 75, — усяго з *o* 9 разоў;

3. Злуч *оже*: a) з *e*: аже другъ друга оубиеть 25, оуслышавъ. аже ты его товаръ. со розбоиниковымъ товаромъ оузялъ 31. аже ты велишь кликати 36, аже 38, достоино. аже бы тые люди казнилъ 39, аже бы ты оу своемь слове стоялъ 62, слышимъ... аже ты... емлешь 79, аже не отложишь... мы хочомъ б(ог)у жяловати ся 83, — усяго з *e* 7 разоў; b) з *o*: то оуведавше ажо к тобе оутеклъ 20, оуслышалъ. ажо ты. не велѣлъ. 41, сам ведаешь. ажо... свое кр(е)стное челование забылъ 50, — усяго з *o* трэйчы.

4. Ліст пісаны да віцебскага князя, дзеля таго слова „князь“ сустракаецца часта (князь 46, ко князю 1, 45), асабліва часта ў клічным (vocativus) склоне, у каторым сустрэлася 37 разоў і заўсёды з *o* на канцы (княжо 11, 12, 16 і г. д.);

5. *еще* лучыла ў лісьце трэйчы і заўсёды з *e* на канцы (еще княжо 34, еще 43, 65).

Прыглядзіўшыся да прыведзеных 5-х прыпадкаў, наўперад мусім сконстатаваць:

a) Калі тое самое слова ў вадных прыкладах ужыта ў лісьце з *o*, а ў другіх з *e* на канцы, дык яно не магло вымаўляцца з *e* на канцы. Прыклады з *e* побач з *o* лёгка выясьніць традыцай у правапісе — пісаньням з *e* ў тэкстах царкоўна-славянскіх. У гэтых (апошніх) тэкстах *же* адно ці злучанае зь іншымі злучамі сустракалася часта, але *кн зь* рэдка, а ў клічным склоне ніколі ня лучала, наадварот надта частым было ў жывой мове беларускай. Вось чаму ў першых трох прыпадках маем то *e* то *o*, а ў 4-ым толькі *o* (княжо).

b) У першых 4-х прыпадках канцавое этымолёгічнае *e* было ненацісьненае *), а ў прыпадку 5-ым (*еще*) націск на канцавым *e*.

c) Вышэй мы бачылі, што націсьненае *e* ў сярэдзіне слова па мяккіх сугуках перад цьвярдымі ня толькі перайшло ў *o*, але па шыпячых і заўсёды пісалася пераз *o*. Значыцца, калі канцавое націсьненае *e* ў *еще* пішацца пераз *e*, дык яно й вымаўлялася як *e*. Праўда, цяперака гэтае слова ў беларускім нарэччу паўночна-ўсходнім вымаўляецца з *o* на канцы (*яшчо*), але *o* тут пазьнейшае, у XIII в. яго ня было, як няма цяперка ў бальшыні нарэчча паўдзённа-заходняга, пачынаючы прыблізна ад сярэдзіны гутаркаў цэнтральных. А ня было дзеля таго, што ў беларускім языццэ канцавое *e* не пераходзіць у *o* (*ё*). Цяперашнія дыялектычныя хормы з *o*, *ё* з *e* (*ужо*, *яшчо*, *маё*, *тваё*,

*) што да *же*, *аже* й *ажебы*, дык ненацісьненасьць *e* відаць хоць бы з таго, што яно адпадае, хорму *ажбы* знаходзім ужо ў Смаленскай праўдзе 1229 г.

*сваё, чыё, усё, сядзіцё* і інш.) паўсталі пазьней на грунце аканьня з прычыны чаргаваньня ненацісьненага *а* з націсьненым *о* (вада, лаза, пчала, сяло, памяло — воды, лозы, пчолы, сёлы, памёлы). Яшчэ ў „Аль Кітабе" XVI стаг. ані няма такіх дзеяслоўных хормаў як *сядзіцё, нясіцё*, замест каторых заўсёды *сядзіце* і пад., а побач з хормамі наз. скл. адз. л. *маё, тваё, сваё, усё* ё яшчэ *мае, твае, свае усе*.

Як у нашым лісьце, так сама ў Смаленскай укладной XIV в. (Соболевскій, Смол.-пол. гов., 14): *ажо* (двойчы) толькі з *о*, але побач *сельце*.

А калі так, дык прыведзеныя прыклады із заўсёдным або часткавым канцавым *о* ня вымаўляліся ані з *о* на канцы, бо канцавое *е* ў *о* не пераходзіла, ані з *е*, бо адначасна пісаліся з *о*. Мусілі яны вымаўляцца з *а* на канцы. Акаючы пісар, ведама, ня думаў перадаваць аканьня на пісьме, што было-б проці прынятага тады этымолёгічнага правапісу, як не хацеў рабіць абмылаў. Пісаў ён толькі *о*, каб не аддаваць аканьня. Ведама, аканьне было ня толькі на канцы слова, але й у кажным палажэньню. Калі па шыпячых перад цьвярдымі на месцу ненацісьненага *е* ў сярэдзіне слова знаходзім у разгляданым лісьце адзін раз **е**, а другі **о**, дык гэта йзноў з прычыны аканьня, бо калі *а* вымаўлялася, але ня пісалася, дык замест яго аднолькава можна было напісаць, як *е*, так і *о*.

Зьбіта, значыцца, цьверджаньне Сабалеўскага, каторы, бачачы ў беларускіх памятках па шыпячых *о* замест *е*, зрабіў у варт. „Къ исторіи русскихъ акающихъ говоровъ" (Р. Ф. В. т. XII з 1884 г., 106-8) вывад, што ненацісьненае *е* сьпярша перайшло ў *о*, а потым *о* ў *а*, бо — падчыркую — канцавое *е* не пераходзіла ў *о* *).

На аснове разгляданага лісту з усёй пэўнасьцяй можна казаць аб аканьню ў беларускім языцці XIII в.

У слове *ма*настыреви 7 маем беспасярэдні прыклад аканьня. Праўда, гэтае слова чужое, але трэба зацеміць, што дыкжэ ў барбарызмах наўперад спадзяёмся адбіцьця аканьня на пісьме, бо этымолёгіі іх пісар ня мог праверыць. Балей значэньне гэтага прыкладу аслабляецца тым, што ў наступным складзе (—*на*—) ё *а*.

*а* ў кр(е)ˢтнаго 11 магло-б быць царкоўна-славянізмам, але дзеля таго што царкоўна-славянскіх асаблівасьцеў у лісьце нямашака, магчыма, што ў менаваным прыкладзе адбілася аканьне.

Цікавае *о* ў *скорлата* ў казаньню *дали ему корлата портъ. жо чаторъ* 57. Можна было-б падумаць, што *скорлата* паходзіць ад літ. skurlotas „шкумат, рыза, рызіна, кавалак" чагось. Але сынтакс прыведзенага казаньня не дапушчае гэткага значэньня слова *скорлата*, бо мог-бы быць „кавалак порту", але ня можа быць „портъ кавалка" (скорлата), дык сувязь *скорлата* зь літ. skurlotas немагчыма. Затое будзе ўсё зразумела, калі *скорлата* будзем уважаць родным склонам ад *скарлат* „шкарлат" (з лац. scarlatum), шаўковая або іншая тканіна, пахварбаваная на чырвона. Тады будзе: *далі яму порт шкарлату*, порт шкарлатны. Пісар напісаў *о* па *к* замест *а* баючыся, каб не абмыліцца і не напісаць *а* на месцу этымолёгічнага ненацісь-

*) У гэным арт. Сабалеўскі аб нашым лісьце зацеміў „Аб мове гэтага лісту глянь у нашых „Очеркахъ" зацемку", але іх я ня мог дастаць.

ненага *о*, вымаўлянага як *а*. З гэтага відаць, што ненацісьненае *о* пісар вымаўляў як *а*. Значыцца, прыведзены прыклад ё пэўным сьвядоцтвам аканьня.

*Перахэд о* ў *у* маем у прыкладзе *жалоубою* 3. Гэткі пераход ведамы на ўсім беларускім прасторы, але, залежна ад мясцовасьці, абыймае большую або меншую колькасьць словаў. Дыкжэ на паўночным усходзе менаванае зьявішча найбалей пашырана.

Цікаўнай агульна-ведамай у памятках беларускіх ё хворма *костянтине* 72 (бяз *н* у першым складзе). Маем тут распадабненьне насовых, падобна як у *патрэт* зам. *партрэт*—распадабненьне *р*.

Хіба *и* ў *тые коне обизрелъ* 51 зьявілася як апіска.

*Пераход в* і *у* ў *ў* *нескладовае* адбіваецца вельмі шырака. Як ведама, у беларускім языццэ прыймёны *въ* і *у* па самагуку пярэдняга слова, калі прытым-жа няма паўзы, вымаўляюцца як *ў* нескладатворнае, а па сугуку папярэдняга слова як *у*. Тое самое бывае з усякім *у*, *в* на пачатку слова перад сугукамі.

У разгляданым лісьце менаваная зьява гэтак прадстаўляецца. На месцу *въ* і *вь* маем: а) па самагуку пярэдняга слова 18 разоў *оу* (*с тобою оу витебьще* 3, *стояли ту оу дворе* 43 і інш.) і 7 разоў *в* (еси взялъ 34 і інш.); па сугуку ё 8 разоў *оу* (поехалъ оу витьбескъ 60, онъ оуборзѣ 31, со... товаромъ оузялъ 31 і інш.) і 4 разы *в*.

На месцу спачатнага *у* па самагуку ё 10 разоў *оу* і 1 раз *в* (товаръ отимали *в* нихъ (у Немцаў) 70, а па сугуку ўсе 8 разоў *оу*.

Значыцца, пісар надта часта замест *в* піша *оу* і вельмі рэдка *в* замест *оу*. Гэтак і ў іншых беларускіх памятках, што зацеміў яшчэ В. Ягіч („Критическія замѣтки"). У памятках украінскіх бывае часьцей *в*. *у* на месцу *в* і *в* на месцу *у* паказуюць, што менаваныя гукі па самагуку перайшлі ў *ў*, каторага ня было як перадаць, бо ня было апрычонага значка.

Вышменаваныя адносіны паміж *в* і *оу* паказуюць, што беларускае *ў* мае балей самагуковага элемэнту, як украінскае. У згодзе зь менаванымі адносінамі і зь якасьцяй беларускага й украінскага *ў* ё ўжываньне да яго абазначэньня літары *ў* ў цяперашнім правапісе беларускім і *в* у украінскім.

Пісар ня ймкнуўся аддаваць нескладовага *ў* пераз *у* замест *в* ані пераз *в* зам. *у*; наадварот, стараўся пісаць „правільна", значыцца так, як вымагаў традыцыйны правапіс царкоўна-славянскі, аб чым сьведчыць тое, што ў сярэдзіне й на канцы слова заўсёды пісаў *в*, хоць на канцы заўсёды, а ў сярэдзіне перад сугукам вымаўляў *ў*. Менаваная мена *у* зам. *в* і наадварот зьявілася з тае прычыны, што пісар ня мог разабрацца дзе спачатнае *в*, а дзе *у*.

## *Спачатная група сугук + ьj + самагук.*

Маем прыклады: племении 27, племении 28. Нельга сумлявацца, што пісар вымаўляў *племени* (з адным *и*). А чаму пісаў із двума *-ии*? Спачатныя групы сугук + ьj + самагук (pisanьje, pisanьji і г. д.) пісалі даўней Беларусы сугук + *ь* альбо *и* + самагук (*писанье* альбо *писание, писании*) і толькі подле іх мог пісар пісаць *племении*, але тады *писании* і пад. мусілі й вымаўляць з адным *и* (як *племени*) ці,

начай кажучы, перад канцавым самагукам ня было *і*. Ведама пры тым, што ў менаванай групе спачатнай сугук + ьј + самагук, калі ня было ј або *ı* перад самагукам, дык мусіла быць ужо ў XIII в. здваеньне сугуку, бо ня здвоенага сугуку ў такім прыпадку беларускі язык ня знае. Пісаньне з *и* або *ь* замест падвойнага сугуку падзьдзержавалася тымі прыпадкамі, калі такжа вымаўлялася без здваеньня, пайменна тады, калі было *р* або сугукі вусьняныя, пр. *зверие*, *купие*, *зверье* і пад. Значыцца прыведзеныя два прыклады пасярэдне сьведчаць аб здваеньню сугукаў.

*Вокалізаца слабога ъ.* Што датычыць вокалізацы ў прыймёнах *ъ* ў палажэньню слабым, дык знаходзім у лісьце гэткія прыклады: с*о* великою 3, с*о* собою 6, со розбоиниковымъ 28, 31, со гостемь 37, 42, со жалобою 76, але з другога боку: с тобою 4, с ними8, створити 13, 14, с розбоиниковымъ 32, с него 47, с вами 58, с коньми 55, с темь 43, с нимь 66, с нима 76.

Як бачым, навет перад тымі самымі словамі раз ё вокалізаца *ъ* ў прыймені *(со)*, а другі раз вокалізацы нямашака (*съ*). Гэткае зьявішча ня можна прызнаць нормальным, а калі зьвернем яшчэ ўвагу, што ў цяперашняй мове слабое *ъ* у прыймёнах не вокалізуецца, дык зразумеем, што прыклады із *со* трэба начай выясьняць. Калі *ъ*, *ь* моцныя перайшлі ў *о*, *е*, то спачатку яшчэ ня рэдка пісалі *ъ*, *ь*. Адгэтуль паўстала зьявішча адваротнае: пачалі напару пісаць *о*, *е* навет на месцу *ъ*, *е* слабых. У крывіцкіх памятках XIII стаг. гэткі правапіс даволі часты. Прыкл. у Смаленскай праўдзе 1229 г.: *миро* зам. *миръ*; у Смаленскім лісьце каля 1300 г.: путь *чисто* зам. *чисть*. Дыкжэ такой правапіснай (а не фонэтычнай) асаблівасьцяй ё *о* ў *со* нашага лісту.

Да аднае зь мітычных „прарускіх“ асаблівасьцеў подле некаторых расейскіх языкаведнікаў належыць *ѣ*, каторае знаходзім у рас. *сидѣть*, *дитя* і ўкр. *сидіти*, *дитина*. Вось-жа гэныя языкаведнікі не заце-мілі, што беларускі язык у гэтым прыпадку не сябруе з двума менаванымі, бо маем: *сядзець*, *дзяціна*, *дзяцюк*. Тое самае ў нашым лісьце: седѣла 18, дѣтина 4, дѣтину 28.

***Група бв.*** Старой асаблівасьцяй ё пераход *бв* у *б*: ***обестилъ ся*** 42, з *obvêstil sę*. Менаванае слова ў гэтай хорме захавалася дагэтуль (гл. слоўнік Насовічаў). Дык неразумна ўжываць няўмелы польскі наватвор ***абвясьціць***, а стуль ***абвестка*** замест правільнага ***абясьціць***, ***абестка***.

***Пераходъ л у ў*** ці participium на *ш* маем у прыкладзе: дѣтьскые свое ***пославъ*** на его подворие. и велелъ еси товаръ его розграбити 48. Яшчэ праўдападабнейшы пераход *л* у *ў* маем у прыкладзе: пришли... немчи и моли ся тобе выдаи намъ розбоиника. и ты имъ ***выдавъ*** розбоиника потомь шолъ еси оу розбоиникову клеть. товаръ еси розбоиниковъ взялъ. 22.

*Мена ч на ц* і наадварот у поўнай меры адбілася ў разгляданым лісьце: мець 6 (зам. мечь), черньчи 8, доконцанъ 12, немчи 20 і інш. Асаблівасьць гэтая дыялектычная — паўночна-ўсходняя (крывіцкая).

*Ацьвярдзеньне м.* Знаходзім гэткія прыклады: путемъ 7 (instr. sg.), томъ 13, со розбоиниковымъ товаромъ 29, 31, 32, 33, ч(е)л(о)в(ѣ)-

к(о)мъ 43, оу твоемъ 75, всемъ с(е)рдчемь 80 — ясна, што *м* (а хіба й іншыя вусьняныя) перад даўнейшым *ь* ацьвярзела.

*Ацьвярдзеньне шыпячых.* Вышэй мы бачылі, што шыпячыя ацьвярдзелі перад *о*. З прыкладэў — жалоубою 4, горожанинъ 41, нашъ 40 — бачым, што ацьвярдзелі перад *а* й *ь*. А калі так, дык трэ' прызнаць, што ацьвярдзеньне шыпячых перад і адбілася ў прыкладзе *слышышь* 16. Значыцца шыпячыя ацьвярдзелі ў кажным палажэньню.

*Ацьвярдзеньне р* хіба адбілася ў прыкладзе *котории* 4 (зам. *которыи*), каторы сьведчыць, што *ри* пісар вымаўляў як *ры.*

## МОРФОЛЁГІЯ.

*З хормаў морфолёгічных* варта зацеміць наступныя. Ад **воскъ** родны скл. (gen. sg.) ё заўсёды на — *у*: *воску* 11, 49.

Канчатак давальнага скл. яшчэ хістаецца паміж хормаю *и* - і - *о*-асноваў: ко князю 1, герлаху 63, ильбранту 67, к смоленску 57, але— гостеви 42, к мостови 46, к манастыреви 7. З часам запануюць вылучна хормы на — *у*.

Родны скл. мн. л. ў *ĭ* - асноваў фонэтычна правільны на — *ии* з — *ьјь*: *людии* 23, пазьней па аналёгіі з —*е*- давальнага й меснага склонаў паўстане тут —*ей* (*людзей*), а пад уплывам *и*- асноваў —*'оў* (*людзёў*).

Асабовыя ймёны жаноцкія захавалі ў мн. л. хорму він. скл.: ***дѣвкы купити*** 6.

Ад ***конь*** творны мн. л. *коньми* 55.

Некаторыя хвормы займёнаў: оу тебе 4, тобе 17, ад *тъ* назоўн. адз. л. (nom. sg.) заўсёды па —*ыи*: тыи 19, 27, 34, 49, 58, 74, адноўчы *тъи* 52. Хорма *тый* з *тъйь* — фонэтычна правільная, бо ў ёй *ъ* перад *й* перайшоў у *ы* (як у прыметах—***новы*** з ***новый*** з ***новъйь***)— ёсьць асаблівасьцяй паўночна-ўсходняй блр. яз., у той час, як у паўдзённа-заходнім нарэччу маем хорму *той* (па аналёгіі з ***мой*** і ***то***) і частакава—у заходняй Полаччыне —*тот* (з падваеньня *тъ*+*тъ*). Жан. р. *тая* 72, *тую* 28 (толькі складаныя хормы, як і цяпер). Тые люди казнилъ 39.

Хормы дзеясловыя: даси 64, 1.ас. мн. л. есме 36, 59, 59, 79. Хорма 1. pl. *есме* йзноў беларуская асаблівасьць паўночна-ўсходняя, у нарэччу паўдзённа-заходнім было *есмо*, а ў Ноўгарадзе й Маскве *есмя*. Не ***дамы, ни продамы*** 53. У трэйцяй асобе заўсёды мяккі канчатак: оубиеть 25, будуть 38, хочеть 64, любить 84. Раньняе выраўнаньне хормы цяперашняга часу подле хормы неазначанага ладу знаходзім у ***подъдаваеть*** 40, зам. ***подъдаеть***.

У зваротных дзеясловах *ся* яшчэ рухомае, стаіць яно часта перад дзеясловам. Пр.: оу твоеи волости ся то дѣяло 70.

Прыклад даўна мінулага часу: ***приготовили ся есме были*** і рекли есме 59.

Некаторыя прыслоўі: тогды 19, 57, 69, 73, иногды 5 — заўсёды з *ы* на канцы, як і цяпер.

*зимусь* 3 = гэтай зімою, сёлета ўзімку, прыр. *летись*, што абазна-

чала раней „у гэтым годзе“, а потым прыняло значэньне „у мінулым годзе“, бо было й *сёлета*.

*оуборзъ* 31 — хорма паўночна-ўсходняя, у нарэччу паўдзённа-заходнім ё *борзда* (з *д*) *).

***Прыймя*** про: поведываемъ про ильбранта 65, поведываемъ про весы 78.

*Злучы*: Як і цяперка ў усходняй часьці беларускага прастору языковага, злуч *а* бывае ў вадных прыпадках праціележным, у другіх — злучальным. Колькі прыкладаў: 17 изроевъ заплатилъ. а тринадьсять изроевъ не заплатилъ 66, тут *а* — злуч праціележны; але ў наступных прыкладах *а* = *и*: провожю изъ смоленьска и сквозѣ касплю а оучаны хочю проводити 55, аже бы ты оу своемь слове стоялъ а нашю братию проводилъ бы. мы быхомъ не поминали того коня 63.

Замест цяперашняга злуча ***каб***, ужываецца *абы*: молимъ ся тобе. абы тыи товаръ отдалъ 27, мы ся тобе молимъ. абы ты тыи товаръ отдалъ 49.

Займя - злуч ***что*** (пазьней ***што***) ўжываецца, як і цяпер, замест рознага склону ***каторы***. Прыклады: а се тобе 3 юю обиду поведываемъ. про тую дѣтину, что товаръ его былъ со розбоиниковымъ товаромъ 28, тыи товар отдаи что еси взялъ 34, поведываемъ про ильбранта. что твои братъ торговалъ с нимь 65.

У такой-жа ролі двойчы лучыла ***кто***: както бышь инии людие боялися. кто лихую думу подъдаваеть 40. хочомъ б(ог)у жяловатися и темъ. кто правду любить 84.

Злуч ***а любо***: отдаи герлаху конь. ***а любо*** 10 изроевъ 63. З ***а любо*** паўстала цяперашняе ***альбо***.

## СЛОЎНІК.

Гэтта прывяду некаторыя словы, падаючы іх у татой хорме, у якой яны стрэліся ў лісьце.

ать — хай. ***ать*** стоить старыи миръ 82, прыр. чэс. ať.

инии людие ***боялися*** 40.

тако ***было*** и вамъ. обиды не створити 14. княжо тобе ***было*** тое обиды постеречи 72 — трэба было. У прыведзеным значэньню ***было*** ў поўнай меры ўжываецца ў цяперашняй мове.

ты самъ ***ведаешь*** 24.

то буди тобе ***ведомо*** 83.

ты ***вялишь*** кликати 36. *Вялець* ужываецца цяпер толькі як архаізм у песьнях, а звычайна замест яго ё ***загадаць, загадаваць***.

оу твоей ***волости*** ся то дѣяло 76. *Воласьць* таго самога караня, што й ***валадаць*** і, як бачым, абазначала край (пр. рас. ***владѣніе***, а так-

---

*) **Ужываньне хормы** *борзда* **ў цэнтральных гутарках (паветы: Лепельскі, Дрысенскі, Барысаўскі, Браславскі, Дзісенскі, Вялейскі і інш.) ё яшчэ адным довадам, што гэтыя гутаркі, нягледзячы на ўсе цьверджаньні расейскіх языкаведнікаў, ня толькі належаць цяпер, але й спачатна належылі да нарэчча паўдзённа-заходняга.**

жа чэс. vlast „родны край, бацькаўшчына"), а цяпер значэньне яго звузілася да невялічкае адміністрацыйнае адзінкі, адпавядаючай пол. gmina (зь ням. Gemeinde).

мець *вызетяли* силою 3 = вырвалі.

на 70-ть *гривенъ* 71.

не тако есть миръ *доконцанъ* 24. *Даканчаці* (у Крывічан із *ц*— *даканцаці*) мір = зрабіць мір (пол. zawrzeć pokój).

тое есть тобе кн*я*жо *достоино*. ажебы тые люди казнилъ 39 = належыць.

неправою *думою думалъ* 38.

не обидѣли. ни грабили товара силою безъ правды. както ты кн*я*жо *дѣешь* 17, тоть еси неправду *дѣялъ* 24, тыи бои *оудѣялъ* с*я* 19, какъ с*я* тогды *оудѣяло* 73 і інш. = рабіць, зрабіць, зрабіцца, стацца. І цяперака прыведзенае слова вельмі пашырана на ўсходзе Беларусі.

одинъ *дѣтина* 4, поведываемъ. про тую *дѣтину* что товар его былъ 28. *Дзяціна* тут зусім ня дзіця, але выраслы, мужчына. Прыр. цяпер. *дзяцюк* „нежанаты жужчына", kawaler.

давалъ еси на кони 10 *изроевъ* 54 — род тагачаснае монэты.

*в ыстобъку* 47. Слова жывое дагэтуль, назоўны скл. *істобка*, *ы* ў прыкладзе паўстала з прычыны папярэдняга *въ*.

ажебы тые люди *казнилъ* 39 — пакараць.

*какъ* 73. Побач із *як* у старабеларускай мове ўжывалася й *как*, як у старыну і ў іншых славянскіх мовах, пр. у польскай.

шолъ еси оу розбоиникову *клеть*. товаръ еси розбоиниковъ взялъ 23 — сьвіран, склад, магазын. Слова й цяпер жывое побач із *сьвіран*. Пазьней у значэньню крамы ўжывалася зьмяншальнае *клетка*.

ключь взяли силою *клетьныи* 44.

ты велишь *кликати* 36.

на 70-ть гривенъ серебра *корного* 71—?

*лишии* людье тую думу подъдали 39. инии людие бояли ся. кто *лихую* думу подъдаваеть 40. *ліхі* ўжываецца дагэтуль побач із *благі* й *злы* (сабака).

продалъ *мехъ* соли 41.

*молимъ ся* тобе кн*я*жо абы его товаръ отдалъ 32 — прасіць.

Ч(е)л(о)в(ѣ)ка не *мучити* безъ вины 16, оковалъ рукы и ногы и *мучилъ* както буди б(ог)у жяль 47 — пол. torturować, рас. пытать.

тая бы обида *николи* же была нашеи братьи 73.

товаръ оу нихъ отялъ *неправдою* 4 — бясправўна.

*овчины*. 30.

оулюбилъ еси *одиного* коня 52.

темъ людемъ *отплати*. тыи товаръ 74 — пол. wynagrodzić.

отдаи герлаху конь. а любо 10 изроевъ что еси самъ *первое* давалъ на кони 64 — сьпярша, уперад.

пришли предъ насъ наши горожяне. и то нам *поведали* 2— расказаць.

дѣтьскые свое пославъ на его *подворие* 48.

лишии людье тую думу *подъдали* 39, кто лихую думу *подъдаваеть* 40.

поехалъ оу витьбескъ. а нашю братью *попустилъ* 61 — пакінуць.

дали ему скорлата *портъ* 57. Слова агульна ўжыванае й цяпер.

вз^я^лъ мець со собою по нашеи *пошлине* 7 — як мы послалі, загадалі, па нашаму загаду.

не обидѣли. ни грабили товара силою без *пр*ı*єды* 17 — права.

за грѣхы *пригодило ся.* такъ 18 — пол. trafiło się, рас. случилось.

далъ жо еси *приставъ* своего ч(е)л(о)в(ѣ)ка прокопию 51, *прыстаў* хіба абазначае тут урад, а ня ўрадніка.

товара *силою* не грабити 15, товаръ оу нихъ о*т*ялъ *силою* и неправдою 4 — сілком, пол. przemocą, рас. насильно.

дали ему *скорлат*а портъ. жо чаторъ 57 — шаўковая або іншая пахварбаваная на чырвона тканіна, шкарлат (гл. вышэй, бач. 43), ад лацінскага scarlatum. Слова гэтае ў разгляданым лісьце важнае такжа дзеля гісторыі культуры ў Беларусі. Дагэтуль дасьледавальнікі думалі, што заходне-эўропэйскія словы ў беларускай мове лучылі ў яе пераз Польшчу, а тымчасам аказуецца, што прыходзілі яны і беспасярэдне, дарогаю на Рыгу ды, хіба, і не на адну Рыгу, а мо' і на Горадзен і Вільню. І запраўды, яшчэ да стычнасьці з Польшчай ад Ягайлы Беларусь ня толькі мела даволі высокую культуру, але й была ў блізкіх зносінах із Заходняй Эўропаю.

обиды не *створити* 13.

товаръ былъ *тутоть* 24, адгэтуль цяперашняе паўночна-ўсходняе *тутацька.*

ı *боявъ ся* см(е)рти живота 20.

немчи жо то *оуведавше* ажо к тобе оутеклъ розбоиникъ 20.

*оулюбилъ* еси одиного кон^я^ 51.

убоявъ ся см(е)рти живота *оутеклъ* 20.

както есме не *чювали* **от** отч^о^въ 36, есме не *чювали* ни изъ отчины ни о*т* дѣдовъ 79.

дали ему скорлата портъ. жо *ча^торъ^* 57—?

Цікаўная фраза: оу своемь слове стоялъ 62, прыр. у „Аль Кітабе“: pri slove stajic.

Ведама, што апрача вышменаваных асаблівасьцеў у беларускім языцэ XIII в. было ня мала іншых, але аб іх немагчыма гаварыць на аснове разгляданага лісту, яны схаваны пад чужым царкоўна-славянскім правапісам.

З асаблівасьцеў мовы лісту ясна відаць, што напісаны ён у паўночна-ўсходнім (крывіцкім, дысыміляцыйным) нарэччу беларускага языка. Ясна такжа відаць, што пісар ягоны пісаў сьвядома пабеларуску, ані не стараючыся захварбаваць свае мовы царкоўна-славянізмамі.

Ведама, пісарам лісту быў якісь рыскі Беларус-крывіч. Ведаем такжа, што ў Рызе пісалі чыста пабеларуску дзеля таго, што гэтак пісалі ў беларускіх гаспадарствах, наўперад у Полацку (зь Віцебскам) і Смаленску. Буйное й дэмократычнае грамадзкое й політычнае жыцьцё ў гэтых гаспадарствах прыяла ў іх раньняму вызваленьню ад царкоўна-славянскіх уплываў.

З вышменаванага робіцца такжа ясна, што калі ў Ліцьве (па старой тэрмінолёгіі) беларускі язык стаў гаспадарсьцьвеным і літаратурным і мовою асьвячоных клясаў бяз розьніцы нацыянальнасьці, дык гэта сталася ня дзякуючы прыпадку, што Беларусы займалі сярэдзіну гэтага гаспадарства, і на'т ня вылучна таму, што Беларусы яго стварылі і яго кіравалі, але яшчэ й таму, што за даўгую пару культурнага й грамадзкога жыцьця была зроблена прыгатова да раньняе літаратурнасьці беларускага языка ў гэтым задзіночаным беларускім гаспадарсьцьве.

---

# МАТЭРЫЯЛЫ Й ЗАЦЕМКІ.

## МЯСТЭЧКА ГЛАЗОМІЧЫ АБО ЯНАВІЧЫ Ў ВІЦЕБШЧЫНЕ Ў XVIII СТАГОДЗЬДЗІ.

У 35 вярстох ад Віцебску, на ўзьбярэжжы ракі Вымніцы (прытоку Касплі) стаіць мястэчка *Янавічы*. Стары назоў ягоны *Глазомічы* цяпер ужо рэдка ўспамінаецца. Да рэвалюцыі 1917 году мястэчка належыла да зямляўласьнікаў Багдановічаў. У 1905 годзе былі ў ім 1062 будынкі і жылі 2233 жыхары. Правы мястэчка Янавічы былі азначаны „указам“ віцебскае казённае палаты з 9 сакавіка 1817 года *).

Правы гэтыя былі абапертыя на лісьце віцебскага ваяводы Казімера Аляксандры *Пацея* з 1 сакавіка 1715 году. Каб засяліць „слабаду“ пры сваім двары Глазомічах вольнымі людзьмі, ваявода ў гэтым лісьце заклікаў сяліцца тутака людзей пажаданых і прыхаджалых. Асаблівую ўвагу зварачаў Пацей на тое, каб прыцягнуць людзей тарговых. У сувязі з гэтым ён даваў многа прывілеяў *жыдом,* каторыя згаджаліся тут асесьці, і гэтыя прывілеі зьмешчаны ў менаваным лісьце з 1715 году. Гэтак жыды на 12 гадоў былі звольнены ад выплачаваньня чыншу і выпаўняньня дворных павіннасьцяў ды мелі права таргаваць у мястэчку бяз ніякіх падаткаў. Судзіць справы жыдоў паміж сабою і жыдоў з хрысьцянамі меў жыдоўскі грамадзкі кагал (самаўрад) — з тэй толькі засьцярогай, што хрысьцяне, нездаволеныя прысудам кагалу, маглі пажаліцца на яго зямляўласьніку. Ліст 1715 г. прадстаўляе вельмі цэнны дакумэнт, каторы паказвае, якімі спосабамі прыходзілася карыстацца, каб прыцягваць вольных людзей у новатвораныя мястэчкі ў Беларусі ў пачатку XVIII стагодзьдзя. Прыпіска Міхайлы Пацея, зробленая на лісьце з 25 лютага 1732 году, каторая

*) Списокъ населенныхъ мѣстъ Витебской губерніи. — Витебскъ, 1906. Стр. XL – XLI.

пацьвярджала зьмешчаныя ў лісьце прывілеі, паказвае, што і тады ўмовы засяленьня не зьмяніліся.

На жаль, арыгіналу ліста Пацея з 1 сакавіка 1715 году, напісанага папольску, знайсьці не ўдалося. У 1794 годзе расейскі ўрад налажыў сэквэстр на двор Пацея. Тады-ж забралі ў яго і дворны архіў, у каторым пераховаваўся ліст. Да нас дайшоў толькі расейскі пераклад ліста, зроблены ў 1817 годзе; ён да рэвалюцыі 1917 году пераховаваўся ў архіве віцебскае казённае палаты. Падаем тутака яго даслоўна:

„Казимиръ Александръ Поцей, вотченникъ Кадинской и Ржечицкой, воевода Витебской и Староста Жижморской, Ольkеницкой, Рогачевской, Суражской и прочей.

„Обще всѣмъ и всякому, кому бы о семъ знать долженствовало, объявляю симъ въ томъ: что я, приглашая для распространенія въ слободѣ мѣстечка Глазомицкаго селенія желательныхъ и приходящихъ людей, учинилъ съ евреями таковое дозволительное положеніе, въ разсужденіи обезпечительнаго и свободнаго оныхъ селенія и строенія домовъ. Во первыхъ, что свободы даю онымъ отъ платежа на двенадцать лѣтъ, продолжая оную съ 1715-го года мѣсяца марта перваго числа, будущаго 1727-го года по таковоежъ число, съ таковымъ притомъ объясненіемъ, что оные евреи, до окончанія времени данной имъ свободы, никкаковымъ дворовымъ повинностямъ употребляемы быть не имѣютъ. А дозволяю онымъ, поселившимся въ сказанномъ мѣстечкѣ жителямъ евреямъ, построить школу хотя бы и въ обширнѣйшемъ положеніи, каковая нынѣ находится, деревянную или каменную. Подъ которую школою и кладбищемъ еврейскимъ имѣется пляцевой земли, начиная отъ улицы въ ширину прентовъ десять, а въ длину продолжается отъ ровка на рѣку, за улицу, за которую землю и съ построенной на оной бани, и прочаго строенія, кое окажется, оные-жъ евреи равнымъ образомъ отъ всякихъ повинностей дворовыхъ и платежа податей, хотя бы по установленію отъ Сеймовъ и Сеймиковъ, остаются свободны. Также во время хороненія оными изъ евреевъ умершаго, какъ отъ духовныхъ особъ, такъ и ни отъ кого, воспрещаемо быть не должно. А равно сему заниматься работою въ винокурнѣ, солодовняхъ и въ истопленіи бани, во всякое время наблюдая, чтобъ только сего не было чинено во время праздниковъ Святаго Рождества, Воскресенія Христова, Святыя Тройцы, Богоматери и въ день святаго Василія, въ Новый Годъ, — безъпрепятственно вольно. И всѣ оные, какъ ни въ какія работы и послуги дворовыя употребляемы быть не должны, такъ и отъ дачи ими подводъ и лошадей двору и подъ военнослужащихъ, остаются свободны. Разбирательство судное между евреями и съ евреями христіянъ, безъ препятствія двора то его, зависить отъ ихняго еврейскаго общественнаго кагала съ тѣмъ только, что христіани, по осужденіи кагаломъ съ евреями, дѣла имѣющіе, вслучаѣ неудовольствія, должны будутъ относится для уваженія ко мнѣ. А по истеченіи двенадцати лѣтней данной, во всѣ вышеписанномъ евреямъ свободы за земли пляцевыя, ими занимаемыя, имѣющіе въ себѣ въ ширину прентовъ пять, а в длину прентовъ десять, платить имѣютъ поземельныхъ денегъ въ годъ по десяти злотыхъ польскихъ. Домы же

свои, съ плацами, съ лавками и винокурнями, по желанію, за вѣдомомъ двора моего, продать онымъ дозволяется. Также дозволяется онымъ безъ прикословія отъ двора и мѣщанъ, на ярморкахъ и торгахъ, для своей корысти, чемъ пожелаютъ производить торги, кромѣ волости Глазомицкой, въ коей никаковые быть не должны. Во тягость тѣмъ евреямъ, какъ... *) въ продаже оныхъ, отъ двора моего налоговъ денежныхъ быть не должно. Такъ, по истеченіи свободы, чтобъ оные-жъ евреи на церковные надобности сала и воска не давали — дворъ наблюдать имѣетъ, а только дать должны будутъ двору сала пуда два. По которому моему положенію и данному во всемъ вышеписанномъ отъ меня дозволенію остаются оныя обезпеченными на всегдашнія времена, безъ малейшаго въ томъ и отъ наслѣдствующихъ по мнѣ нарушенія. Но паче въ содержаніи всего того ненарушимо. Оное-жъ данное и учиненное мною дозволительное положеніе утвердить должны будутъ. Во увѣреніе сего, с приложеніемъ герба моего печати, своеручно подписуюсь. Писано въ Глазомичахъ тысяща семъ сотъ пятаго на десятъ года, мѣсяца марта перваго дня.

„Казимеръ Поцей воевода Витебскій.

„Все сіе утвердилъ Михаила Поцей въ Глазомичахъ 25-го февраля 1732 года“.

„Всякій прентъ содержитъ въ себѣ земли въ ширину локтей восемь, а въ длину шестнадцать. Хотя земли школьной и подъ кладбищемъ еврейскимъ и оказалось по перемеру въ длину больше, но, предохраняя въ своей силѣ учиненное съ евреями покойнымъ Его Сіятельствомъ Господиномъ Графомъ Казимеромъ Поцеемъ, воеводою Витебскимъ, дозволительнаго положенія, при всемъ томъ оныхъ до власти поступающаго наслѣдствующаго владѣльца онаго имѣнія оставляемъ, съ таковымъ только запрещеніемъ, дабы кагалъ еврейской, въ тягость прочихъ жителей (по елику домовъ не имѣется) никакихъ на оныхъ излишнихъ поборовъ и налоговъ, кромѣ принадлежащихъ податей, не дѣлали и не взыскивали, подъ опасеніемъ взысканія пятидесяти таляровъ штрафа. 1830-го года мая 17-го дня, оную надпись подписали Коммисары 1-й Семенъ Спруцъ. 2-й Иванъ Высоцкій.

„Переводилъ переводчикъ Иванъ Терминьскій“.

Разам з перакладам ліста пераховавалася ў архіве казённае палаты ў Віцебску і копія з *апісаньня* мястэчка Глазомічы або Янавічы. Самае апісаньне было напісана ў расейскай мове — праўдападобна ў канцы XVIII ст., ужо пасьля сэквэстру двара. Апісаньне гэтае дае паняцьце як аб самым мястэчку, так і аб ягоных жыхарах дый аб іхніх занятках. Гэтак яно можа ў некаторай меры дапоўніць тое прадстаўленьне аб мястэчках Беларусі ў XVIII ст., якое даюць ужо апублікаваныя дагэтуль дакумэнты.

Мястэчка Глазомічы, паводле гэтага апісаньня, стаяла на беразе ракі — пры дарозе з Віцебску, каторая праз мястэчка йшла да двара. У межах мястэчка дарога мела назоў Віцебскае вуліцы, галоўнае

*) **У арыгінале слова выцерта.**

ў мястэчку. Усяго-ж у мястэчку было 11 вуліц, 7 завулкаў і 1 пляц. На пляцу стаяла царква; сюды выходзілі некалькі вуліц. Судзячы паводле назоваў вуліц і назоваў суседніх з Глазомічамі населеных пунктаў, трэба зрабіць вывад, што чатыры вуліцы былі працягам дарог, каторыя злучалі гэныя пункты з Глазомічамі. У апісаньні пададзены гэткія назовы вуліцаў і завулкаў: Віцебская, Глазоміцкая, Школьная, Успоўная, Лёзьнянская, Смаленская (і тры Сжаленскія завулкі), Зайцоўская вуліца і завулак, Пукшанская, Пушкарская, Колыская, завулак Вымпянскі, зав. за царквою Пяцінкаю, зав. Падлонскі. Апрача царквы ў мястэчку была й жыдоўская школа (сынагога).

У апісаньні мястэчка пералічаны ўсе вучасткі зямлі, пры чым сказана, хто на іх сядзіць і які чынш плаціцца ў двор. Гэта дае магчымасьць судзіць і аб складзе жыхараў, і аб велічыні іхніх вучасткаў. Агулам у Глазомічах былі 402 жыхары, у тым ліку 175 жыдоў. Найвялікшы вучастак быў той, за каторы плацілі чыншу 5 руб. у год; найменшы — той, за які плацілі 25 кап. у год. З ліста Пацея 1715 году і з апісаньня відаць, што ў XVIII ст. жыхары мястэчка займаліся таргоўляй, браварніцтвам, мелі млын, саладоўні, лазьні; займаліся такжа рамёсламі: шавецтвам, сталярствам, бляхарствам.

У сьпісе жыхараў падаюцца пераважна толькі імя дый імя бацькі. Часамі сустракаюцца прозьвішчы жанок паводле заняткаў мужа (Параска Сталярыха і інш.). Але ёсьць і сьцяг прозьвішчаў у сучасным нам разуменьні, дапрыкладу: Цярэх Гарадзеха, Ермалай Яхімаў Кубліцкі, Сьцяпан Забароўскі, Тадора Шытава, Лейзар Нямчонак, Цімахвей Амяльянаў Грышкевіч, Астафей Склютаў, Іван Правіла (і Правілаў), Янкель Высоцкі, Пракоп Мікітаў Магучы, Марцін Пятроў Гала, Ян і Язэп Цярэхавы Высоцкія, Кандрат Иванаў Чачулін (у расейскай транскрыпцыі: Чечулін), Астафей Анашкін, Марцін Тарноўскі, Васіль Іванаў Ткачонак, Даніла Раманаў Бусёнак, Трахім Шпілёнак, Савасьцей Андрэеў і Цімох Рыгораў Калека, Мікіта Арцемаў Грэбежаў, Антон і Мікіпар Балашанскія, Паўла Мядзяй, Андрэй Іванаў Шырокі, Язэп Жыдаразінак (у рас. транскрыпцыі: Жидорезинок), Сідар Фіркін, Іван Яромін Башэй. Ня гледзячы на праведзеную ўсюды расейскую транскрыпцыю, характэрныя беларускія формы імёнаў пераважна захаваны без скажэньня: Мікіта Сапронаў, Юрка Фамёнак (Хамёнак), Анупрэй Аўтухаў, Дарошка Амяльянаў. Характэрныя адзначэньні: Рыгор Сымонаў з Дубровак, Іван Хведараў „сын кузьнецкі“; ня мёнш характэрнае імя: Каліна Кузьмін.

**Б. Брэжга.**

---

## ДА ГІСТОРЫІ РОДУ ВЕРАШЧАКАЎ.

У 1915 г. ў бібліятэку Адэскага Т-ва гісторыі й старажытнасьцяў (Одесское Общество Исторіи и Древностей) адна із прадстаўніц сям'і Верашчакаў прынесла свае радавыя дакумэнты і прасіла расчы-

тацьіх. Гэтых дакумэнтаў да 1922 году ніхто назад ня ўзяў, і яны хіба й сягоньня перахоўваюцца ў архіве памянёнага таварыства ці замяніўшае яго нейкае іншае арганізацыі. Дзеля генэалёгіі роду Верашчакаў і дзеля досьледаў над іх матэрыяльным станам у мінуўшчыне мо' будзе цікаўная кароткая інфармацыя аб гэтых дакумэнтах.

Іх усяго два; абодва — арыгіналы. Першы — гэта прывілей, дадзены каралём Жыгімонтам 3-га сьнежня 1524 году (на пэргаміне) дваранам **Міхаілу, Сьцяпану, Івану, Сямёну й Богушу Верашчакам** дзеля пацьвярджэньня іх правоў на спадчынны маёнтак іх „Камень“. „Били нам чолом дворяне наши Мишка а Стецко а Иван а Сенко а Богуш Верещаки и поведили перед нами што-ж они мают под собою имѣние на имя камень которое жь дей имѣнье за предков наших предки их пращурове и деди и отцы ихъ здавныхъ часов во впокон держали и они сами ажь до сего часу и били нам чолом абы мы им на то дали нашь листъ и за особливое ласки нашое тое имѣнье потвердили имъ нашим привилеем на вѣчность какъ же и королева наша ее милость и великая княгиня Бона о том нас за ними жедала“. Кароль Жыгімонт ідзе насустрэчу гэтаму заступніцтву і пацьвярджае „Камень“ на вечныя часы за Верашчакамі, іхнімі жонамі, дзяцьмі і „будучими щадками“ „со всими людьми путными и данными и тяглыми и зъ ихъ всими землями пашными и борьтными и сь сеножатми и з гаи и лесы и дубровами“ і г. д., абязываючы Верашчакаў „с тым имѣньем нам служити“. „При том были князь Юрыі Семенович Слуцки а державца ушполский и пепянски и вилкомирский пан Станислав Миколаевич а секретарь латынскіи декан и каноник виленский плебан берестейский князь Миколай вежькгаиловичь“. Грамата пісана ў Кракаве; пры ёй малая падвесная пячаць на малінава-зялёным шнуры; уласнаручны подпіс караля: „Sigismundus rex m. p“. На адваротнай старане граматы (выпісы із яе мы далі раскрыўшы цітлы і разьдзяляючы словы) адзначана, што 2 кастрычніка 1597 г. прывілей запісаны ў кнігі земскія берасьцейскія, паданы панам Раманам Верашчакай; у 1797 годзе прывілей — па прадстаўленьні „pana Hieronyma Wiereszczaki“ — запісаны ў акты кобрынскага павету.

Другі арыгінальны акт роду Верашчакаў — гета ёсьць патэнт, выданы 29 мая 1818 году маршалкам горадзенскае губэрні графам К. Грабоўскім і павятовымі шляхоцкімі дэпутатамі, шляхоцкай сям'і Верашчакаў (Wereszczaka) на шляхоцтва. Склад сям'і паказаны тутака гэткі: Іван Дамінікаў з сынам Гаронімам; Адам, Ян і Язэп Багуслаўчы і сын Адамаў Станіслаў; Тадэуш і Валент Багуслаўчы дый сыны Валентавы Вінцэнт, Антон, Фэлікс ды Ігнат; Эліяш Язэпаў з сынам Гілярым і ўнукамі Раманам, Кастанцінам і Францішкам; далей — Міхаіл, Паўла й Рафал Янавічы ды сыны першага Марцэлі й Вінцэнт; урэшце — Рамуальд Фэліксаў. Усе гэтыя асобы паходзяць ад „Senki czyli Semena Wereszczaka“ — значыць, як відаць, ад таго Сямёна, на ймя каторага ды ягоных братоў дадзена была грамата ў 1524 годзе. — На патэнце 1818 г. (пэргамін, падвесная пячаць) ёсьць прыпіска кобрынскага паветавага маршалка шляхты (у расейскай мове) з 22 верасьня 1832 году № 234 — аб тым, што па прадстаўленьні патэнту Вінцэнт

Багуславіч Верашчака з сынамі Вінцэнтам ды Ігнатам упісаны ў пайменны дваранскі сьпісак пад нумарам 110.

Дзеля беларускае генэалёгіі мо' прыдадуцца гэтыя справкі, абапертыя на арыгінальных дакумэнтах, дагэтуль нідзе не надрукаваных.

**А. Флёроўскі.**

Прага Чэская, 30.IV.1935.

---

## ПРОЗЬВІШЧЫ НА *—ЛА* (*—ЛО*) і ІХ ПРАВАПІС.

Беларускія прозьвішчы на *—ла* (этымолёгічны канчатак найчасьцей *—ло*) бываюць рознага паходжаньня.

1. Адныя зь іх паходзяць ад імёнаў хрышчоных, прыкл. *Самойла, Міхайла.*

2. Другія паўсталі з назоўных імёнаў на*—ло* (не пад націскам *—ла*). Гэта такія прозьвішчы, як *Шыла, Масла, Рыла* і пад. Назоўныя імёны на*—ло* (не пад націскам*—ла*), значыцца такія, як *сіло, крыло, памяло, шыла, рыла* і інш., абазначаюць (ці абазначалі) снáдзіва *) або рэч, каторай штось робім; гэтак, прыкладам, шылам шыем, рылам сьвіньні рыюць, сілом сіляюць птушкі, памялом памятаюць. У менаваных прозьвішчах, як паўсталых адназоваў снадзіваў, чуўся некаторы адценак грэблівасьці, бо ніхто ня хоча быць снáдзівам. Чым далей назад у старыну, тым гэты адценак мусіў быць большы. Апрача таго ня рэдка лічаць — зусім неразумна — брыдкімі тыя прозьвішчы, што абазначаюць канкрэтныя рэчы (*Сарока, Сініца, Качан, Рэдзька* і пад.) і стараюцца зацямніць іх значэньне, пішучы, прыкладам, *Сініцо, Капусто.*

3. Іншыя прозьвішчы на *—іла* ўтварыліся ад імёнаў павялічальных на *—іла.* Прыкл.: *дурнілà* — „надта вялікі дурань“, *хадзіла* — „той, што лішне часта, ажно без патрэбы ходзіць“; *вайніла* — „празь меру заўзяты ваяка“.

Як бачым, гэтыя назовы маюць так сама няпрыемны адценак. Прозьвішчы ад іх паўсталыя, як і іншыя, могуць зьмяняцца, дастаючы новыя суфіксы. Гэтак ад *Вайніла* паўстаў *Вайнілòвіч.*

Собсьнікі прозьвішчаў другое й трэйцяе катэгорыі, каб зацямніць іх паходжаньне ад назоваў, маючых грэблівы адценак, сталі ймкнуцца пісаць іх із двума *лл* (*Трубілла, Рылла* і інш.). Гэтым паходжаньне такіх прозьвішчаў рабілася незразумелым.

У вялізарнай бальшыні прозьвішчы на *—ла* беларускага паходжаньня. Але лучаюцца зрэдку прозьвішчы на *—ла* літоўскага паходжаньня. Прыкл.: *Гедвіла* зь літ. Gedvilà. Але й зглядзішча літоўскага языка немагчыма апраўдаць пісаньня іх із двума *лл* і навет

---

*) *снáдзіва* — слова ніякага роду, паходзіць ад таго-ж караня, што й *снасьць.* Абазначае тое самае, што пазычанае *струмэнт* або як напару ў нас ужываюць (няправільна!) *прылада.* Гэтак ё кравецкія, шавецкія снадзівы і пад. Слова гэтае чыста беларускае й народнае, запісаў яго я ў сп. Аніські зь в. Шальціны ля Друі Браслаўскага павету.

нельга знайсьці прычыны такога пісаньня. Відавочна, сьпярша паўстала пісаньне з двума *лл* у прозьвішчаў беларускіх, каб зацямніць іх „сна́дзіўнае“ і іншае „няпрыемнае“ паходжаньне, а потым было перанесена і на прозьвішчы літоўскія.

Прозьвішча, як кожнае слова, належыць да мовы, дык казаная й пісаная хворма ягоная мусіць згаджацца із законамі дадзенага языка.

А як мы пабачылі, беларуская мова вымагае пісаньня такіх прозьвішчаў, як *Шамяціла, Сурвіла* і іншых на *—ла*, з адным *л*. З гэтым вымаганьнем нашае мовы мы павінны лічыцца балей, як із воляю собсьніка прозьвішча, хоць-бы й вельмі такога чалавека шанавалі. Якая гэта пашана чалавека, калі не шануецца яго родная мова? Дзеля ілюстрацы прывяду гэтта наступное здарэньне. У 1935 г. ў часе жалобнае акадэміі ў чэсьць сьв. п. проф. Бр. Эпімаха Шыпілы пісалі ягонае прозьвішча з адным *л*. Проці гэтага выступіў у „Родным Краю“ Я. Зянюк, заяўляючы, што благая гэта пашана, калі на'т ня ўмеем напісаць „правільна“ прозьвішча нашага вялікага патрыёта. Аргумэнт Зянюкоў ня быў пераконуючы. Няўжо-ж Бр. Эпімах-Шыпіла хацеў, каб няправільнай хвормаю ягонага прозьвішча псавалі беларускую мову, каторую ён так любіў? Ведама, што не, хоць-бы нясьведама й сам пісаў няправільна сваё прозьвішча. Але сталася ляпей. У мяне захавалася пісулька *) Бр. Эпімаха-Шыпілы з 9.V.27 г., напісаная ім із Менску. На гэнай пісульцы нябошчык падпісаўся „Бр. Эпімах-Шыпіла“ — з адным *л*. Значыцца, калі раней і пісаў ён сваё прозьвішча з двума *лл*, дык пасьлей, разабраўшыся ў правільнай яго хворме, стаў пісаць із адным *л*.

Наапошку трэба зацеміць, што тыя прозьвішчы беларускія, каторых хворма фонэтычная розьніцца ад хвормы этымолёгічнае, мусяць пісацца цяперака начай, як пісаліся ў веку XII—XVIII, бо тады быў правапіс этымолёгічны, а цяпер ё фонэтычны. Прыкл. даўней пісалі „В*о*й*т*ех*о*вич, З*е*нюк“, а цяпер „В*а*й*ц*ех*а*віч, З*я*нюк“.

**Др. Ян Станкевіч.**

---

## ПАЛІТЫЧНЫ ПРАЦЭС ЯКУБА КОЛАСА і Т. Т.

*(З архіву Беларускага Музэю ім. Ів. Луцкевіча).*

Аб тым, што карыфэй беларускае паэзіі Якуб Колас, запраўднае прозьвішча якога — Кастанцін Міцкевіч, быў у 1906 годзе арыштаваны за арганізацыю вучыцельскага саюзу ў роднай Мікалаеўшчыне і засуджаны пасьля на тры гады ў вязьніцу, ведама з кожнага падручніка беларускае літаратуры. Аднак, апрача голага факту арышту і прысуду, грамадзянства аб гэтай справе ведае вельмі мала. Навет найбліжэйшыя да нашага паэты асобы цяпер ня могуць нічога пры-

*) Перадаў я яе ў 1935 г. ў Беларускі Музэй ім. Івана Луцкевіча ў Вільні.

помніць аб гэтым працэсе, дый магчыма, што ў самога Коласа ня шмат аб ім захавалася ў памяці. Дзеля гэтага публікуем тут жменю матэрыялаў да працэсу, атрыманых дзякуючы ветлівасьці аднаго з выступаўшых на судовай расправе адвакатаў, каторы захаваў одпісы абвініцельнага акту, пратаколу паседжаньня суду, матываванага прыгавору і некаторых паасобных дакумэнтаў дый пасьля аддаў іх у архіў Беларускага Музэю ім. Ів. Луцкевіча.

Абвіненьне было скіравана проці чатырох настаўнікаў народных школ: Кастанціна Міхайлавага Міцкевіча, Уладзімера Сыльвэстравага Міцкевіча, Якава Сымонавага Бязьмена і Сымона Іванавага Астроўскага. — Астроўскага абвінавачавалі паводле 51 ст. і 1, 2, 3 і 6 п. I ч. 129 ст. угалоўн. улаж., трох другіх — паводле I ч. 126 ст. угал. улаж. Судзіла Віленская Судовая Палата, Угалоўны Дэпартамэнт, з учасьцем станавых прадстаўнікоў. Справа паступіла ў Палату 21.IV.1908 г., разглядалася 15.IX таго-ж году. У склад суду ўваходзілі: старшыня П. Кабека, сябры К. Вярхоўскі, Ѳ. Дабужынскі, Д. Кісьлінскі, за сэкратара Т. Біруля, прадстаўнікі станаў: менскі маршалак шляхты А. Долгово-Сабураў, за менскага гарадзкога галаву сябра управы В. Яноўскі ды самахвалавіцкі валасны старшыня А. Пухальчык. Абвінавачаваў таварыш пракурора А. Юршэўскі. Паседжаньне Палаты адбывалася ў Менску. Па загаду старшыні, „посторонняя публика“ была выдалена з салі суду.

З акту абвіненьня даведваемся, што справа ўзьнялася ў наступных абставінах.

Уначы з 9 на 10 ліпня 1906 году (ст. ст.) паліцыя, паведамленая земскім начальнікам 6 участку Менскага павету і сваімі тайнымі агентамі, прыехала ў сяло Мікалаеўшчыну (Нікольскае то-ж) і, увайшоўшы ў памяшчэньне тамтэйшае народнае школы, знайшла тамака зборку, у якой прымалі ўчасьце вучыцялі народных школаў Сымон Самахвал, Язэп Міцкевіч, Кастанцін Міцкевіч, Адам Вайцяхоўскі, Іван Лапцэвіч, Антон Камароўскі, Адам Мілюк, Аляксей Аляшкевіч, Вінцэнт Віолентій, Міхал Пальчэўскі, Уладзімер Міцкевіч, Аляксандра Райскі, Аляксандра Сянкевіч, Мікіпар Янкоўскі, Тодар Калечыц, Іван Фёдараў і Аляксандра Філіповіч. Зборка адбывалася ў кватэры вучыцеля школы ў Мікалаеўшчыне, Сянкевіча, каторы заявіў паліцыі, што гэта — ягоныя госьці, якія зьехаліся ў Мікалаеўшчыну, карыстаючыся летнімі канікуламі.

Аднак, падчас вобыску паліцыя знайшла на стале пратакол, які выясьняў запраўдны характар гэтае зборкі. З яго выяўлялася, што зборка, разгледзіўшы праграму „Всероссійскаго союза учителей и дѣятелей по народному образованію“, пастанавіла ўсей групай 1) далучыцца да „Всероссійскаго союза учителей“, прымаючы ягоную праграму; 2) пашыраць сярод вучыцялёў ідэі Саюзу, прыцягваць іх у сваю групу і дапамагаць у арганізацыі мясцовых груп; 3) пастаўленае на разгляд пытаньне аб патрэбах школы ў паўночна-заходнім краю адлажыць да наступнага зьезду; 4) прыймаючы пад увагу, што дасягненьне пастаўленых у праграме мэтаў зусім немагчыма пры сучасным дзяржаўным ладзе, група за найбліжэйшую сваю мэту прызнала: актыўна імкнуцца да разбурэньня гэтага ладу шляхам беспасярэднягa ўплыву на сялян і арганізацыі іх; 5) дзеля беспасярэдніх зносінаў

з цэнтральным бюро „Всерос. союза учителей“ і паміж сабою выбраць бюро групы. Пратакол падпісалі ўсе ўчасьнікі зборкі.

Побач з пратаколам зборкі групы паліцыя знайшла рукапіс пад загалоўкам „Всероссійскій союз учителей“, з якога выяўлялася, што на адбытым у Маскве зьезьдзе пэдагогаў і дзеячоў на ніве народнае асьветы былі выпрацаваны падставы і праект „Всероссійскаго Учительскаго Союза“. Маскоўскі зьезд пастанавіў, што гэты Саюз павінен мець ня толькі мэты прафэсіянальныя, але й палітычныя. Саюз будзе імкнуцца да грунтоўнае рэарганізацыі справы народнае асьветы ў Расеі на падставах свабоды, дэмакратызацыі і дэцэнтралізацыі яе, а такжа за палітычнае вызваленьне Расеі ды за шырокія сацыяльна-палітычныя рэформы. З гэтай мэтай Саюз стаўляе сабе, паміж іншым, гэткія заданьні: а) адкрыта і свабодна, вусна і ў друку, крытыкаваць сучасны школьны лад і ўрадавую палітыку ў галіне народнае асьветы; б) арганізоўваць калектыўныя пратэсты вучыцялёў проці дзеяльнасьці адміністрацыі;... з) прыцягваць грамадзянства і органы грамадзкага самаўраду да абароны вучыцельства ад гвалтаў адміністрацыі і да матэрыяльнае дапамогі асобам, пацярпеўшым за палітычную і грамадзкую дзеяльнасьць;... к) у меру магчымасьці выпаўняць агульныя заданьні палітычнага характару, якія выплываюць з пастановаў Саюзу ці паасобных арганізацыяў яго; л) супрацоўнічаць на грунце палітычнае дзеяльнасьці з другімі прафэсіянальнымі саюзамі дзеля дасягненьня супольных мэтаў.

Із знойдзенага адначасна паліцыяй рукапісу пад загалоўкам „Товарищи Учителя“ вынікала, што „Всеросійскій Союз народных учителей“ паўстаў да жыцьця ў сакавіку і мае ўжо каля 5.000 сяброў. Адозва гэтая заклікае вучыцялёў да шырокае працы над асьветай народных масаў і да палітычнае барацьбы за волю.

Дапаўняючы гэтыя матэрыялы, акт абвіненьня падае галоўныя рэзалюцыі і пастановы III дэлегацкага зьезду „Всероссійскаго Союза учителей и дѣятелей по народному образованію“, які адбыўся 7 - 10 чэрвеня 1906 году. Хаця гэты зьезд, каб аблягчыць аб'яднаньне вучыцельства, выключыў із Статуту Саюзу палітычную мэту, усё-ж ён і далей стаяў на тым гледзішчы, што „учасьце вучыцельства ў барацьбе ёсьць просты абавязак перад бацькаўшчынай і школай, рэарганізацыя каторае на прынцыпах свабоды і дэмакратызацыі ў рамках бюракратычнага ладу немагчыма“. „III-ці дэлегацкі зьезд вучыцялёў і дзеячоў на ніве народнае асьветы лічыць, што павіннасьць Саюзу— прыняць найбольш чыннае ўчасьце ў вызвольнай барацьбе — на баку народу і супраць ягоных крыўдзіцеляў. Зьезд выказавае глыбокае перакананьне, што Саюз, дзякуючы свайму палажэньню, стаіць у беспасярэдняй блізкасьці да працоўнага народу, дык і ўчыніць усе высілкі, каб паглыбляць народную сьведамасьць і дапамагаць у арганізацыі барацьбы ў імя вялікіх ідэалаў працоўнага народу. Уся зямля— народу. Зямлю, волю і ўладу можа даць у рукі народу толькі ўстаноўчы сход, створаны шляхам рэвалюцыйнае барацьбы, на падставе агульнае, роўнае, беспасярэдняе і тайнае падачы галасоў бяз розьніцы полу, нацыянальнасьці і веравызнаньня. Зьезд перакананы, што Саюз будзе змагацца за правядзеньне ў жыцьцё даканца дэмакратыч-

ных і сацыялістычных прынцыпаў і за шырокую аўтаномію ўсіх народаў Расеі“...

Паліцыя, забраўшы памянёныя вышэй дакумэнты і сьпісаўшы пратакол, пакінула ўсіх учасьнікаў зборкі ў Мікалаеўшчыне на волі. Было распачата сьледзтва ў гэтай справе, падчас якога выявілася, што, пачынаючы ад вясны 1906 году, у м. Сьвержані і ў суседніх з Мікалаеўшчынай вёсках былі раскіданы і расклейваны па платох розныя проціўрадавыя праклямацыі. Усе думалі, што гэта была работа мікалаеўскіх настаўнікаў. Настаўнікі Сянкевіч і Янкоўскі падчас сьледзтва ўцяклі заграніцу і прыслалі з Даніі на рукі ўладаў заяву, у якой адказнасьць за скліканьне зборкі і прынятыя на ёй рэзалюцыі прыймалі на сябе.

Як відаць з далейшага зьместу акту абвіненьня, менская дырэкцыя народных школ, не чакаючы на вынікі сьледзтва ў справе зборкі ў Мікалаеўшчыне, выдаліла ўсіх учасьнікаў зборкі з іх пасадаў і на іх месца назначыла новых настаўнікаў. Але гэта ня спыніла распачатае працы. У Менскай губ. пачалі тварыцца новыя групы вучыцялёў, жадаючых далучыцца да „Всероссійскаго Учительскаго Союза“. Першая — ініцыятыўная група пастанавіла склікаць дэлегацкі зьезд ад усіх групаў Меншчыны ў канцы 1906 ці ў самым пачатку 1907 году (—дата зьезду была пазьней перанесена на Вялікадзень). Створанае групай бюро, вядучы арганізацыйную работу, выпускала адумысныя адозвы да вучыцялёў, заклікаючы да арганізацыі. Асабліва энэргічна бюро зарэагавала на звальненьне школьнымі ўладамі ўчасьнікаў мікалаеўскага зьезду. Месцы апошніх былі абвешчаны пад байкотам. Да нованазначаных вучыцялёў былі разасланы пісьмы ад бюро групы з заклікам ураз-жа падаваць просьбы аб пераводзе ў іншыя школы. — 15 сакавіка 1907 году ў м. Карэлічах паліцыя задзяржала на пошце вучыцеля Бязьмена, у якога было знойдзена шмат абцяжаючага яго матэрыялу. Справа пачала разрастацца. Коласа (Кастанціна Міцкевіча) абвінавацілі ў пісаньні пісьмаў аб байкоце. Зрабілі вобыск у Ўладзімера Міцкевіча і знайшлі новы абцяжаючы матэрыял. Вінавацілі-ж яго ў тым, што ён даваў сялянам рэвалюцыйную і апазыцыйную літаратуру, аб чым данёс селянін-правакатар Пятруша. У гэту-ж справу быў ублутаны вучыцель Астроўскі. Сярод рэвалюцыйных выданьняў была беларуская адозва „Праўда аб забастоўцы“, выданая „Першым Краёвым Камітэтам Беларускае Сацыялістычнае Грамады“. Былі також адозвы „Всероссійскаго Крестьянскаго Союза“, „Письмо отъ русскихъ крестьянъ Царю Николаю Второму“ і некалькі агітацыйных брашур партыі сацыялістаў - рэвалюцыянераў і легальных выданьняў апазыцыйнага характару.

У выніку сьледзтва, падчас каторага віну рэшты вучыцялёў у адносінах да акцыі менскае групы „Всерос. Учит. Союза“ устанавіць уладам не ўдалося, былі аддадзены пад суд чатыры ўчасьнікі зборкі ў Мікалаеўшчыне: Кастанцін Міцкевіч, Уладзімер Міцкевіч, Якаў Бязьмен і Сымон Астроўскі. Адносна да рэшты справа была прыпынена.

Не падаем формулаваных у акце абвіненьня канкрэтных закідаў падсудным, бо яны пераказваюць тое, што ўжо сказана. Закваліфі-

каваны яны, як праступкі, прадугледжаныя 51, 126 і 129 артыкуламі расейскага карнага кодэксу.

З акту абвіненьня відаць, што Ўладзімер Міцкевіч і Бязьмен адказавалі на судзе з вастрогу, двое другіх — з волі. Уладзімер Міцкевіч прасіў на абарону адваката Казімера Пятрусэвіча, Кастанцін Міцкевіч — Тадэуша Врублеўскага, Астроўскі — „казённага“ адваката па назначэньню Суду. Дзеля таго, што адв. Врублеўскі ня ўзяўся за абарону Коласа, апошняга і Якава Бязьмена бараніў К. Пятрусэвіч, у абароне-ж Уладзімера Міцкевіча і Астроўскага выступіў адв. І. І. Мятлін.

Пратакол засяданьня суду нічога новага ня даў. Характэрна толькі тое, што правакатар Пятруша на суд не зьявіўся. Хаця суд палічыў ягоныя паказаньні ня маючымі вагі дзеля справы і выключыў іх, аднак Пятрушу за ўхіленьне ад выступленьня на судзе пастанавіў пакараць штрафам.

Прыгаворам Судовае Палаты падсудныя Кастанцін і Ўладзімер Міцкевічы і Якаў Бязьмен былі прызнаны вінаватымі ў закіданых ім праступках і засуджаны на ссылку на пасяленьне, пры чым ссылка была заменена — „по обстоятельствам дѣла“ — на трохгадовую адседку ў крэпасьці.

Чацьвертага падсуднага, Астроўскага, суд прызнаў невінаватым і звольніў яго. Засуджаных Міцкевічаў і Бязьмена ўраз жа заарыштавалі і адвязьлі ў вастрог.

Засуджаныя заявілі, што прыгаворам здаволены.

Дзеля таго, што ў крэпасьці вольных месц ня было, суд загадаў засуджаным адбываць кару ў менскай турме, пачынаючы ад 15 верасьня 1908 году.

* * *

Да гэтага сырога, але даволі характэрнага дзеля тагачасных настрояў і дзеяльнасьці найбольш актыўнае часткі народных вучыцялёў матэрыялу трэба дадаць некалькі слоў высьненьня.

Справа ў тым, што сярод беларускіх дасьледчыкаў гісторыі адраджэнскага руху пануе пагляд, быццам Колас і ягоныя таварышы былі засуджаны за ўчасьце ў **„Беларускім Вучыцельскім Саюзе“**. Як мы бачылі з актаў працэсу, судзілі іх за ўчасьце ў мясцовай групе арганізацыі, якая мела назоў „Всерос. Учит. Союз“. Але гэта не зьмяняе факту, што — незалежна ад арганізацыі агульна-расейскае — Колас і некаторыя з ягоных таварышоў ужо пасьля выкрыцьця зборкі ў Мікалаеўшчыне зьехаліся на нелегальны, чыста нацыянальна-беларускі вучыцельскі зьезд у Вільні ўлетку 1906 году, на якім было пастаноўлена стварыць „Беларускі Вучыцельскі Саюз“ *). Зьезд апрацаваў праграму „Б. В. С.“, у аснове якое было дамаганьне ўвядзеньня ў дзяржаўныя народныя школы на Беларусі беларускае выкладовае мовы. Гэты постулят Колас і другія ўчасьнікі

*) З лічбы ўчасьнікаў Зьезду жывуць яшчэ ў Вільні дзьве асобы: гр.гр. Сымон Кароль і Антон Луцкевіч. Апошні зьмясьціў свае ўспаміны аб Зьезьдзе ў кніжцы „За 25 гадоў“, Вільня 1928.

віленскага зьезду меліся праводзіць і ў лёкальнай групе „Всеросс. Учит. Союза“, а праз яе — і ў цэнтралі гэтае арганізацыі, як абыймаючае ўвесь абшар Расейскага Гаспадарства, каб беларускі постулят увесьці гэтак у праграму агульна-саюзную. Гэтак, калі на зборцы ў Мікалаеўшчыне справа асаблівых патрэб школьніцтва ў „Сѣверо-Западномъ Краѣ“ была вызначана дзеля разгляду на наступным зьезьдзе групы Меншчыны, бо ініцыятары зборкі мо' йшчэ самі ня мелі сканкрэтызаванага пагляду на гэту справу, дык пасьля віленскага зьезду Колас і ягоныя таварышы ішлі да народнага вучыцельства нашага краю з гатовай праграмай і канкрэтным плянам нацыянальнае працы. Урадавыя рэпрэсіі гэту акцыю разьбілі.

**А. Л.**

---

## ПРЫЗНАНЬНЕ ПРАВОЎ БЕЛАРУСКАЕ МОВЫ ПАДЧАС СУСЬВЕТНАЕ ВАЙНЫ.

Як ведама, пад Расеяй за царскіх часоў адносіны ўлады да беларускае мовы былі заўсёды няпрыхільныя. Праўда, спэцыяльных актаў аб перасьледаваньні беларускае мовы ня было: яна разглядалася не як асобная, самастойная славянская мова, а як „нарѣчіе русскаго языка“, і ясна, што проці яе, як такое, не магло быць ніякіх афіцыяльна варожых выступленьняў улады. Але ўжываньне яе ў дзяржаўных установах і школах не дапускалася. У школьнікаў вучыцялі расейскіх дзяржаўных школ стараліся „выбіваць дзеравеншчыну“ — вытраўляць мімавольна ўжываныя словы і выражэньні беларускія, розьнячыяся вельмі ярка ад расейскіх. Не забаранялася і друкаваньне кніжак у беларускай мове, але да 1905 году нельга было друкаваць іх ані лацінікай, ані гражданкай фонэтычным правапісам. Кніжкі беларускія мусілі быць пісаныя расейскім правапісам з усімі яго асаблівасьцямі, успадкаванымі ад старабаўгарскае (т.-зв. царкоўна-славянскае) мовы („ѣ“, „ъ“, „е“ замест „э“, „о“ замест бязударнага „а“, „т“ і „д“ мяккое замест „ць“ і „дз“, — канчаткі „ньe“ або „ніе“, „лье“ або „ліе“ замест падвойных мяккіх „ньне“, „льле“ і г. д.). Абмежаньні гэтыя, праўда, страцілі сваю абавязываючую сілу ў 1905 годзе, — але да апошняга дня існаваньня царскае Расеі беларуская мова не атрымала правоў грамадзянства — ані ў школе, ані ў дзяржаўных установах.

У сувязі з гэтым цікаўна адзначыць **першы акт улады, якім правы беларускае мовы былі прызнаны афіцыяльна.** Акт гэты быў зроблены **нямецкімі акупацыйнымі ўладамі ў 1916 г.** і падпісаны фэльдмаршалкам **Гіндэнбургам.**

16-га студня 1916 г. былі апублікаваны „*Ausführungsbestimmungen zu den grundlegenden Richtlinien zur Wiederbelebung des Schulwesens vom 22. Dezember 1915. VIII Nr 82*“. У гэтым акце зьмешчаны, паміж іншым, гэткі пункт аб **роднай мове** ў школьніцтве:

„Als Muttersprache hat diejenige Sprache zu gelten, welche die Eltern im häuslichen Umgang mit den angemeldeten Kindern zu sprechen pflegen. Bei den Juden wird das „Jiddisch-Deutsch" in der Regel als Muttersprache anzusehen sein.

„In Zweifelsfällen entscheider der Verwaltungschef nach Anhörung der Schulbehörde.... **Das Weissrussische, das mit dem Russischen nicht identisch ist, wird unbeschränkt zugelassen".**

Гэтыя „Ausführungsbestimmungen" адносіліся да адзначанага ў загалоўку загаду таго-ж фэльдмаршалка Гіндэнбурга, як „Галоўнакамандуючага на Ўсходзе" („Der Oberbefehlshaber Ost"), з 22.XII.1915 г., дзе языковае пытаньне ў школьніцтве наагул вырашалася ў пункце 10 гэтак:

„10. **Sprachliche Verhältnisse.**

Die Unterrichtssprache soll die Muttersprache Sein. Inwieweit in Schulen mit nichtdeutscher Muttersprache auch in der deutschen Sprache zu unterrichten ist, behalte ich nach Vorschlag der Verwaltungen meiner Entscheidung vor.

In **allen** Schulen ist das Deutsche mit möglichst vielen Stunden von der untersten bis zur obersten Stufe zu lehren, so dass jedes Kind bei der Entlassung aus der Schule die deutsche Sprache in Wort und Schrift genügend beherrscht.

Russisch als Unterrichtssprache ist für alle Schulen verboten, doch darf es als fakultatives Lehrfach in den mittleren und höheren Schulen auftreten.

Es ist anzustreben, dass die Sprache der Lehrpersonen im Verkehr mit der vorgesetzten Schulbehörde und die Führung der Gescheftsbücher die deutsche ist.

Es wird daher erwartet, dass alle Lehrpersonen sich die Kenntniss der deutschen Sprache möglichst bald aneignen.

Der Religionsunterricht soll in der Muttersprache — den Juden in ihrer Religionssprache — erteilt werden".

Абодва дакумэнты вельмі характэрныя для нацыянальнае палітыкі нямецкіх акупацыйных уладаў, — палітыкі, якую яны праводзілі цьвёрда паводле намечаных „Richtlinien".

Гожа тут адзначыць, што нямецкая адміністрацыя забараняла друкаваць пабеларуску гражданкай, і дазвол на выпуск беларускага часопісу „Гоман" у Вільні быў дадзены сьпярша пры ўмове друкаваньня яго лацінікай. „Гоман" і пачаў выходзіць лацінікай 15.II.1916 году. Але ўжо ад 6.X.1916 г. часопіс друкаваўся і гражданкай — у двух асобных выданьнях („Ausgabe A" і „Ausgabe B").

Усе афіцыяльныя апавяшчэньні і загады нямецкіх уладаў, выданыя — побач з іншымі краёвымі мовамі — такжа і пабеларуску, друкавалі беларускі тэкст выключна лацінікай. Уступка для „Гомана" была зроблена толькі затым, што на яго было значнае запатрабаваньне ад палонных беларусаў у лагерах для ваенна-палонных, а жаўнеры-беларусы, якія да вайны вучыліся выключна ў расейскіх школах, лацінікай чытаць ня ўмелі. Адносна да іншых друкаў (кніжак і т. п.) забарона друкаваць гражданкай трывала да канца акупацыі.

**А. Л.**

# ІВАН ЦЕХАНОЎСКІ.

Летась Беларускае Навуковае Т-ва страціла аднаго з найстарэйшых сваіх сябраў у асобе б. дырэктара б. Наваградзкае Беларускае Гімназіі *Івана Цеханоўскага*. Памёр ён 6 кастрычніка 1937 г. ў Ашмяне, куды быў пераведзены школьнымі ўладамі пасьля закрыцьця Наваградзкай Беларускай Гімназіі.

Іван Цеханоўскі нарадзіўся 30 сакавіка 1888 г. у Якімаўцы, Гомельскага павету б. Магілёўскае губэрні. Бацька ягоны быў дарожным майстрам на чыгунцы. Сярэднюю асьвету дастаў Іван Цеханоўскі ў Менску, дзе скончыў Духоўную Сэмінарыю. На вышэйшыя студыі паехаў у Пецярбург і паступіў у Пецярбурскі Політэхнічны Інстытут, каторы скончыў у 1914 г. Ад 1914 г. служыў у Міністэрстве Дарогаў.

Беларускім адраджэнскім рухам захапіўся на студэнцкай лаве і прыймаў дзейнае ўчасьце ў працы беларускіх студэнцкіх гурткоў у Пецярбурзе. Расейская рэвалюцыя засьпяе нябожчыка ў Пецярбурзе і дае шырокае поле да грамадзкае працы. Але гэта не здавальняе яго нацыянальнай амбіцыі: ён хацеў працаваць сярод беларускай народнай гушчы. І вось, калі даведаваецца аб пастановах Усебеларускага Зьезду ў Менску, пакідае Пецярбург і едзе на Бацькаўшчыну. Спачатку задзержуецца ў Менску, а пасьля едзе ў м. Ракава, дзе ў 1918 г. абыймае кіраўніцтва мясцовай рэальнай школай. Палітычныя перамены ў Беларусі адрываюць Цеханоўскага ад гэнае культурна-асьветнае пляцоўкі, а што горш — польскія ўлады арыштоўваюць яго і садзяць у вастрог у Наваградку.

Толькі за 10 месяцаў Цеханоўскі выходзіць на волю і пачынае працаваць у Наваградку, дзе ў той час існавала прыватная гімназія з навучаньнем у расейскай і беларускай мове. У гэнай гімназіі адбывалася барацьба паміж расейскімі й беларускімі ўплывамі. Цеханоўскі абыймае кіраўніцтва ў беларускіх клясах. Беларускі элемэнт перамагае: у расейскай мове адбываюць навуку старэйшыя клясы, лічба каторых з кожным годам зьмяншаецца, а іх месца займаюць беларускія клясы. Расейская гімназія паступова ператвараецца ў беларускую, і ў гэтым — найвялікшая заслуга Івана Цеханоўскага, як з удзячнасьцяй кажуць ягоныя тагачасныя гадунцы.

Але тут ізноў наступае перэлом у жыцьці Цеханоўскага. Розныя справы змушаюць яго пакінуць сваю пэдагогічную працу і выехаць у Францыю. Тры гады фізычнай працы ў вапенных шахтах у Францыі — гэта рэч ня лёгкая, тым больш у адарванасьці ад роднага краю і дарагога варстату працы на беларускай культурна-асьветнай ніве. Туга па Бацькаўшчыне, каторую ў той час (гады 1924 — 1927) ахапляе вялізарны ўздым грамадзкага й культурна-асьветнага руху,— не дае Цеханоўскаму спакою, што відаць з ягоных лістоў з Францыі да сваіх прыяцеляў. Дый Наваградак ня можа забыцца кіраўніка беларускіх клясаў у сваей Гімназіі, каторая цяпер канчальна ўжо ператварылася ў беларускую і патрабуе адпаведнага дырэктара. Нава-

градзкае беларускае грамадзянства робіць стараньні ў ваяводы Бэчковіча, каб даць магчымасьць вярнуцца Цеханоўскаму ў Наваградак і абняць кіраўніцтва Беларускай Гімназіяй. Напасьледак у 1927 г. дасягае свае мэты. Іван Цеханоўскі варочаецца ў Наваградак і па нейкім часе абыймае дырэктарства ў Беларускай Гімназіі. На гэтай пляцоўцы трывае да канца яе існаваньня, г. зн. да вясны 1934 г., калі Наваградзкая Беларуская Гімназія была зачынена. Часу ня шмат, якіх 6—7 год, але колькі падзеяў адбываецца за гэты час, колькі высілку і працы ўкладае Цеханоўскі — спачатку дзеля ўзмацаваньня гімназіі, а пазьней — дзеля захаваньня яе!

Гожа тут наўперад прыпомніць будаваньне Беларускай Бурсы пры гімназіі. Будаваньне бурсы было вялікім высілкам беларускага грамадзянства ўсяе Наваградчыны. Давалі, хто-што мог: цэглы, пясок, каменьне, збожжа, палатно, працу. Ахвяры гэтыя йшлі пераважна ад сялянства. Будаўлянай акцыяй кіраваў камітэт, у каторым Цеханоўскі быў скарбнікам, і на ім ляжала зьбіраньне ахвяраў і мена на грошы. Напасьледак сойм асыгнаваў 200.000 зл., а Прэзыдэнт Рэчыпаспалітай урачыста залажыў вугальны камень пад беларускую бурсу. Але пакуль прыйшлі гаспадарсьцьвеныя грошы, трэба было даваць вэксалі. Пазьней з асыгнаваных грошы Урад выдаў толькі частку — рэшта ўгразла. Вэксалі пайшлі ў пратэст... Будынак быў выстаўлены на ліцытацыю. Калі зачынілі гімназію, Наваградзкі Магістрат хацеў пераняць будынак бурсы і дакончыць яго, але нічога з гэтага ня выйшла. Цяпер у гэным будынку месьціцца бурса польскай наваградзкай гімназіі: знайшліся грошы на яе заканчэньне. Але колькі мусілі перанесьці тыя, што з такім энтузьязмам пачалі будаваць гэту бурсу! А сярод іх — наўперад нябожчык дырэктар Цеханоўскі.

Другі факт — яшчэ цяжэйшы — гэта ліквідацыя ўладамі Наваградзкай Беларускай Гімназіі. Усе высілкі, скіраваныя на ратаваньне гэтай найважнейшай беларускай пляцоўкі ў Наваградчыне, нічога не памаглі, гімназію зачынілі... І дзіўна: дырэктар яе таксама нядоўга цешыўся жыцьцём! Сапхнуты з дырэктарства спачатку на вучыцеля неабавязкавай беларускай мовы ў польскай гімназіі ў Наваградку, а пазьней на вучыцеля польскай пачаткавай школы ў Ашмяне, сьв. памяці Дырэктар Цеханоўскі толькі 2 гады пажыў без свае гімназіі: 6-га кастрычніка 1937 г. сэрца яго перастала біцца. Пахаваны быў часова на магілках у Ашмяне, а 12 красавіка 1938 г. перавезены ў Вільню і пахаваны на праваслаўным магільніку — назаўсёды...

*В. Грышкевіч.*

---

Беларускае грамадзянства балюча адчула страту ў асобе дырэктара Цеханоўскага ня толькі як працаўніка на культурна-асьветнай ніве, але і як грамадзкага працаўніка наагул. Каля яго асобы ў сваім часе гуртавалася ўсё беларускае жыцьцё ў Наваградку. Але як яго там ня стала, беларускія інтэлігенцкія сілы пайшлі хто куды, і дагэтуль няма там адзінкі, якая-б патрапіла стварыць якоесь дзейнае ядро. Успамінаючы аб нябожчыку, пажадаем, каб знайшлася адпаведная

зьмена на яго месца ў Навагрnative ў Наваградку, і каб памяць аб ім і яго беларускай працы не памерла разам з ім.

Беларускае грамадзянства, згуртаванае ў Беларускім Навуковым Т-ве ў Вільні, на апошнім агульным сходзе пастанавіла сплаціць доўг нябожчыку Дырэктару Цеханоўскаму за яго адданую працу на беларускай ніве ў пастаці помніка на яго магіле. Каб прыцягнуць да гэтай справы шырэйшае грамадзянства і сабраць патрэбныя грошы, утварыўся камітэт, на чале якога сталі гр.гр. Русачанка і В. Грышкевіч. Складку на помнік Дырэктара Цеханоўскага можна аддаваць на рукі сябраў камітэту або прысылаць на адрыс Беларускага Навуковага Т-ва, падаючы мэту.

Адна з былых супрацоўніц с. п. Івана Цеханоўскага ахвяравала — дзеля ўшанаваньня памяці ягонае — 5 зл. на друк „Запісаў Б. Н. Т-ва“.

# ЛЕТАПІС БЕЛАРУСКАГА НАВУКОВАГА Т-ВА

*Ад Рэдакцыі.* Дзеля таго, што пасьля выхаду «Гадавіка Б. Н. Т-ва» у 1933 годзе Т-ва ня мела магчымасьці ў наступных гадох выпускаць гэтую публікацыю, інфармацыі аб працы Т-ва толькі ад часу да часу зьяўляліся ў пэрыёдычнай прэсе. Ня лічачы магчымым паўтараць усё гэта на старонках «Запісаў», падаем у аддзеле «Летапіс Б. Н. Т-ва» толькі важнейшыя інфармацыі з апошніх гадоў.

**З жалобнае карты.** У ночы з 2 на 3 верасьня 1934 году памер у Вільні дзейны сябра Бел. Нав. Т-ва, сэкратар Ураду Т-ва і старшыня краяведна-турыстычнае сэкцыі с. п. д-р *Мікалай Ільляшэвіч.* Нябожчык нарадзіўся ў 1903 годзе ў Пружане, скончыў Беларускую Гімназію ў Вільні, а пасьля вучыўся ў унівэрсытэце ў Празе Чэскай, дзе і дастаў ступень доктара філёзофіі. Вярнуўшыся на Бацькаўшчыну, быў некалькі гадоў вучыцелем Беларускае Гімназіі ў Вільні. Памер ад сухотаў, маючы ўсяго 31 год. Пахаваны на праваслаўным магільніку ў Вільні.

Чэсьць сьветлай памяці шчырага грамадзкага працаўніка і вернага сына свайго Народу!

— 6 красавіка 1937 году памер даўгалетні сябра Т-ва і сябра Ўраду Т-ва с. п. *Іван Цеханоўскі.* Нэкралёг ягоны надрукаваны асобна.

**Учасьце ў навуковых зьездах.** Дэлегаты Б. Н. Т-ва прыймалі дзейнае ўчасьце ў міжнародных зьездах гісторыкаў, славянскіх філёлёгаў і географаў, якія адбываліся ў апошніх гадох у Варшаве, а такжа ў зьездах гісторыкаў (Вільня), бібліатэкараў (Варшава) і музэолёгаў з усяе Польшчы.

**Сьвяткаваньне 450-ых угодкаў нараджэньня д-ра Фр. Скарыны.** Лічачы праўдападобнай гіпотэтычную дату нараджэньня Скарыны, пададзеную пр. Шчакаціхінам і прыпадаючую на 6.III. 1486 году, Беларускае Навуковае Т-ва зладзіла 8.III. 1936 г. урачыстую акадэмію, прысьвячаную памяці Скарыны.

На акадэміі былі прачытаны два рэфэраты: А. Луцкевіча — аб важнейшых фактах і датах з жыцьця Скарыны на падставе найнавейшых навуковых досьледаў; д-ра Я. Станкевіча — аб мове перакладаў Скарыны.

Першы рэфэрат, падтрымліваючы гіпотэзу Шчакаціхіна аб сувязі г. зв. „гэрбу“ Скарыны з зацьменьнем сонца 6.III.1486 году, даў вычэрпываючы аналіз ведамых дагэтуль фактаў і датаў з жыцьця Скарыны — ад выхаду ў сьвет капітальнае працы аб Скарыне Ўладзімірава (Владимиров) ажно да апошніх дзён, затрымліваючыся найбольш на найнавейшых выніках досьледаў Ів. Луцкевіча, Мілавідава, Шчакаціхіна, Войцехоўскай і А. Флороўскага. Рэфэрат падрабязна пазнаёміў сход з істотай неапублікаванага яшчэ тады друкам адкрыцьця праф. Флороўскага (Прага), каторы знайшоў дакумэнтальныя даныя аб тым, што Скарына пасьля 1532 году (у гэтым годзе, паводле Войцехоўскай, ён яшчэ жыў у Вільні і быў сэкратаром віленскага біскупа) ізноў выэміграваў заграніцу і асеў у Празе Чэскай, дзе займаў становішча каралеўскага „заградніка“ (гараднічага) і памер у 1551 годзе. З свайго боку А. Луцкевіч, разглядаючы спатыканы на друках Скарыны знак, каторы дасьледчыкі лічаць манаграмай з літараў Д і Т, двух Б або тых жа двух Б ды О, паказаў, што тут бясспрэчна ўходзіць яшчэ літара Г. У канцы рэфэрэнт заклікаў маладых беларускіх дасьледчыкаў да далейшых шуканьняў матэрыялаў, датычачых Скарыны і ягонае працы, паказаваючы на тое, што адкрыцьці Войцехоўскае і Флороўскага сьцьвярджаюць магчымасьць існаваньня яшчэ іншых нявыкрытых матэрыялаў.

Д-р Я. Станкевіч, аналізуючы мову скарынінскіх перакладаў, выясьніў, што ня ўсе яны могуць лічыцца перакладамі ў сучасным нам разуменьні. Перадмовы да асобных кнігаў Бібліі былі напісаны пабеларуску, а пераклады прадстаўляюць няпоўнае зьбеларушчаньне старабаўгарскае (г. зв. царкоўна-славянскае) мовы.

Сход пастанавіў зьвярнуцца да мястовага самаўраду Вільні з дамаганьнем назваць адну з вуліцаў места іменем д-ра Фр. Скарыны. Дамаганьне гэтае местам ня было споўнена.

**Дамаганьне даньня некатарым вуліцам Вільні імёнаў заслужаных сыноў Беларусі.** У сувязі з праектам віленскага магістрату зьменаў назоваў вуліцаў места Урад Бел. Навуковага Т-ва падаў 12.XI.1937 г. на рукі прэзыдэнта места Вільні мэморыял, дамагаючыся даньня дванаццацём вуліцам гэткіх імёнаў заслужаных беларусаў: 1. Софіі Гальшанскае, маткі Ягайлавічаў; 2. Рыгора Цамблака, першага асобнага мітрапаліта Вялікага Княства Літоўскага, выдатнага дзеяча ў галіне ўзвышэньня духовае культуры краю; 3. д-ра Фр. Скарыны, перакладчыка Бібліі на беларускую мову і закладчыка друкарні ў Вільні — першае для ўсяе Усходняе Эўропы; 4. братоў Мамонічаў, заслужаных віленскіх друкароў канца XVI і пачатку XVII ст. ст.; 5. гэтмана Рыгора Хадкевіча, 6. князя Кастанціна Астрожскага; 7. князя Мікалая Радзівіла Чорнага, які вельмі заслужыўся нашаму краю ў часы рэфармацыі; 8. Льва Сапегі, канцлера В. Кн. Літоўскага, абаронька правоў беларускага народу, найвыдатнейшага гаспадарсьць-

венага дзеяча ў нашым краю ў XVI ст.; 9. вуніяцкага мітрапаліта Іозафата Вэльяміна-Рутскага; 10. Кастуся Каліноўскага, павадыра паўстаньня 1863 году, гарачага беларускага патрыёта і будзіцеля народу; 11. Яна Чачота, аднаго з „прамяністых“, шчырага працаўніка над падняцьцем народнае культуры, беларускага пісьменьніка; 12. Франціша Багушэвіча (Мацея Бурачка), беларускага паэты, дзейнага ўчасьніка паўстаньня 1863 году, віленскага культурнага дзеяча ў 80 — 90 гадох мінулага стагодзьдзя.

**Зварот да галавы польскага ўраду ў справе дапамогі беларусам з Фундушу Нацыянальнае Культуры.** Урад Беларускага Навуковага Т-ва паслаў на рукі старшыні Рады Міністраў матываваны мэморыял, дамагаючыся, каб з гаспадарсьцьвенага Фундушу Нацыянальнае Культуры была дадзена помач на беларускую навукова-дасьледчую працу беларускім культурным установам, у тым ліку — Беларускаму Навуковаму Т-ву на ўтрыманьне й разьвіцьцё Беларускага Музею і на выданьне „Гадавіка“. Адказу на гэта Т-ва не атрымала, але хутка пасьля гэтага Сойм зрабіў агульную пастанову аб тым, што грошы з Фундушу Нацыянальнае Культуры маюць ісьці вылучна на польскую культурную працу. Гэтак пытаньне аб дапамозе беларусам само сабой адпала.

**Праца ў сэкцыях Б. Н. Т-ва.** За апошнія пяць гадоў дзейнымі былі сэкцыі: літаратурна-мастацкая, языкаведная, гістарычная і музэйная (Музэйная Рада). Падаем важнейшыя рэфэраты, чытаныя і абгавораныя на паседжаньнях сэкцыяў:

I. У *сэкцыі літаратурна-мастацкай:* 1) *П. Сяргіевіча* — Праблемы мастацтва ў плошчы беларускага адраджэньня; 2) *Хв. Ільляшэвіча* — аб літаратурнай бібліяграфіі; 3) *А. Луцкевіча* — Фр. Багушэвіч у памяці сучасьнікаў; 4) яго-ж — Роля беларускае жанчыны ў тварэньні народнае песьні; 5) яго-ж — З. Нагродзкі і ягоныя беларускія вершы; 6) яго-ж — Недрукаваныя й недакончаныя творы Янкі Купалы; 7) д-ра *Ст. Станкевіча* — аб найнавейшых творах Натальлі Арсеньневай; 8) яго-ж — аб паэтыцкай творчасьці Максіма Танка; 9) *А. Луцкевіча* — Літаратурная творчасьць А. Ельскага ў беларускай мове і яго неапублікаваныя беларускія вершы; 10) яго-ж — Найважнейшыя культурныя факты ў беларускім жыцьці. — Апрача таго быў зроблены цэлы рад дробных паведамленьняў і прачытаны творы розных аўтараў, якія йшчэ ня былі друкаваны.

II. У *языкаведнай сэкцыі* праца датычыла галоўна справаў чысьціні беларускае мовы. Чыталіся таксама матэрыялы, прысыланыя карэспандэнтамі (адказы на апытаньнік Брачыслава Скарыніча аб беларускіх географічных і асабовых назовах). На пачатку 1938 г. д-р Я. Станкевіч прачытаў рэфэрат аб мове жалабы рыскае рады віцебскаму князю Міхаілу XIII-га стагодзьдзя (друкуецца). Адначасна была прачытана гістарычная спраўка аб гэнай жа жалабе, прысланая карэспандэнтам Б. Брэжга з Дзьвінску.

III. У *сэкцыі гістарычнай:* У сувязі з агульнапольскім зьездам гісторыкаў у Вільні ў 1935 годзе сябрамі сэкцыі былі распрацаваны шэсьць рэфэратаў на гэны

зьезд. Аднак, арганізацыйнае бюро зьезду закваліфікавала на зьезд толькі дзьве з шасьцёх тэмаў, лічучы, што рэшта не ўкладаецца ў рамках галоўнае тэмы зьезду. Гэтак на зьезьдзе былі прачытаны толькі два рэфэраты: *В. Грышкевіча* на тэму „Роля беларускіх земляў у польска-літоўскіх вуніях“ і *А. Луцкевіча* — „Народавольцы-беларусы і іх часопіс „Гомон“.

На зборках гістарычнае сэкцыі галоўным прадметам дыскусіі была гісторыя нашага краю ў беларускім аспэкце. Быў выпрацаваны плян дасьледчае працы, у аснову каторага пакладзены тэзы рэфэрату мгра М. Шкялёнка на тэму „Падзел гісторыі Беларусі на пэрыёды“ (рэфэрат надрукаваны на пачатку сшытка). Прачытаваліся й дыскутаваліся прысланыя карэспандэнтамі Б. Н. Т-ва ведамасьці й даклады (А. Флёроўскі — Прага, Б. Брэжга — Дзьвінск і інш.), а таксама чыталіся рэцэнзіі аб найнавейшых гістарычных працах, датычачых нашага краю, у розных мовах. У пачатку 1938 году прачытаны рэфэраты: *А. Луцкевіча* — Да гісторыі Беларускае Рэвалюцыйнае Грамады і мгра *М. Шкялёнка* — Аб пачатку адзінага беларускага гаспадарства (пара Міндаўга).

IV. *Музэйная сэкцыя (Музэйная Рада)* кіравала ўсёй працай Беларускага Музэю ім. Ів. Луцкевіча і бібліятэкі пры ім. За апошнія пяць гадоў закончана была інвэнтарызацыя экспонатаў і ўкладаньне каталёгу кнігазбору паводле аўтараў ды распачата ўкладаньне прадметнага каталёгу. У Музэі зроблены рад інвэстыцыяў дзеля выстаўленьня экспонатаў на агляд публікі (шкляныя шафы, вітрыны, манэкены). Значна пасунулася праца над парадкаваньнем архіву.

Лічба ахвяраваных Музэю ці купленых экспонатаў усьцяж узрастае. За апошні справаздаўчы год яна выразілася цыфрай 784, ня лічачы архіўных матэрыялаў. Лічба кніг, якія прыбылі ў бібліятэку за той-жа пэрыёд часу, дасягла некалькі сот томаў.

Музэй абслужыў сваімі экспонатамі рад выставак, як Міцкевічаўскую выстаўку ў Наваградку (1932 г.), выстаўку народнага мастацтва ў Варшаве (IPS) і Марыёлёгічную выстаўку ў Вільні (1937 г.), выстаўку „Палесьсе“ у Львове (1938 г.). Свае экспонаты пасылаў такжа ў Латвію— на Славянскую выстаўку, каторая адбылася ў Рызе ў 1931 годзе. У Музэі й архіве пры ім працаваў рад навуковых дасьледчыкаў — як з Польшчы, так і з заграніцы (Францыі, Бэльгіі, Нямеччыны, Швэцыі, Норвэгіі, Гішпаніі і інш.). Шмат карысталіся й карыстаюцца музэйнымі матэрыяламі і кнігазборам абсольвэнты віленскага унівэрсытэту дзеля сваіх дыплёмных работаў, а таксама студэнты УСБ, Інстытуту Палітычных Навукаў, Педагогіюму і інш.

Фрэквэнцыя ў Беларускім Музэі: у 1933 г. — 1320 асоб (48 экскурсіяў), у 1934 — 920 ас. (51 экск.), у 1935 — 903 ас. (42 экск.), у 1936 — 1494 асобы (64 экск.), у 1937 — 4569 асобаў (110 экск.). За першыя чатыры месяцы 1938 году Музэй адведалі звыш 4.000 асобаў (70 экскурсіяў).

**Кіраўніцтва Б. Н. Т-ва і яго сэкцыяў.** Склад *Ураду* Т-ва ў выніку частковых перавыбараў на агульным штогоднім сходзе сябраў 6-га лютага 1938 г.: д-р Б. Грабінскі, А. Луцкевіч (старшы-

ня), Орса, д-р Я. Станкевіч, інж. А. Трэпка (скарбнік), мгр. М. Шкялёнак (сэкратар) і Ул. Самойла (бібліатэкар). Кандыдаты: мгр. В. Русачанка, В. Грышкевіч, П. Сяргіевіч. Склад *Рэвізыйнае Камісіі:* мгр. С. Паўловіч, мгр. А. Гаўрылічанка і М. Пяцюкевіч. Кандыдаты: А. Уласаў і інж. Малевіч.

Старшыня літ.-маст. сэкцыі д-р Ст. Станкевіч, старшыня гістарычнае сэкцыі мгр. М. Шкялёнак, старшыня языкаведнае сэкцыі д-р Я. Станкевіч, старшыня музэйнае сэкцыі А. Луцкевіч.

**Ахвяры** на друк „Запісаў Б. Н. Т-ва“ злажылі наступныя асобы: бязыменна — 5 зл., Э. Будзька — 2, А. Гаўрылічанка — 15, д-р Б. Грабінскі — 40, В. Грышкевіч — 5, Б. Лапыр — 10, А. Луцкевіч — 10, С. Паўловіч — 1, М. Пяцюкевіч — 4, В. Русачанка — 13, д-р Я. Станкевіч — 5, кс. Ул. Талочка — 5, А. Трэпка 35, А. Уласаў — 3, мгр. М. Шкялёнак — 29, — разам 187 зл.

Урад Б. Н. Т-ва просіць усіх грамадзян, задэклёраваўшых, але ня выплаціўшых дагэтуль сваей складкі, магчыма хутчэй выпаўніць самахвотна ўзяты на сябе абавязак.

# АД ВЫДАВЕЦТВА.

У працягу цэлага раду гадоў працуе ў Вільні Беларускае Навуковае Таварыства, якое ўтрымлівае найпаважнейшую беларускую культурную ўстанову — Беларускі Музэй ім. Івана Луцкевіча — і гуртуе беларускіх працаўнікоў на навуковай ніве дзеля супольных арганізаваных навуковых досьледаў, абыймаючых беларускую мінуўшчыну і беларускую сучаснасьць. У працах нашых навукоўцаў і мінуўшчына і сучаснасьць беларуская прадстаўляюцца ў новым — беларускім аспэкце, выкрываючы праўду аб беларусах і Беларусі, часта скажоную чужацкімі дасьледчыкамі.

Аднак, нястача грошы на друкаваньне нашых працаў не дае магчымасьці паказаць гэту нашу праўду шырэйшаму грамадзянству— і свайму, і чужому. У 1933 годзе мы выдалі першы том нашых працаў у пастаці „Гадавіка Беларускага Навуковага Т-ва“. „Гадавік“ выклікаў дадатнюю ацэну з боку навуковых часопісаў краёвых і загранічных. Але дзеля выданьня далейшых томаў „Гадавіка“ мы ня мелі матэрыяльнае магчымасьці.

У нашай выдавецкай працы мы можам абаперціся выключна на матэрыяльнай дапамозе свайго ўласнага грамадзянства і зварачаемся да ўсіх сьведамых беларусаў з просьбай аб выплачваньні на друк працаў Беларускага Навуковага Т-ва хоць найменшае, але сталае штомесячнае складкі. За сабраныя грошы, у меру іх наплываньня, будзем выдаваць „Запісы Беларускага Навуковага Таварыства“ сшыткамі, як гэты першы.

У склад рэдакцыйнае калегіі „Запісаў“ з даручэньня Ўраду Т-ва ўвайшлі: А. Луцкевіч, Ул. Самойла, д-р Ян Станкевіч, д-р Ст. Станкевіч, мгр. М. Шкялёнак.

Грошы можна высылаць на імя скарбніка Бел. Навук. Т-ва інж. Антона Трэпкі (Antoni Trepka, Wilno, ul. Garbarska 5, m. 6).

# INHALT.



Verf. weist die Unhaltbarkeit der bisherigen Einteilung der Geschichte Weissrutheniens in Perioden nach, wie sie von russischen und polnischen Historikern, sowie von dem weissruthenischen Historiker Prof. Ihnatouski angenommen wurde. Diese Historiker teilten die Geschichte Weissrutheniens in folgende Perioden ein: 1) die Polozker Zeit, 2) die litauische Zeit — von der Mitte des XIII Jahrh. bis zur Mitte des XVI Jahrh., d. h. bis zum Abschluss der Lubliner Union mit Polen, 3) die polnische Zeit — von der Lubliner Union bis zum Untergang Polens Ende des XVIII Jahrh., 4) die russische Periode — von dem Anschluss Weissrutheniens zum Russischen Reich bis zu unseren Tagen. Verf. ist der Ansicht, dass die Ereignisse, die die Grundlage dieser Einteilung bilden, keinen Umbruch in der Entwicklung Weissrutheniens bedeutet haben. — In Wirklichkeit stand die Entwicklung Weissrutheniens in Abhängigkeit von einer Reihe von Ursachen im Zusammenhang mit dem Bestehen und späteren Untergang der weissruthenischen Eigenstaatlichkeit. Im Zusammenhang damit schlägt M. Schkjalonak folgende Einteilung der Geschichte Weissrutheniens in Perioden ein:

I. Die Zeit der weissruthenischen Eigenstaatlichkeit in Gestalt mehrerer unabhängiger weissruthenischer Fürstentümer vom IX bis Mitte des XIII Jahrh. Es geht nicht an diese Periode als Polozker Zeit schlechthin zu bezeichnen, da die weissruthenische Kultur, insbesondere die wirtschaftliche Entwicklung Weissrutheniens in jener Zeit in Polozk, wie in Smolensk, im Fürstentum Turowo - Pinsk, die Polozk nicht untertan waren, die gleiche Stufe erreicht hatte. Trotz der staatlichen Zersplitterung der weissruthenischen Länder bestand schon damals die Gemeinsamkeit der Nation, der Sprache, der Kultur, der Religion, der Handelsinteressen und Verbindungen.

II. *Die Zeit der einheitlichen weissruthenischen Eigenstaatlichkeit.* Von der Mitte des XIII Jahrh. bis zu Ende des XVII Jahrh. unter der Bezeichnung des Grossfürstentums Litauen.

Mitte des XIII Jahrh. setzte die Vereinigung der weissruthenischen Länder unter Mindowg ein. Den Grundkern des Staates Mindowgs bildeten weissruthenische Länder — Nawahradak, Slonim, Wolkowysk und Horadzjen — mit der Hauptstadt in Nawahradak. Von hier aus trat Mindowg mit seiner weissruthenischen Heermacht den Eroberungsfeldzug an, der ihn in den Besitz der ethnographisch litauischen Länder Aukschtota und Žomoitj setzte, die er dem weissruthenischen Kernland anschloss. Später in vollzogen alle weissruthenischen Fürstetümer — mit Polozk, Pinsk, Minsk und Witebsk freiwillig ihren Anschluss. Als letztes Fürstentum trat Smolensk

bei, dies schon zur Zeit der Herrschaft Witowts. Der vereinigte weissruthenische Staat, in dem die Litauer eine verschwindend kleine Minorität bildeten, erhielt die Bezeichnung Grossfürstentum Litauen.

Diese Bezeichnung bewog russische und polnische Historiker die Periode des Lebens des weissruthenischen Volkes im vereinigten weissruthenischen Staat als «litauische Zeit» zu bezeichnen. In Wirklichkeit aber spielten die Litauer in diesem Staat nie eine irgendwie bedeutende Rolle, es war ein weissruthenischer Staat. Im Grossfürstentum Litauen herrschte die weissruthenische Sprache, die weissruthenische Kultur, auch die Grundlagen der staatlichen Organisation und die Rechtsnormen waren keineswegs litauisch, sondern weissruthenisch. Nach der Lubliner Union bewahrte das Grossfürstentum seine Selbständigkeit bis zum Ende des XVII Jahrh.

III. Die staatliche Selbständigkeit des Grossfürstentums Litauen geht erst Ende des XVII Jahrh. unter, seit jener Zeit beginnt die dritte Periode—*die Periode der staatlichen Abhängigkeit* — erst von Polen, späterhin—nach Polens Untergang — von Russland. Die bisher angenommene Einteilung dieser Periode in «polnische» und «russische» Zeit, deren Abgrenzung die Teilung Polens bildet, ist unhaltbar, da der Anschluss Weissrutheniens an Russland Ende des XVIII Jahrh. bis zum polnischen Aufstand von 1863 keine grudsätzlichen Aenderungen der Lebensbedingungen der Weissruthenen mit sich brachte.

ler Autorität folgende Hauptbesonderheiten des Schreibens fest: 1) die Verdoppelung der Konsonanten in der Gruppe Konsonant + ьj + Vokal; 2) «akanje» — der Uebergang nicht akzentuierter Konsonanten in *a*. Ferner gibt die Sprache des Schreibens Anlass zur Feststellung, das Fremdwörter in die weissruthenische Sprache unmittelbar aus Westeuropa (und nicht über Polen) — Eingang gefunden haben. Alschliessend gelangt der Verfasser zur folgenden allgemeinen Charakteristik der Sprache des Schreibens: «Aus den Besonderheiten der Sprache des Schreibens ist klar ersichtlich, dass das Schreiben in nord-oestlicher (kriwitscher, dissimilierter) Mundart der weissruthenischen Sprache Verfasst ist. Ferner ist klar, dass derjenige, der das Schreiben geschrieben hat, es *bewusst* in weissruthenischer Sprache schrieb und keineswegs bestrebt war seine Sprache durch dem kirchen-slavischen entnommene Ausdrücke auszuschmücken».



---

## ЗЬМЕСТ 1-га СШЫТКУ:

стр.



---

Выданьне Беларускага Навуковага Т-ва ў Вільні.

Druk. M. Bogatkiewicza i B. Trućko. Wilno, ul. Mickiewicza 22-a.